ЧАМУ РАСПАЎСЯ СССР

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 10(39) — 2021

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

СЯРГЕЙ ГРУНТОЎ
НАЖНІЦЫ СВЯТОГА ФАБІЯНА

ЦІМОХ АКУДОВІЧ
ДЗВЕ РЭСПУБЛІКІ МАГНАТАЎ БЖАСТОЎСКІХ

ВІТАЛЬ ЧЫРВІНСКІ
КУКЛІНЬСКІ, ФЕНАМЕНАЛЬНЫ ШПІЁН

## МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ
## ЖЫЦЦЁ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

16+

## Ад рэдакцыі

У чым сакрэт шчасця? Як у складаныя часы захаваць унутраны спакой і ўнутраны агонь адначасова? Калі мы рыхтавалі матэрыялы для тэмы гэтага нумара, мы доўга размаўлялі з дзецьмі і ўдавою Міхася Чарняўскага.

«Каханне праходзіць, — сказала Святлана Чарняўская. — Але пара застаецца моцнай, калі замест кахання прыходзіць павага да чалавека, адчуванне надзейнасці, упэўненасці ў ім».

Гэтая павага ўключае і павагу да справы жыцця, да прынцыпаў таго, з кім дзеліш лёс. Гэта таксама ўменне дараваць, забываць кепскае.

«Апошнія месяцы цяжарнасці я ляжала, — расказвае Святлана Чарняўская пра нараджэнне другога дзіцяці. — Наш сын Максім нарадзіўся 6 жніўня 1976 года. 1 верасня таго года дачка Алеся пайшла ў першы клас. А Міша з'язджае на раскопкі. Я застаюся адна з двума дзецьмі... І вось Міша тыдні праз тры прыязджае — такі натхнёны, летуценны. Кажа: “Ты ўяўляеш: сёння раніцай я сяджу на ўзгорку, унізе поле, туман, і ў мяне такое ўражанне, што зараз адтуль, з хмызнякоў, выйдуць маманты...” Як я яго тады не задушыла, я не ўяўляю», — смяецца Святлана.

Некаторыя пары ад адной такой нетактоўнасці распадаюцца, а яны адно аднаму даравалі і былі шчаслівыя. Гэта было спакойнае шчасце, з роду тых шчасцяў, якія здаюцца вечнымі.

«У мяне перад ім было шалёнае каханне ў інстытуце, — успамінае Святлана Чарняўская. — Страсці гарэлі, на кожнае спатканне я ішла як на бой. А тут было настолькі ўтульна, кацянём на грудзі ў яго хацелася скруціцца і муркатаць».

Мы нездарма ў «Нашай гісторыі» ўвесь час стараемся пабачыць жыццё людзей вачыма іх блізкіх, праецыруем іх прыклады на наш час.

*Наша мінулае ў нашай зямлі,*
*Быццам бы ў кнізе, якую чытаў*
*Ты кожны дзень, каб мы чулі, што мы*
*Самі павінны ўсё ж вызваліць з траў*
*Замкі старыя і продкаў дамы,*
*Бо без былога не будзе нічога:*
*Ні Беларусі, ні шляху да Бога...*

Гэты верш паэт Віктар Шніп напісаў у 2013 годзе, правёўшы ім Міхася Чарняўскага ў іншы свет. І гэтымі словамі ёміста акрэсліў крэда адной з ключавых постацяў у гісторыі змагання за Беларусь.

Як удавалася патрыёту і яго блізкім не зняверацца, не апускаць рук, цвёрда трымаючыся формулы «Вечная толькі Беларусь», можна даведацца ў гэтым нумары з артыкула Андрэя і Паўліны Скурко (**старонкі 4—25**).

Наша Гісторыя
10/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота маладога Міхася Чарняўскага з сямейнага архіва.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефон:** +375 (33) 311-28-43

**E-mail:** kramanasha@gmail.com

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.11.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 1772021.
Наклад 3005.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка ў друкарні «Маскоўскі друкарскі двор», вул. 3-я Харашоўская, д. 18, к. 1, 123298, г. Масква, Расійская Федэрацыя
www.printyard.ru, тэл. +7 (499) 283-64-29

# Падпісацца? Праз Рэдакцыю!

Пачынаючы з ліпеня 2021 года падпіску праводзіць і дастаўляе выданні сама Рэдакцыя. Кошт — 7 рублёў за адзін нумар. Пры падпісцы на паўгоддзе зніжка — 35 рублёў за шэсць нумароў. Гэта значыць, што вы плаціце за пяць і шосты атрымліваеце ў падарунак.

Аформіць падпіску можна двума спосабамі.

1. **Усіх, хто карыстаецца інтэрнэтам,** просім зайсці на сайт **Nashakrama.by**, выбраць часопіс, перыяд падпіскі і аплаціць анлайн па картцы. Можна ў любы момант падпісацца адразу на год!
2. **Хто не карыстаецца інтэрнэтам**, можа прыйсці ў любы банк ці на пошту і зрабіць аплату за падпіску па рэквізітах, указаных ніжэй. Пасля выражце і запоўніце квітанцыю, змешчаную ў нізе старонкі. Дашліце яе нам лістом па адрасе: 220004, Мінск, а/с 62. Альбо адпраўце звесткі ў тэлеграм ці вайбер на нумар +375 33 311 28 43.

**Рэквізіты для аплаты** ў банку ці на пошце (праз «адвольны плацеж» ці «плацеж па рэквізітах» — «произвольный платеж» или «платеж по реквизитам»):
*Атрымальнік плацяжу:* Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы»
*УНП атрымальніка:* 190786828
*Рахунак атрымальніка:* BY84BLBB30120190786828001001
*BIC банка атрымальніка:* BLBBBY2X
*Прызначэнне плацяжу:* Падпіска на часопіс «Наша гісторыя» на перыяд ........
*Сума плацяжу:* ........

**!** Вельмі просім усіх прыярытэтна карыстацца спосабам 1. Пры ім будзе меней збояў і меншая нагрузка на калектыў Рэдакцыі пры апрацоўцы замоваў.

Тэлефон для даведак па пытаннях падпіскі: +375 33 311 28 43.

**ПАДПІСНЫ АБАНЕМЕНТ**
на часопіс **«Наша гісторыя»**

| Кошт падпіскі | | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|

На _____ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Каму ____________________

Куды ____________________















Тэлефон для кантакта

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце)

Даслаць на адрас 220004, Мінск, а/с 62.




47


69


15


74


88







З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

# Міхась Чарняўскі

## *Жыццё для Беларусі*

**«Ты як тэнісны мячык: мяккі зверху і надзвычай цвёрды ўнутры», — казала яму жонка. Сіла яго асобы была ў спалучэнні вялікага сэрца і вялікай цвёрдасці. Будучы страшэнна абаяльным, мяккім, чалавечным, ён ураз станавіўся сталлю, калі справа тычылася Радзімы. Ідэаліст са сталёвым стрыжнем — як Чарняўскаму ўдавалася захоўваць і ўнутраны спакой, і ўнутраны агонь у складаныя часы? Пішуць Андрэй і Паўліна Скурко.**

Сваёй універсальнасцю Чарняўскі і нагадваў чалавека эпохі Адраджэння, у класічным значэнні выразу.

«Я хацеў усім быць, усё рабіць», — казаў Чарняўскі.

«Чарняўскі працаваў за цэлы інстытут», — заўважае пісьменнік Уладзімір Арлоў.

«Я неяк яму сказала: каб ты не распыляўся, а займаўся адной археалогіяй, ты б ужо быў членкарам Акадэміі навук! А ты як пырскі шампанскага!» — расказвае жонка Святлана.

**Міхась Чарняўскі**
(1938, Круці, Мядзельскі раён – 2013, Мінск) — беларускі гісторык, археолаг, пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч.
У навуцы — з 1960-га. У 1974-м быў звольнены з Акадэміі навук падчас разгрому так званага «Акадэмічнага асяродку». У 1990–2001 гадах загадваў аддзелам археалогіі каменнага і бронзавага векоў Інстытута гісторыі НАН. Дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін БДУ.
Адна з цэнтральных фігур руху за незалежнасць Беларусі ў другой палове XX стагоддзя.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

Малады Чарняўскі **на раскопе ў Юдзінаве** Бранскай вобласці (Расія).

**«Акупанты знішчылі большасць таго, што на паверхні. Уся наша гістарычная спадчына цяпер у зямлі»**

«Каб я займаўся адной археалогіяй, я б даўно павесіўся», — адказаў Чарняўскі. Чалавеку трэба пераключэнні, трэба разнастайнасць.

Шчодра адораны гуманітарна, ён добра маляваў, пісаў выдатныя кнігі для серыі «Школьная бібліятэка», стаяў ля вытокаў палітычных партый і грамадскіх рухаў. Але археалогія была першай справай яго жыцця. Усе іншыя заняткі толькі дапаўнялі.

«Мне падабаецца адчуваць свабоду. А прафесія археолага вельмі свабодная. Сам выбіраеш тэму, табе ніхто ні ў чым не ўказвае. Выбіраеш, калі і куды паедзеш, колькі там будзеш, дзе застанешся начаваць...» Але археалогія была для Чарняўскага не толькі сферай унутранай эміграцыі. Ён бачыў ад яе вялікую практычную карысць для краіны: «Акупанты знішчылі большасць таго, што на паверхні. Уся наша гістарычная спадчына цяпер у зямлі».

«Беларусь была яго пакліканнем, — кажа жонка. — Ён нават неяк сказаў: я раблю толькі тое, што можа прынесці карысць Беларусі. Не мне, сям'і ці некаму там — а толькі Беларусі».




ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Асабістыя інструменты археолага Чарняўскага**: нож, компас і рулетка. З імі ён абышоў краіну.

### Беларусь часоў Траянскай вайны

Чарняўскі быў адным з тых, хто вярнуў беларусам цікавасць да ўласнай гісторыі. Прычым не шукаў лёгкіх шляхоў, беручы «ў распрацоўку» самыя інтрыгоўныя яе эпізоды. Яго займалі пытанні, якіх не ўздымаў ніхто: што было на беларускіх землях у часы Траянскай вайны? ці магла ў бронзавым веку існаваць агульнаеўрапейская рэлігія?

А свой радавод Чарняўскі ведаў на шмат пакаленняў углыб. Пад Мядзелам, у вёсках Круці і Лук'янавічы, прозвішча Чарняўскі сустракаецца яшчэ ў інвентарах часоў Рэчы Паспалітай. Чарняўскі звяртаў увагу, што гэтыя землі належалі каралю, а яго продкі былі менавіта каралеўскімі сялянамі. ▶

▶ Яны мелі большую свабоду ў параўнанні з прыватнаўласніцкімі, іх нават судзіў каралеўскі суд, а не пан. Каралеўскім сялянам быў уласцівы вышэйшы ўзровень свядомасці і ўласнай годнасці.

Міхась Чарняўскі нарадзіўся перад самым раздзелам міжваеннай Польшчы — у 1938-м. Яго папярэднікамі былі пакаленні Ларысы Геніюш (гл. пра яе артыкул Андрэя Скурко ў № 10/2020 «Нашай гісторыі»), Максіма Танка, а таксама школьных таемных таварыстваў накшталт «Чайкі» і групы Расціслава Лапіцкага. Чарняўскі, ясная справа, не захаваў у памяці «польскіх часоў». Затое добра адклаліся настроі пасляваеннай вёскі, якая, перажыўшы дзясятак зменаў улады за жыццё аднаго пакалення, спачатку не лічыла і саветы чымсьці трывалым. Міхась Міхайлавіч з усмешкай расказваў, як вясковыя цёткі пераказвалі адна адной чуткі, што амерыканскія танкі ўжо ў Паставах.

Але на Мядзельшчыне, дзе рос Чарняўскі, гэтае пакаленне гадавалі ўжо бацькі, якія не называлі сябе «тутэйшымі», а ясна ўсведамлялі сябе беларусамі. «Ты — беларус, паўтары гэта!» — казаў бацька малому Міхасю, садзячы яго на калені. ▶


**У Круцях**, дзе нарадзіўся Чарняўскі, захавалася старая брукаванка.

ФОТА МАКСІМА ЧАРНЯЎСКАГА


**Гэтая вялікая іголка належала бацькам Чарняўскіх.** Ёю шылі кажухі і абутак.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Я буду араць, ты будзеш араць, твой сын будзе араць — толькі тады гэтая зямля нарэшце стане прыдатнай для жыцця**


Свой радавод Чарняўскі ведаў на шмат пакаленняў углыб. **Гарадзішча блізка радзімы Міхася Чарняўскага.**

ФОТА МАКСІМА ЧАРНЯЎСКАГА

## Яго Аргенціна

«Яшчэ ў дзяцінстве было страшэннае жаданне пайсці за лясы, за гарызонт. Я не люблю доўга на адным месцы і раскопкі праводзіць. Люблю рукзак на плечы — і за гарызонт, у разведку.

Малым я любіў падарожнічаць па картах: па Амазонцы, Паўднёвай Амерыцы... Яшчэ ж Амазонка ў вярхоўях была пункцірам паказаная, Антарктыда амаль уся пункцірам, Сібір Паўночная. Я думаў: каб толькі паспець, каб не адкрылі да мяне! Вот туды траплю, адкрыю, нанясу на карту лініяй...

Каб мне было дадзена некалькі жыццяў, я быў бы і пісьменнікам, і геолагам, і вынаходнікам, і місіянерам у Афрыцы. І абавязкова зноў бы шукаў сваю Аргенціну...

Мая мама была рамантычнай асобай. Яшчэ перад замужжам хацела збегчы ад вясковай шэрасці за акіян, у краіну з чароўнай назвай Аргенціна. Туды шмат хто з мядзельцаў перабіраўся на заробкі. Яна чамусьці спазнілася ў Мядзел, і вярбоўшчык з чарговай партыяй беларускіх эмігрантаў ужо быў ад'ехаўшы з мястэчка. Мама мне пра Аргенціну расказвала не раз. Асабліва калі было халадна і галадна на нашым хутары Гінеўка.

Самы першы ўспамін, які занатавала мая дзіцячая памяць, — пераезд з родных Круцяў на хутар Гінеўка. Вечар. Прыцемак. Уперадзе на гружаным пажыткамі возе сядзяць тата з мамай. Я ляжу ззаду на нейкіх мяккіх клунках і гляджу на вяршаліны старых хвой, якія праплываюць на шэрані захмаранага неба. З таго неба на твар сеецца дробненькі дажджавы пыл, асядае як мокрае павуцінне. Колы гойдаюцца на каранях у глыбокіх каляінах лясной дарогі. Цішыня і спакой навокал. Маўчаць і бацькі. Кожны думае пра сваё, развітваючыся з бацькоўскімі Круцямі, кіруючыся ў новы свет, мяняючы вясковае жыццё на хутарское.

Можа, з-за гэтага першага свядомага адчування жыцця мяне і сёння хвалюе і прыводзіць у ціхую меланхолію нізка захмаранае неба і дробненькае дажджовае сяйво на твар. І каб быў затуманены далягляд і адзінота».

У Гінеўцы хлопчык пайшоў абследаваць новыя мясціны. Суседкі выпадкова знайшлі яго на балоце, што раскінулася на дзясяткі кіламетраў. «Бяздонныя ямы ў твані, ваўчыныя логвы на глухіх астравах... Аднак, думаю, з мяне не атрымаўся б беларускі Маўглі...

Я ўнаследаваў ад мамы рамантызм і летуценнасць, адчуванне адухоўленасці прыроды, імкненне дасягнуць сваёй Аргенціны... Толькі мне ніколі не хацелася з'ехаць з Беларусі. Я хацеў знайсці сваю Аргенціну тут».



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**На падмурку хаты ў Гінеўцы** — хутары, дзе прайшло яго ранняе дзяцінства. Міхась Чарняўскі меў асаблівыя пачуцці да гэтага месца.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Дзед Міхася Чарняўскага служыў у Вільні.** На фота: з правага боку са сваім аднапалчанінам.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Мама і тата Міхася Чарняўскага пасля пераезду ў Гінеўку.** Першыя саветы (1939—1941 гады), да прыходу немцаў. Сам Міша — злева. Справа — брат Мяфодзя.

## ▶ Ад савецкай улады выйгралі

Ад савецкай улады Чарняўскія асабіста выйгралі: разам са знішчэннем польскай дзяржавы ў 1939-м перастаў існаваць і банк, у якім бацькі ўзялі крэдыт, каб купіць зямлю, «прыдбаць свой кут».

Хутар, успамінаў Чарняўскі, быў на глiністых пагорках. «Я буду араць на адзін бок, ты будзеш араць, і твой сын будзе так араць — і мы разарам гэтыя пагоркі», — казаў бацька малому Міхасю.

Хлопец уяўляў такую будучыню са страхам. «Я не ўнаследаваў ад таты апантанай працавітасці на зямлі, да ламоцця ў суставах і крывавых трэшчын на далонях... Мама казала, што я падобны да дзеда Юзы Мехавіча. Той быў вясёлы і жартаўлівы, а любімым ягоным заняткам было лавіць рыбу». А між тым, усвядомлена ці не, усё жыццё Міхась Чарняўскі пражыў па прынцыпе: араць, араць — і ўрэшце разараць. Хутарскі хлопец, ён зрабіў сябе сам, чытаючы. Ненавідзеў марнаваць час. Адзін раз бацька хацеў яго адлупцаваць: усе былі на полі, а Мішы няма; сталі шукаць — знайшлі ў цёмным хляве: ён знайшоў паміж бярвёнаў шчэлачку і чытаў.


**Любімае возера Чарняўскага — Баторына,** адно з нарачанскіх.

ФОТА МАКСІМА ЧАРНЯЎСКАГА

## Пошуг маланкі: Расціслаў Лапіцкі

Са школы і на ўсё жыццё Лапіцкі стаў для Чарняўскага вялікай тэмай для рэфлексіі і вялікім сімвалам.

«Я вучыўся ў мядзельскай школе, — успамінаў Міхась Чарняўскі. — Звычайная школа. І прыносяць на ўрок батанікі малюнкі на шараватай паперы markdown-free розналяровымі алоўкамі, прыгожа так зробленыя. Інфузорыі туфелькі. Мне ў перапынку старэйшыя хлопцы кажуць: “Маляваў Слаўка Лапіцкі. З нашай школы. Яго расстралялі за Беларусь”. Мяне раптам гэта працяла. Значыць, за Беларусь можна так быць, што могуць нават расстраляць!..

У 1950-м летам яго расстралялі. А я скончыў пачатковую школу, чатырохгадовую. Бачыў тыя ўлёткі — яны яшчэ былі свежыя, яшчэ цёплыя ад яго рук. Расклейвалі іх мядзельскія школьнікі — іх з аўтаматамі забіралі з урокаў... Гісторыя настолькі ўразіла, што я сам пісаў улёткі: “Прэч расійскіх акупантаў”. Ішоў у школу і па дарозе раскідваў. Шчасце, што была зіма, белыя лісткі ніхто не знайшоў... Бацькам было б за тое...

Я быў у дзявятым класе, калі брат вярнуўся з войска. Сядзім у святліцы. І брат да мяне звяртаецца: “А чего ты по-белорусски говоришь? Надо по-русски”. Я як на яго вызвераўся: я беларус! І ты беларус! Брат, на восем гадоў старэйшы, разгубіўся... І я бачу, яму даходзіць нешта... Пасля мы былі з ім аднадумцамі.

А калі я быў у дзясятым класе, то пазнаёміўся са мною хлопчык з суседняй вёскі. І прынёс беларускія кніжкі: хрэстаматыя беларускай літаратуры і “Гісторыя беларускае літаратуры” Гарэцкага. У хрэстаматыі я прачытаў сапраўднага Купалу, сапраўднага Коласа, сапраўднага Бядулю, Гаруна — дзясятак паэтаў, пісьменнікаў, якіх ніколі не чуў... Калі раней было нешта стыхійна і Лапіцкі як міф, то гэтыя кніжкі — гэта быў ужо навуковы грунт. Зусім іншая Беларусь адкрылася раптам. Беларусь незалежная. Вольная Беларусь. Мацярык гэты. Калі раней я адчуваў на ўзроўні Мядзела пад сабой грунт беларускі, тут раптам стаў адчуваць увесь кантынент беларускі».

«У антыкамуністычным пасляваенным руху я не ведаю больш моцнай і гераічнай асобы за Расціслава Лапіцкага», — пісаў Чарняўскі.

Чарняўскі напісаў дзве кнігі пра Лапіцкага і мядзельска-смаргонскае падполле: **«Як пошуг маланкі» і «Не бойцеся ахвяраў і пакут».**





### Маскіроўка, адаптацыя

«Мастацтва магчымага» — так кажуць пра палітыку. І гэты выраз прыходзіць у галаву, калі глядзіш на фота Чарняўскага, Караткевіча і іх сяброў-мастакоў з «Паддашка», навукоўцаў з «Акадэмічнага асяродку». Людзі на ім падобныя да пастарэлых філаматаў. Група асветнікаў і даследчыкаў, занятых збіраннем скарбаў культуры, прыгожым пісьменствам і мастацтвам, дасягаючы вяршыняў у тых нешматлікіх сферах, у якіх беларускасць была афіцыйна дазволеная ў БССР 1970-х.

Гэта яны без спасылкі ўстаўлялі ў свае артыкулы ідэі забароненага Антона Луцкевіча, уносілі ў хрэстаматыі пад выглядам народных аўтарскія казкі Вацлава Ластоўскага. Колькі часу ішло на пошукі, колькі сіл на адаптацыю і маскіроўку...

БССР мела толькі беларускі фасад. Але чалавек жыве ў сваім часе — іншага няма.

### Знікне, як дым

«У Мішы нават кроплі сумнення не было, што гэта скончыцца. Ён так і казаў: нічога не бывае вечным», — кажа Святлана Чарняўская.

Кастусь Каліноўскі для Чарняўскага быў прыкладам: «Уяві, што было б, каб Каліноўскі ўцёк у Парыж, як многія», — разважаў ён.

## Каб нечаканасці здараліся, трэба для іх працаваць

Чарняўскі заўсёды верыў, што Беларусь стане незалежнай, хоць пра незалежнасць тады гаварылі мала: «Мы бачылі задачу ў тым, каб захаваць беларускі дух, спыніць дзікую русіфікацыю». ▶




**Уладзімір Караткевіч з мастакамі і гісторыкамі.** Стаяць злева направа Мікола Купава, Уладзімір Басалыга, Леанід Шчамялёў, Яўген Кулік, Аляксей Марачкін, Міхась Ткачоў, Уладзімір Караткевіч, Міхась Чарняўскі, Міхась Рагалевіч. У той час яны былі неафіцыйна вядомыя як суполка «На Паддашку», бо збіраліся ў майстэрні Яўгена Куліка, на мансардзе дома па праспекце Незалежнасці, 18, насупраць Камітэта дзяржбяспекі. Гісторык Міхась Чарняўскі на гэта фота трапіў не выпадкова. Гэты негаваркі і з гадамі ўсё больш суровы на выгляд чалавек быў адной з цэнтральных фігур, якія падрыхтавалі здабыццё Беларуссю незалежнасці. У ніжнім радзе крайняя справа — жонка Чарняўскага Святлана.

«Я жонцы казаў, я гісторык, папомніш маё слова: мы з табой будзем вельмі старыя, але гэтая імперыя рухне, — расказваў некалі Міхась Чарняўскі. — Яна рухнула, мы не такія старыя былі. А такой здавалася глыбай, такой сцяной непрабівальнай. Але гісторыя непрадбачлівая. Агульную тэндэнцыю можна ўлавіць, а канкрэтыка прыходзіць

## Аднадумцы і ворагі

Аднадумцы пазнавалі адно аднаго проста: слухалі, хто гаворыць па-беларуску, і падыходзілі знаёміцца. Што праўда, падысці гэтак мог і правакатар.

«У інтэрнаце прыходзіць адзін з суседняга пакоя і прапануе навучыць, як рабіць выбухоўку. Я кажу: ведаеш, не трэба».

Лісты ўсе перачытваліся, пераглядаліся. Падслухоўвалася ўсё.

Такі час спараджае параною: аднойчы за правакатара прынялі самога Чарняўскага. Са слынным гісторыкам Міхасём Ткачовым яны пазнаёміліся на раскопках. «Да мяне адгукаецца высокі чарнявы хлопец і пачынае гаварыць па-беларуску — без акцэнту... І так мы пасябравалі з ходу. Ён з Амсціслава, “недасека”, ведае гісторыю. Мы разам лавілі ракаў, купаліся, з дзяўчатамі гулялі, бадзяліся па наваколлі, працавалі. Ну, найбольш, канечне, лавілі ракаў. О, як мы іх лавілі!

Пасля вярнуліся ў Мінск, ён прыйшоў раз да мяне ў інтэрнат, я паставіў на стол бутэльку гарэлкі і пачаў яму казаць: ты павінен вучыцца, вучыцца выдатна, каб заняць пасаду, мы мусім усё абсадзіць сваімі людзьмі. Ён глядзеў на мяне, акругліўшы вочы, потым развітаўся і збег хуценька. І прапаў. Зусім прапаў. Толькі гады праз два сустрэліся, ён кажа: а я ж падумаў, ты правакатар. Дык я табе ў кішэню ціхенька тры рублі — цана бутэлькі гарэлкі — усунуў і збег».

абсалютна нечакана. Але, каб гэтыя нечаканасці здараліся, трэба для іх працаваць».

Кола Чарняўскага старалася правесці сваіх людзей на пасады, заахвочвала іх да ўступлення ў КПСС.

«Такі быў Генадзь Каханоўскі — цудоўны чалавек, краязнавец, вучоны. Святы чалавек. Адданы Беларусі неверагодна быў. Ён казаў: “Міша, разумееш, я вось кладуся спаць і думаю, што тое, у якім рабстве Беларусь, — гэта сон. І што я прачнуся — і раптам успомню, што гэта ўсё быў сон, а прачнуўся ў свабоднай Беларусі”. Колькі ён адбіваўся, але мы яго прымусілі, проста сілком упіхнулі — уступіў у партыю. І стаў дырэктарам Мінскага абласнога музея ў Маладзечне, і вельмі многа зрабіў для Беларусі».

«Было ў нашым асяроддзі некалькі асоб, якія практычна не ўдзельнічалі ў сходках, але назапашвалі і хавалі інфармацыю. Іх задачай было ўцалець пры магчымым разгроме руху і арыштах і стаць перадатчыкам ідэі Адраджэння наступнікам. Прозвішчаў іх я не буду называць і цяпер».

**«Каб я займаўся адной археалогіяй, я б даўно павесіўся»**

«Нас было нямнога, і мы не маглі траціць сілы яшчэ і на агульнадэмакратычныя задачы. Лічылася, што гэтым можа займацца маскоўская інтэлігенцыя, мы ж павінны былі канцэнтравацца на


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**На юбілей сябры Чарняўскіх зрабілі яму ручной работы альбом з фотамі, жартамі і выцінанкамі.** Здаецца, любоў атачала і суправаджала Міхася Міхайлавіча. Гэта ён быў магнітам любові ці час быў такі?




**З акна кватэры Чарняўскіх** адкрываецца від на хрушчоўкі Заводскага раёна.

нацыянальным. Нават у час акупацыі Чэхаславаччыны ў 1968-м пасля цяжкага роздуму і дыскусіі вырашылі ўстрымацца ад акцый пратэсту. У Маскве тады выйшлі, іх арыштавалі, але мова руская не паменшылася ад гэтага. А нам нельга было падстаўляцца».

### Фанатык, шызафрэнік...

Філаматаў у 1820-я разагналі, калі адзін з іх напісаў на дошцы ў аўдыторыі Віленскага ўніверсітэта палітычны лозунг.

Беларускія асяродкі 1960–1970-х абвінавацілі ў распаўсюджанні брашуры ўкраінскага пісьменніка Івана Дзюбы «Русіфікацыя ці інтэрнацыяналізм?». Яе прывёз у Мінск акурат Чарняўскі. Другой яго «віной» было тое, што адвёз у Кіеў грошы, сабраныя беларусамі на падтрымку пераследаваных украінскіх інтэлігентаў. Пра гэта прагаварыўся на допыце адзін з паплечнікаў, літаратуразнавец Мікола Прашковіч.

Калі на допыт выклікалі Чарняўскага, ён выпіў супакаяльныя таблеткі і пайшоў. Ён ведаў, што пагражае. Спецслужбы спрабавалі «зляпіць» антысавецкую арганізацыю з асветніцкіх асяродкаў і выклікалі на допыты каля ста чалавек. Ва Украіне з такога пачаўся сапраўдны разгром нацыянальнай інтэлігенцыі: сотні страцілі працу, дзясяткі трапілі ў турму. Адзін з найлепшых украінскіх паэтаў XX стагоддзя Васіль Стус памрэ падчас галадоўкі ў мардоўскім лагеры.

На тым допыце напоўніцу праявілася і натура Чарняўскага, і востры розум, і фантастычны гумар. «Нас вінавацілі ў тым, што мы выступалі супраць лініі партыі ў нацыянальным пытанні. А лінія была — адзіны савецкі народ. А адзіны савецкі народ і на мове павінен размаўляць адзінай. Не па-чукоцку ж ён будзе размаўляць, вялікі савецкі народ... Гэтак казалі мне яны. А я кажу: вы разумееце, у Інданезіі каля сотні розных моў, там розныя-розныя нацыянальнасці, найбольшая — яванская, іх там недзе працэнтаў 70, а дзяржаўнай мовай яны выбралі мову самага маленькага народа, каб не было нікому крыўдна. ▸

**Тоненькая Святлана кінулася ў вочы Міхасю. А сам ён зачараваў яе голасам: аксамітным тэмбрам.** За спінай у Святланы было нямала болю. Калі яна была на другім курсе, памерлі яе мама і тата. Тата — пасля доўгага і страшнага туберкулёзу, мама — ад раку. На плячах Святланы застаўся брат-васьмікласнік.
Сустракаліся Святлана і Міхась тры месяцы. А пасля яе паслалі на практыку ў Добруш. «І пабаяўся ён, што я з Добруша не вярнуся, — усміхаецца Святлана. — А я сама баялася, што яго, такога прыгожага, прычаруе нейкая іншая дзяўчына».
Распісаліся яны імгненна. Але Міхась не змог сам запоўніць заяву: у яго ад хвалявання дрыжэлі рукі.
Святлана спачатку хацела застацца на сваім прозвішчы, але яе адгаварыла супрацоўніца загса: «Нашто гэта табе, дзяўчыначка?» Святлана ніколі не пашкадавала, што паслухала яе.



▶ Чаму, я кажу, не выбраць чукоцкую мову для Савецкага Саюза? Вы — шызафрэнік, кажуць. Чукоцкай, па-мойму, я іх дабіў. Брэжнеў выступае на палітбюро на чукоцкай мове...»

Асабліва следчага цікавіў пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Яго, лічыў Чарняўскі, хацелі «паставіць на чале» выдуманай арганізацыі.

Адчуўшы, куды хіліцца размова, Міхась Міхайлавіч віртуозна абсек гэтую спробу: «А Караткевіч увогуле не патрыёт! У яго жонка па-руску размаўляе!»

«Ну вы фанатык...» — уразіўся супрацоўнік.

«Вообще-то мы должны присмотреться ко всем, кто разговаривает по-белорусски!» — грымеў сакратар парткама Акадэміі навук («Ну гэта ўжо занадта!» — абсек яго Кандрат Крапіва. Чытай пра гэта ў «Нашай гісторыі» № 6/2021). Партыйныя прапагандысты па ўсёй Беларусі пачалі ў лекцыях расказваць аб выкрыцці нацыяналістычнай арганізацыі, якая рыхтавалася адарваць Беларусь ад «сям'і братніх народаў», імкнулася да рэстаўрацыі капіталізму.

Распускалі чуткі пра сувязь з замежнай разведкай і падвалы са зброяй. «Тады яшчэ не былі ў модзе наркотыкі, таму нам стараліся прыпісаць п'янства. Калегам укладвалі ў вушы, што нас за гэтыя правіннасці ў трыццаць сёмым расстралялі б, а так толькі трэба звольніць з працы».

## «Я за ўсё жыццё бачыла, каб Міхась плакаў, двойчы: калі памерла яго мама і калі ён прыйшоў з працоўнай кніжкай дахаты, звольнены»


З сямейнага архіва Чарняўскіх

Каб зняць страшнае напружанне пасля выгнання Чарняўскага з акадэміі (1974), **яны з жонкай паехалі ў Еўпаторыю да яго стрыечнага брата**. Амаль без грошай.

З Акадэміі навук Чарняўскага звольнілі. Была і негалосная забарона публікаваць і спасылацца на яго работы. «Суаўтар прыходзіць: "Міша, можа, ты не будзеш крыўдаваць, калі пад адным прозвішчам? Кажуць, што, можа, калі ты вернешся, гадоў мо праз дваццаць..." Я кажу: ну друкуй, друкуй. Няма, цябе ўжо няма! Ні ў падрадкоўніку, нідзе. Ты не жывы, ты мёртвы. Гэта было трошачкі дэнервавуёва...»


З сямейнага архіва Чарняўскіх

**10 рублёў доўгу на дваіх на момант роспісу.** У Мішы рука трэслася ад хвалявання, калі пісаў заяву, і яе напісала Святлана.

«Ён быў чалавек навукі і, акрамя навукі, не ўяўляў сябе ў іншым. І калі яго выкінулі з акадэміі... Я за ўсё жыццё бачыла, каб Міхась плакаў, двойчы: калі ён прыйшоў з працоўнай кніжкай дахаты і калі памерла яго мама, — успамінае Святлана Чарняўская. — Ён плакаў, быў у страшэнна роспачным стане, і я пазваніла яго сябру і земляку Васілю Шаранговічу. Яны цэлую ноч прасядзелі на кухні».

Як жонка перанесла гэтыя выпрабаванні? «Канечне,

перажываеш. Але ж тады не было такога жаху, што пайшоў на допыт і не вярнуўся. Я Мішу казала: цяпер ты ізгой, з табой не вітаюцца — пачакай, пра цябе яшчэ ў кніжках напішуць! Так і выйшла. А праз два гады ў нас нарадзіўся Максім — назло ворагу».

«У год выгнання Мішы з акадэміі (1974) паехалі мы з ім у Еўпаторыю да яго стрыечнага брата. Пад канец грошы скончыліся, дзялілі адну порцыю кашы на дваіх. Як толькі выйшлі з цягніка ў Мінску, то пайшлі пешкі ў майстэрню да Яўгена Куліка пазычыць 5 рублёў на праезд. На шчасце, той быў на месцы», — расказвае Святлана Чарняўская.


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

У вясельнае падарожжа маладыя пайшлі ў паход на лодцы па Нарачанскіх азёрах. А пасля — на Крывінскі тарфянік, дзе муж капаў. «Толькі я спусцілася ў канаву, бачу: а там такая штучка ляжыць выгнутая, з дзірачкай. Аказалася, наручнае ўпрыгажэнне», — успамінае Святлана Чарняўская. Яна прыняла мужа такім, якім ён быў, і любіла і яго самога, і справы яго жыцця. **На фота: мядовы месяц на Крывінскім тарфяніку.**

### «Подвиг народа бессмертен»

З дапамогай сяброў-мастакоў Чарняўскі ўладкаваўся на прадпрыемства, якое выраблялa наглядную агітацыю. Сябры схавалі той факт, што новы ляўкаснік — кандыдат навук. «Іначай яго ніхто б не ўзяў!» — успамінае Васіль Шаранговіч.

Неўтаймаваны археолаг тым часам арганізаваў на мастацкім камбінаце гістарычны гурток...

«Мы збівалі шчыты, абшывалі фанерай і грунтавалі, а мастакі малявалі камуністаў з чырвонымі кніжачкамі. Якраз Ніксан прыязджаў, вось я пад Ніксана грунтоўку рабіў... Потым мы іх развозілі і ставілі. Самая вялікая работа была на Круглай плошчы: лозунг “Подвиг народа бессмертен”. Гэта яшчэ з майго часу. Гэта я рабіў. З гэтых літар зарабіў за пяць дзён столькі, колькі зарабляў у інстытуце за месяц. Аддаваў жонцы грошы, і астатнія дні быў вольны».

Праз некалькі гадоў шум заціх, пра «падвалы са зброяй» было забыта — і Міхася Чарняўскага вярнулі ў Інстытут гісторыі. Пазней ён нават 12 гадоў будзе загадчыкам аддзела археалогіі.

Звальненне, допыт, жыццё ў чорным спісе моцна загартавалі Чарняўскага. У выніку ён вывеў некалькі формул: «Начальства ▶

Таленавіты чалавек таленавіты ў многім. **Карыкатуры Чарняўскага кармілі сям'ю падчас «забароны на прафесію» пасля яго звальнення з Акадэміі навук.** Заўважце, што яны анітрохі не састарэлі.









не вечнае. Вечная толькі Беларусь», «Перажывём і яшчэ болей умацуемся!» і класічнае коласаўскае «Досыць нас ужо пужаць, мы ўжо пужаныя!».

Чарняўскі любіў адзіноту і цішыню. Раскоп сабе рабіў дзе-небудзь у гушчары, ды і кабінетнай работай часта займаўся па выхадных. «На ўсіх сталах ляжалі рукапісы, архіўныя паперкі, копіі з кніжак, і сярод усяго гэтага сядзеў Чарняўскі з ускудлачанай галавой, з бутэлькай кефіру і кавалкам батона...»

Любіў распавядаць байку пра дзяўчыну, якой маці параіла памыць шыю, бо абяцалі прыйсці сваты. Дачка адказвала: «Ай, мама, а раптам не прыйдуць. Тады сядзі, як дурань, з памытай шыяй!» — успамінаюць фірмовы гумар Чарняўскага калегі-археолагі Мікола Крывальцэвіч і Эдвард Зайкоўскі.

«Ён мне нагадваў вясковага дзядзьку. Размова як быццам была адкрытая і даверлівая, але з прыхаваным сэнсам. Маўляў, пакажы, з якімі думкамі і мэтамі ты да мяне прыйшоў, а я паразважаю, што з таго ў нас можа атрымацца і ці ўвогуле нешта атрымаецца. А каб не нарывацца на цяжкую і гнятлівую размову, нечакана сыходзіў ад суразмоўцы», — згадвае Крывальцэвіч.

## Жонка Чарняўскага пачала гаварыць па-беларуску на людзях толькі праз гадоў дваццаць. Да таго саромелася

### З добрых сем'яў

Ва ўмовах русіфікацыі прынцыпова беларускамоўныя людзі асабліва ставіліся да выбару спадарожніка жыцця.

«Стварыць сям'ю, падабраць пары — гэта была праблема цэлага пакалення, — успамінаў Зянон Пазняк. — Мы знаёміліся з дзяўчатамі, ішла харошая гаворка — і тут пытанне: а почему вы разговариваете по-белорусски?»



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Чарняўскія з дзецьмі** Максімам і Алесяй.

Чарняўскі ўспамінаў, як з фальклarыстам Арсенем Лісам хадзілі на танцы — прыглядаць сабе жонак. Беларускамоўных знайсці не ўдалося, яны пабраліся з дзяўчатамі з добрых сем'яў і беларусізавалі іх. Падобным чынам ажаніўся і Караткевіч.

Ліс успамінаў, як вадзіў маладога чарнявага фатографа Зянона Пазняка да Максіма Танка — фатаграфаваць (а насамрэч — знаёміць з дочкамі). Ад той сустрэчы засталіся класічныя фота Танка з маці.

Жонка Чарняўскага, з якой яны жылі душа ў душу, загаварыла па-беларуску на людзях не адразу.

«Спачатку яна гаварыла па-беларуску толькі са мной,



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У калідоры хрушчоўкі Чарняўскіх ляжаць камяні.** Самы вялікі — з падмурка хаты ў Гінеўцы, дзе Чарняўскі вырас.

Замест гіры ў доме Чарняўскіх быў 17-кілаграмовы крамянёвы жаўлак з нібы ўруччам*, знойдзены гісторыкам у адной з экспедыцый.

* **Уručча** — па-беларуску так называюць тое, за што трымаюць рукою.

## Калдуны ад Міхася Чарняўскага

«Як толькі пажаніліся, Міша папярэдзіў, што адзінае, што ён не есць, — гэта смажаных цвікоў. Ён любіў малако, малочнік быў неверагодны. Па-простаму, з батонам. Супы самыя простыя, вясковыя: капусту, бульбяны...

Але легенда нашай сям'і — калдуны. Аднойчы мы іх зрабілі, і потым госці кожны раз іх патрабавалі. Рабіў іх Міша, адзінае, што даваў мне, — замяшаць фарш і паглядзець бульбу па солі. На калдуны ішло вядро бульбы», — расказвае Святлана Чарняўская.


ГОТОВЫ С МИЛОЙ ГРИШКЕВИЧ / YOUTUBE.COM

1. Бярэцца вялікая насоўка, па кутках завязваюцца вузельчыкі, і гэты «капялюш» надзяваецца на галаву.

2.Бульбу палупіць (з разліку 2–3 на чалавека, калі госці ўжо пад'еўшы, а калі галодныя, то можна і болей), надраць на дробнай тарцы. Адціснуць залішнюю вадкасць у місу, а крухмал, які асеў, вярнуць назад. Дадаецца соль і адно яйка, каб трошкі схапілася.

3. Фарш: свініна, трохі з салам, можна і не зусім трохі. Многа дробна пакроенай цыбулі. Добра, не шкадуючы, дадаць спецый, але больш духмяных, чым вострых. Яйка нельга, бо будзе як пельмень, усё асобна, а трэба, каб бульба і фарш з'ядналіся. Фарш павінен быць мяккім, радкаватым — можна дабавіць малако.

4. На далоні робіцца блінок, у сярэдзіну кладзецца кавалак фаршу, краі заварочваюцца — фармуецца калдунчык і кладзецца ў алей на патэльню. Смажыцца «збольшага», не да канца.

5. Бярэцца вялікая качачніца. Складваюцца акуратна калдуны, паміж слаямі — трохі смажанай цыбулі. Зверху многа смажанай цыбулі і шкварак (грудзінкі). Паверсе — смятана (не, не нашкодзіць, бо толькі па вялікіх святах). Тушыцца на маленькім агні, можа, з гадзіну.

Заключны этап: устае галоўны раздавальшчык калдуноў Васіль Шаранговіч і раздае па заказе каму колькі. І нехта папросіць качачніцу — адшкрабаць прысохлыя да дна («Гэта мне, гэта мне!»).

«Я малы круціўся ля бацькоў на кухні, — успамінае Максім Чарняўскі. — А яны рыхтаваліся прымаць гасцей. Усе ведаюць, як стамляе такая падрыхтоўка. І вось я чую адчайную бацькаву фразу: "Усё! Стукне 10 гадзін — і скажу ім вымятацца к чортавай мацеры!" Прыйшлі госці, сядзяць, весяляцца. Бацькі, зразумела, весяляцца і адпачываюць разам з імі. Тут гадзіннік адбівае дзесяць. Госці заслухаліся — і ў поўнай цішыні я кажу: "А тата сказаў, што госці ў 10 павінны вымятацца к чортавай мацеры!" Рэакцыяй была цішыня, пасля дзікі рогат — і бяседа працягнулася».

пры чужых у яе комплекс быў, саромелася, што дрэнна гаворыць. Гэта доўгі час працягвалася. Можа, гадоў дваццаць».

Апошнія гады Чарняўскі працаваў ва ўніверсітэце. Пасля Акадэміі навук гэта быў падарунак лёсу: з аднаго боку, ён застаўся ў навуцы, мог капаць і даследаваць — а з другога боку, меў магчымасць працаваць з моладдзю, перадаваць досвед.

А гады за два да смерці яго запрасілі праводзіць заняткі са школьнікамі. Ён прэзентаваў свае «Дзесяць бітваў», прывозіў зуб мамантняці і каменную сякеру. Дзеці станавіліся ў чаргу, кожны падыходзіў і браў у рукі.

«Ён прыязджаў страшэнна ўражаны цяперашнімі дзецьмі», — кажа жонка.

Чарняўскі быў аптымістам: «Кожны павінен проста рабіць ▸

**Усё наша жыццё — гэта выпадковасць. Гэта мільён выпадковасцяў**



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Сямейная традыцыя Чарняўскіх** — выраблянь да Новага года сямейныя календары.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

З жонкай (злева) і сваццяй (справа) **на хрэсьбінах малодшай унучкі.**

▸ сваю справу, і рабіць добра! І рана ці позна ўсё прыйдзе», — успамінае Зміцер Санько, ветэран выдавецкай справы.

### «Уставай, падла»

Чарняўскі пахаваны ў родных Круцях побач з продкамі. Ён адышоў нечакана: вярнулася анкалогія, пра якую мала хто ведаў, але якая адбілася на яго твары — досыць прыгледзецца да фатаграфій апошняга перыяду яго жыцця.

А апошнія гады ён ужо вельмі адчуваў сыход. «Казаў: “Жонка, у мяне задніца плоская як дошка, я ўжо не магу сядзець! — расказвае Святлана. — Але я ўставала — ён за камп’ютарам, я клалася — ён за камп’ютарам. Гнаў і гнаў. Ляжа і баіцца заснуць: “Уставай, падла, ты ж ведаеш, што табе трэба працаваць. Жонка, спіхні мяне, ну падпіхні нагой, табе што, цяжка!” Казаў: няма часу, я раблю тое, што ніхто не зробіць.

Прасіў: разбудзі праз 20 хвілін. Я думаю: хай паспіць, падумаеш, гадзіну паспіць. А ён потым крычыць: “Чаму ты мяне не разбудзіла!” — “Каб ты адпачыў”. — “Я ўжо даўно адпачыў”».

За тры месяцы да смерці яшчэ схадзіў у сваю апошнюю археалагічную разведку — па Стаўпеччыне, да вытокаў Нёмана. Хацеў знайсці помнік, які адшукаў у маладосці, —



**Гэтую каменную сякеру і зуб маманцяняці** Чарняўскі даў патрымаць тысячам школьнікаў.




«А вы мамантаў самі бачылі?» — спытаў Чарняўскага сарамлівы школьнік пасля выступу ў школе. Чарняўскі быў нястомным асветнікам. За жыццё ён пабываў у сотнях школ са сваімі кнігамі.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Жывое мастацтва на сценах пад’езда Чарняўскіх нагадвае першабытнае мастацтва**, наскальны жывапіс, які так любіў Міхась Міхайлавіч.

**Атмасфера ў доме Чарняўскіх.** Пейзаж злева падораны сябрам — мастаком Кастусём Харашэвічам.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

і знайшоў. Археалогія надавала яму сіл. У час той экспедыцыі неўтаймаваны Чарняўскі намацаў новую тэму, яшчэ нікім не распрацаваную, і падзяліўся ёю з сябрам Змітром Санько: «Лёс нашай моладзі, што эміґравала ў 1930-х з Польшчы ў СССР. А іх было вельмі шмат. З аднаго нашага невялікага Мікасецка — чатыры хлопцы. З суседняй вёскі — ажно восем. У сярэднім можна прыняць — пяць чалавек з кожнай вёскі. Вось палічы, колькі ў Заходняй Беларусі было праваслаўных вёсак, і памнож на пяць. І практычна ўсіх іх расстралялі як польскіх шпіёнаў. А гэта ж былі самыя лепшыя — самыя дзейныя і нацыянальна сведамыя... І хто б гэта ўзяўся за гэтую тэму? Бо пройдзе час — не будзе ў каго пытацца». Другім яго клопатам было паўстанне супраць калгасаў у вёсцы Крыжоўка ўлетку 1950 года: «Паводле свайго напалу яно мацнейшае і за паўстанне нарацкіх рыбакоў 1935 года, і за байкот перапісу 1937 года на Лепельшчыне. Гэта бомба! Я не паспеў яе рвануць...» «Ніва не араная да самага гарызонту. Разрываешся — раздвойваешся, растройваешся, распяцёрваешся — і ўсё адно не паспяваеш...»

Сярод тых, хто наведаў навукоўца на смяротным ложку, быў і яго іракскі аспірант, якога ён жартам называў «іракезам».



ФОТА МАКСІМА ЧАРНЯЎСКАГА

Чарняўскі быў заўзятым грыбніком. **Белы грыб з лесу на яго радзіме.**

## Бокс і невялікія краіны

Як адпачываў Чарняўскі? Як і Нэльсан Мандэла, ён абажаў глядзець бокс. «Я хадзіла адвярнуўшыся, каб і краем вока не ўбачыць гэты мардабой. Я ж доктар, для мяне такое непрымальна! А для яго гэта быў выкід адрэналіну», — смяецца жонка.

Міхась Чарняўскі таксама любіў футбол і вялікі тэніс. У тэнісе перажываў за беларусак, а ў футболе заўзеў за каманды невялікіх краін, расказвае сын.

Яшчэ Чарняўскі надзвычай любіў сур'ёзнае псіхалагічнае кіно, оскараўскія фільмы. З захапленнем глядзеў «Твін Пікс».

І быў фанатычным грыбніком.

▶ «Трэба падрыхтаваць тэзісы для канферэнцыі, а яго няма тут. І датэлефанавацца не магу — не адказвае. Дзе ён? Можа, суніты ў палон узялі?» Да апошніх хвілін Чарняўскі заставаўся навуковым кіраўніком. І да апошняга не губляў гумару.


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Анкалогія, пра якую мала хто ведаў, але якая адбілася на яго твары** — досыць прыгледзецца да фатаграфій апошняга перыяду яго жыцця.

### «Ах, якія былі пагоні, ах, якія былі баі...»

Міхась Чарняўскі меў цудоўны голас. А ў канцы жыцця нечакана для ўсіх напісаў песню. «Міша сядзіць у адным пакоі, за камп'ютарам, я ў другім. І чую, штосьці сабе напявае — незвычайнае, і мелодыя цудоўная... «Што ты спяваеш?» — «А, так». — «Сам сачыніў?» — «Так». — «Дай словы!» — «Ай, кінь». І я стала хітрыць: ён раз праспявае — я запішу, што паспела, другі — я дадам радкоў. У мяне дагэтуль тая паперка захавалася».

Калі Міхася Чарняўскага не стала, пра песню даведаўся Зміцер Вайцюшкевіч. Максім Чарняўскі



наспяваў пачутую ад таты мелодыю, і той зрабіў аранжыроўку ў рытме факстрота.

## «Перажывём і яшчэ больш **умацуемся**»

Міхась Міхайлавіч катэгарычна не хацеў браць кіраўніцтва над аспірантам з Ірака. Тэма была звязаная з іракскім неалітам, і навуковец хапаўся за галаву: я ж нічога пра гэта не ведаю! Але пасля пачаў чытаць, кансультавацца з калегамі з-за мяжы... Тлумачыў гэта тым, што ў іракцаў яшчэ няма сваёй школы археалогіі: іх даследуюць еўрапейцы, амерыканцы, а трэба, каб было сваё. Ён вельмі добра разумеў праблемы малых народаў, якія пад ціскам большых губляюць сваю ідэнтычнасць, свае мажлівасці. І ўсёй душой спачуваў ім. Аспірант абараніўся ўжо пасля смерці Чарняўскага ды вярнуўся ў Ірак — развіваць нацыянальную археалогію.

Метастазы працялі арганізм. Апошнія тыдні Чарняўскі правёў у бальніцы. Паміраў па-рыцарску адважна, як героі яго кніг.

«Як зачараваны, не мог я адарваць пагляд ад яго глыбокіх вачэй. З паўхвіліны мы маўчалі, неадлучна гледзячы адзін на аднаго. У гэты момант я зразумеў (думаю, і ён таксама), што бачымся апошні раз... Развітваючыся, Міхась узняў сціснутую ў кулак руку і цвёрда прамовіў: "Жыве Беларусь!"», — успамінае Зміцер Санько.

«Мы былі ў яго палаце, і бацька сказаў нешта пра смерць, — расказвае Максім Чарняўскі. — Я пачаў моўчкі рыдаць. А ён так глядзеў на мяне... У вачах была такая спагада, такі боль за тое, што мне балюча... Ён сказаў: "Не плач, сын, я ведаю, што гэта такое. Калі паміралі мае бацькі, я хадзіў да суседзяў тэлефанаваць Свеце — пытаўся, ці можна неяк палегчыць іх адыход. А паміж намі і суседзямі рос сліўняк. І вось я ішоў па ім, спыняўся, падаў у траву, качаўся і плакаў ад болю. А потым падымаўся і ішоў далей"».

У апошні дзень жыцця Міхась Чарняўскі абзваніў усіх сяброў і развітаўся. «Бывайце. Трымайцеся, хлопцы!» — былі яго апошнія словы. ◆


ФОТА МАКСІМА ЧАРНЯЎСКАГА

**Чарняўскі пахаваны на радавых могілках у Круцях**, побач з бацькамі. На помніку яго жыццёвы дэвіз — «Беларусь перадусім».

У матэрыяле выкарыстаныя ўспаміны Міхася Чарняўскага і яго сяброў, якія сабрала Алеся Белявец, дачка Міхася Міхайлавіча. Кніга ўспамінаў гатовая, цяпер сям'я шукае сродкі на яе выданне.

# «Праязджаючы праз Зэльву, я на ўсялякі выпадак прыгнуўся і доўга перашнуроўваў кеды»

## Як Чарняўскі выратаваў успаміны Ларысы Геніюш

Гэта было, здаецца, у 1964 годзе. Я толькі што вярнуўся з войска і рваўся ў археалагічную экспедыцыю. Перад паездкай на Гарадзеншчыну, ведаючы пра мой намер зазірнуць у Зэльву, Мікола Прашковіч даў мне рэкамендацыйны ліст. І вось я на вуліцы Савецкай, каля дома № 7. На дварышчы, поўным кветак, мяне сустрэў сабака. Не вельмі вялікі, але з добрым голасам.

Адчыніліся дзверы, і паказалася паўнаватая прыгожая жанчына з уважлівымі і, як падалося, насцярожанымі вачыма. Я прывітаўся і прадставіўся. А затым працягнуў ліст: «Гэта вам, Ларыса Антонаўна, ад Міколы Прашковіча». Гэта было як пароль. «Заходзьце, сябра Міхась, у хату».

Пазней Мікола Канаш расказваў мне ў Жлобіне, як першы раз сустрэўся з Ларысай Геніюш. Зайшоў у хату і сказаў: «Я — Мікола Канаш». «А як вы пацвердзіце гэта?» Тады Мікола напісаў беларускай лацініцай у куце ліста паперы *ŽB*. Так пазначалі свае таемныя пасланні беларускія вязні ў канцлагерах Інты.

Што запомніў з той першай сустрэчы і пазнейшых таксама, гэта што яна выкарыстоўвала зварот «сябра». «Спадара» я не памятаю з яе вуснаў. Можа, так было заведзена ў пражскім беларускім асяроддзі?

Пару разоў, калі я трапляў у Зэльву на Савецкую, 7, у хату Геніюшаў забягала суседка — пазычыць ці запалак, ці солі, з нейкай крываватай усмешкай і вельмі пільным позіркам. «У яе заўсёды канчаюцца запалкі, калі ў мяне госці», — жартавала Ларыса Антонаўна.

Аднойчы яна паказала мне прыладу, якой збіралася бараніцца ад небяспекі. Гэта была цяжкая рабочая сякера з груквасткім тапарышчам. Я дастаў з заплечніка і падараваў ёй сваю палявую сякерку з пластыкавай рукаяткай, лёгкую і зручную, з лязом як брытва.

Шкада, калі тая сякерка прапала. Гэта быў бы такі красамоўны экспанат у будучым музеі паэткі, у Зэльве, на вуліцы імя Ларысы Геніюш, 7.

Сярэдзіна лета 1982 года.

Былі звычайныя роспыты: як здароўе, як справы, што новага на беларускай ніве? І пры размове Ларыса Антонаўна раптам прыклала палец да вуснаў і паказала на столь: адтуль маглі падслухоўваць. Затым моўчкі вынесла з суседняга пакоя папку і сцішана сказала: «Рабіце з гэтым што хочаце. Я вам давяраю, Міхаська...» Я развязаў тасёмкі, разгарнуў папку — і страпянулася сэрца: «Благаслаўленны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўленны маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялізнай планеце, які называўся Жлобаўцы...»




**«Рабіце з гэтым што хочаце. Я вам давяраю, Міхаська...»**

І чаму менавіта тым летам яна перадала мне рукапіс з успамінамі? Можа, прадчувала блізкі канец зямнога існавання? Ёй пачала ўжо з'яўляцца чорная жанчына — вястунка бяды ў бацькоўскім родзе Міклашэвічаў...

Я страшэнна расхваляваўся. Рукапіс быў надрукаваны на яе партатыўнай пішучай машынцы, і выглядала, што гэта быў першы экзэмпляр.

Мне стала не да гасцявання. Зараз трэба было тэрмінова выбрацца з Зэльвы, трапіць у Менск, зрабіць ▸

Працяг **на старонцы 46**.

# Караткевіч

— Калі я быў яшчэ ў Пількаўшчыне, я збіраў кніжкі. Гэта яшчэ былі танныя кніжкі, я іх купляў многа. Паэзію купляў, бо спрабаваў вершы пісаць, але яны ў мяне не атрымліваліся… І вось сярод гэтага мора зборнічкаў тоненькіх, такіх там «Вясне насустрач», «Глыбокае ворыва», «Высокая хваля», «Песня трактарыста» — раптам знаходжу кніжачку ў кардоннай вокладцы «Матчына душа».

Адкрываю і чытаю першы верш. Чакаю — абавязкова пра партыю ці хоць пра ўдарніка ці даярку. І раптам: «У векавечнай Бацькаўшчыне клёны нячутна пачынаюць аблятаць». Я не веру сваім вачам. Пагартаў.

Ні аднаго трактарыста, ні адной даяркі. І я закахаўся ў гэтага аўтара. Уладзімір Караткевіч прозвішча.

У яго вельмі цікавыя вочы.

У яго ўвесь твар быў такі… Быццам бы скульптар рабіў трошкі п’янаваты. Не класічны твар. Вельмі арыгінальны твар.

У яго нават вочы рознакаляровыя былі. Вельмі ўважлівыя вочы. Я не магу нават сказаць, якія ў яго былі вочы. Яны ўсё гаварылі...

Ён прыязджаў, мы сустракаліся, потым мяне ў войска забралі на два гады з аспірантуры...

Я вярнуўся, мы сустракаліся, ну, канечне, чытаў абсалютна ўсё яго.

І тут выйшла «Дзікае паляванне караля Стаха» ў «Маладосці». А я пайшоў у аспірантуру з такой Валяй Нікіцінай, а дзявочае яе прозвішча было, па-мойму, Валадковіч, са шляхты берасцейскай. Яна працавала ў Брэсцкім музеі, потым узялі яе ў Маскву, яна там была два гады, пісала дысертацыю, ну і стала адчуваць сябе трошкі масквічкай. Ну а мы тут такія, правінцыя. І гэта ў яе трошачкі так праскоквала ў размовах, у адносінах. І наша начальства яе тут незалюбіла. Хаця яна дысертацыю ўжо зрабіла амаль што, назад яе не ўзялі: не трэба нам тут такая ганарыстая. Хай едзе, дзе была. І яна страшэнна забітая гэтым, што трэба ехаць у Брэст. І яна вельмі любіла дэтэктывы. І я кажу: слухай, я табе дам такі дэтэктыў, такі дэтэктыў. Яна рускамоўная, канечне, была. Я кажу: во дэтэктыў, каб, можа, на душы лягчэй было. Яна як села, дык аж да Брэста яго чытала.

Пасля праз пару гадоў Уладзімір Караткевіч прыехаў да Івана Калесніка (Калеснік быў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута), і была нейкая сустрэча з выкладчыкамі. І ў размове яна кажа: “А я вас ведаю. Я чытала і захоплена дзіка вашым «Дзікім паляваннем караля Стаха»”. — “А хто гэта вам прапанаваў?” А яна кажа: “А вы

Адзін з археолагаў у «Чорным замку Альшанскім» спісаны з Міхася Чарняўскага. І апісаная Караткевічам гісторыя, як галоўнага героя заваліла ў сутарэннях, — гэта з апавядання Чарняўскага пра здарэнне, якое адбылося з ім у крэйдавым кар’еры ля Краснасельскага. Ён расчышчаў профіль старажытнай шахты, калі адкос абваліўся на яго. Чарняўскі самлеў і апрытомнеў ад мату экскаватаршчыка, які прыбег яму на дапамогу. А фота бялявай **дачкі Чарняўскіх Алесі (справа)** Караткевіч хацеў паставіць у завяршэнне «Зямлі пад белымі крыламі». Але выдавецтва аддало перавагу трохі меншай дзяўчынцы. **А на фота злева — прысвячэнне Караткевіча на адрас дачкі і сына Міхася Чарняўскага.**

не ведаеце, мой такі знаёмы Міша Чарняўскі". І завязалася гэта, потым яны перапісваліся, перазвоньваліся і так пажаніліся.

Ён мяне называў "сват".

## Ён казаў: у мяне як бы садрана скура і ў мяне кожны нерв на паверхні

Усё наша жыццё — гэта выпадковасць. Гэта мільён выпадковасцяў. Я выпадкова перадаў гэту кніжку, выпадковасць — што яны сустрэліся, усё да аднаго — выпадковасць. Хаця ў прынцыпе нават я, хаця я Валю добра ведаў, быў не вельмі за тое, а другія гатовыя былі крыжам легчы, каб ён не жаніўся з ёй. Ну як гэта так: прарок беларускага роднага адраджэння жэніцца з разведзенай нейкай кабетай, рускамоўнай, тым больш якая чытае гісторыю КПСС у Брэсцкім педінстытуце, якая не гаворыць па-беларуску!



З сямейнага архіва Чарняўскіх



З сямейнага архіва Чарняўскіх

**Міхась Чарняўскі і Уладзімір Караткевіч (справа)** у вандроўцы.

Ну што вы, калі ў яго былі такія экзальтаваныя актрысы, колькі было трагедый... Як гэта так — Валодзя жэніцца з Валяй! Ён ажаніўся. Яна стала для яго анёлам-ахоўнікам, яна стала другой маці для яго. Ён быў вялікае дзіця.

Не дай Бог ён бы ажаніўся з нейкай акторкай ці паэтэсай — ён хадзіў бы "галодны і п'яны".

Галодны то абавязкова б хадзіў. Абадраны. Ну якая жонка вынесе, як выносіла Валя... Валодзя ідзе малочныя бутэлькі здаваць у магазін — і праз тры дні яго прыводзяць у добрым падпітку абсалютна незнаёмыя яму мужыкі, ужо новыя яго сябры. І мужыкі таксама ў падпітку. Ну, уяўляеце прыгоды гэтага Валодзі?

Ён натурай быў настолькі тонкай…

Ён казаў: у мяне як бы садрана скура і ў мяне кожны нерв на паверхні. І мне ад усяго, што я бачу вокам, так баліць, што мне хочацца крычаць.

І тады, калі я вып'ю крыху, я прыглушаю гэты крык, гэты боль, і тады магу сесці за стол і вярнуцца да сваіх герояў, я толькі тады адключаюся.

А на маё бурчанне, што «ты замнога п'еш» і «ты не сабе належыш, ты належыш Беларусі», ён казаў: «Божа, якія вы, заходнікі, зануды».

Ён пры нас мог трошачкі здзекліва з ёй абыходзіцца. Валя потым стала беларускамоўнай, канечне, светлая асоба была.

Ён бы загінуў намнога раней, каб не Валя.

## «Божа, якія вы, заходнікі, зануды»

Смерць Валі яго падкасіла. Ён перастаў зусім працаваць. Ён кажа: я хачу памерці, я хачу пайсці да Валі, я не хачу жыць. Ён напісаў верш на магіле на Паўночных могілках. Ён сябе нават забіваў. Мы яму казалі: Беларусь — важней за ўсё. Ён кажа: я разумею, але не магу. Вось так вось і ўмёр.



**Жонка Святлана, сын Максім і дачка Алеся берагуць памяць пра мужа і тату.** Гэтую цудоўную бібліятэку збіраў ён сам.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

# «Як я яго тады не задушыла, я не ўяўляю»

**«Чалавек як брыльянт з неверагоднай колькасцю граняў. А якім бокам да цябе павернецца, залежыць і ад цябе самога» — Святлана Чарняўская пра ўдары лёсу і сілу кахання.**

**«Я НЕ ЛЮБЛЮ МЫЦЬ ПОСУД, А ЛЮБЛЮ АБІРАЦЬ БУЛЬБУ. А ЁН НААДВАРОТ:** цярпець не мог абіраць бульбу, але любіў мыць посуд. Ён казаў: “Пад шум вады мне прыходзяць у галаву ўсякія сюжэты”», — пачынае размову Святлана Чарняўская.

Калі вывучаеш біяграфіі вялікіх людзей, тытанаў нацыянальнага руху, заўжды цікава, хто стаяў за імі. І заўжды аказваецца, што гэта роўныя ім па духу жанчыны. А мо і мацнейшыя.

**«Яму не пашанцавала са мной ў тым плане, што ён хацеў, каб у яго была жонка-сакратарка.** Ён страшэнна хацеў, каб я навучылася друкаваць на машынцы. Але я зразумела, што калі навучуся, то ўжо з-за яе не ўстану».

Святлана Чарняўская — педыятр, працуе ў паліклініцы ўжо больш за 50 гадоў.

**«Маё жыццё з Міхасём было вечнай барацьбой за асабістую свабоду.** Я доктарка, з трох гадоў марыла быць лекарам. І я шчаслівая ў сваёй рабоце, якой бы цяжкай яна ні была. Трэба прыняць 60 чалавек і зрабіць 40 візітаў, а калі я пачынала, былі і эпідэміі адру, і грып свірэпы... Вяртаешся дадому — фізічна ты паміраеш, а душа пяе і радуецца. Таму я ні за што не хацела станавіцца сакратаркай. Дзе магла, там падстаўляла плячо, але цалкам уліваца ў яго жыццё — не. Можа, ён мяне і паважаў за гэта».

Муж і жонка ў шчаслівых сем'ях сплятаюцца ў адно дрэва, гавораць аднолькавымі фразамі. **Святлана пераняла ў мужа мядзельскую гаворку: «ідзець», «жывець»...**

«Перш ён мяне прывабіў голасам. У яго быў неймаверны тэмбр: мяккі, абаяльны... Ёсць кніжка "Гукі беларускай мовы" — акадэмічнае выданне са схемамі, як трэба вымаўляць гукі. Схемы рысавалі з дыктараў. Сярод іх быў і Міша».

**«Давядзецца выбіраць — выберу не цябе, а Беларусь»,** — папярэджваў Міхась нявесту. Як яна гэта ўспрыняла? «Падумала: ну, што ж рабіць — выбераш дык выбераш».

Цяпер здаецца: гэта было папярэджанне чалавека, які не раз апякаўся з жанчынамі. Калі замест сімпатыі раптоўна бачыў жаданне «перакаваць»...



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЧАРНЯЎСКІХ

**Продкі Святланы Чарняўскай.** Яе дзед (з барадою) быў млынаром.

Неўзабаве патрэба выбіраць шчасліва адпала. Аказалася, што ніякай канкурэнцыі паміж сям'ёй і маральным абавязкам няма. Наадварот: сям'я, жонка і сталі асновай яго Беларусі.

**«Міша быў вольны ад гаспадаркі абсалютна.** Адразу папярэдзіў: я па магазінах хадзіць не буду. У пральню адзін раз схадзіў... Я і не ўкрыўдзілася, я ўспрыняла гэта як належнае і дала яму магчымасць займацца тым, чым ён хоча. Потым ужо і сама казала: не чапай, твой рабочы орган — галава. Так што кран рамантавала сама ці выклікала майстроў.

Ён проста не ўмеў гэтага рабіць. Ну і не хацеў. Казаў: «Гэта не мужчынскія справы. Мужчынскія справы — пакасіць, дроў насекчы, поле ўзараць. Табе гэта трэба? А чаго я буду падмятаць, калі дзве бабы ў хаце!» А другой бабе тры гады — гаворка пра Алесю, нашу дачку.

**Я для сябе зрабіла выснову, што чалавек у асноўным пражывае жыццё на 3+** па пяцібальнай сістэме: калі шанцуе ў адным, то не шанцуе ў другім. У нашым выпадку гэта найперш было здароўе...

**Хачу сказаць пра галадуху,** якая тады была. Дзве трэці жыцця мы жылі вельмі сціпла. Заробак быў маленькі, бо даводзілася браць многа бальнічных, дзеці хварэлі. Міша быў аспірантам, 20 рублёў прыносіў, і я столькі ж. Каб не вёска, каб не бацькі, мы б не выжылі: бульба, мяса адтуль. Круп не было, пра грэцкую ўвогуле няма чаго казаць. Але адна сваячка мела права купляць 1 кг грэчкі на месяц, бо мела цукровы дыябет. І аднойчы яна дала кілаграм мне. Памятаю, вару — і званок у дзверы. Стаіць суседка, аднагодка маёй мамы. З гранёнай шклянкай. І кажа: «Света, я не магу. Праз выключальнік ідзе пах грэчкі. Насып мне хоць трошкі, бо памру». Я насыпала ёй паўшклянкі, адразу ўспомніла «Пяць лыжак заціркі»... А людзі пішуць: усё ў нас было, усё што хочаш.

**Апошнія месяцы цяжарнасці я ляжала.** Наш сын Максім нарадзіўся 6 жніўня 1976 года. 1 верасня таго года дачка Алеся пайшла ў першы клас. А Міша з'язджае на раскопкі. Я застаюся адна з двума дзецьмі... І вось Міша тыдні праз тры прыязджае — такі натхнёны, летуценны. Кажа: "Ты ўяўляеш: сёння раніцай я сяджу на ўзгорку, унізе поле, туман, і ў мяне такое ўражанне, што зараз адтуль, з хмызнякоў, выйдуць маманты..." Як я яго тады не задушыла, я не ўяўляю», — смяецца Святлана.

Некаторыя пары ад адной такой нетактоўнасці распадаюцца, а яны адно аднаму даравалі і былі шчаслівыя.

Між тым яна на прафесію мужа глядзела з вялікай цікавасцю, гэта мацавала шлюб. Вясельнае падарожжа Чарняўскіх было на раскопкі ў Асавец ▸

▶ Бешанковіцкага раёна. Міхась прывёў жонку на бераг ракі Крывінкі. «І кажа: ну вось, мае ўгоддзі!.. Я гляджу пад ногі, а там упрыгожанне з косткі!»

**Адносіны пачаліся выпадкова.** Святланіна кватарантка вярнулася з танцаў: мне так адзін хлопец спадабаўся, у яго такі профіль!.. Ты выйдзі і паглядзі, калі табе спадабаецца, то я пайду на спатканне. «Я выйшла, ён там прагульваецца ў плашчыку... Ён мне вельмі спадабаўся, сэрца ёкнула, але я прыйшла і кажу: ідзі!» Урэшце дзяўчына і Міхась рассталіся, бо тая не прымала яго беларускасці, казала: мы пажэнімся — і я цябе хуценька адвучу.

Кватарантка з'ехала, а Міхась працягваў час ад часу тэлефанаваць яе маладзенькай гаспадыні (яму было 30, Свеце 22). «І перад Новым годам позна пазваніў, кажа: я сяджу, калекцыю стаўлю, не паспяваю зрабіць выставу. Я чыста спачувальна: паглядзець бы тую калекцыю! А ён запрасіў на інстытуцкі вечар. У мяне стрыжка як у хлопца і агніста-рыжая, спаднічка кароценькая. Мы заходзім у залу, а там больш за сто чалавек. Нас пабачылі, падняліся: о, Міша нявесту прывёў. Кашмар! Ад жаху не памятаю, што далей было».




**Марыля Чарняўская, маці гісторыка**, на здымку Зянона Пазняка. Фатограф выкадраваў яе з большага кадра, дзе яна глядзіць на ўнучку, і падкрэсліў маршчыны. 63-гадовая жанчына, пабачыўшы фота, расплакалася: «Няўжо я такая старая?»

## «Чалавек у асноўным пражывае жыццё на 3+»

Спатканні цягнуліся нядоўга: «Праз адно ён мне паведамляў: я жаніцца не збіраюся. Але ў сакавіку мяне размеркавалі на практыку ў Добруш. І тут ён спалохаўся, што я з таго Добруша магу і не вярнуцца», — цёплым смехам смяецца Святлана Чарняўская.

Міхасёвы бацькі пра нявестку сказалі: «Вельмі прыгожая, але надта худая» — і адкормлівалі малачком з вяршкамі.

У часы маладосці Чарняўскіх псіхолагі фіксавалі, што самыя моцныя адносіны тыя, дзе шлюб адбываецца пасля сярэдняй працягласці сустрэч. Калі людзі ляцелі ў загс «з першага погляду», шлюбы часта распадаліся. І калі пара гадамі сустракалася і не жанілася, такія адносіны таксама звычайна распадаліся. Чарняўскія — пацвярджэнне гэтага правіла.

**«У мяне перад ім было шалёнае каханне ў інстытуце.** Страсці гарэлі, на кожнае спатканне я ішла як на бой. А тут было настолькі ўтульна, кацянём на грудзі ў яго хацелася скруціцца і муркатаць».

**«Толькі не жаніся з васточніцай», — некалі прасіла Міхася мама.** А атрымалася

менавіта так. «Мама была з-пад Чавусаў, бацька з-пад Бабруйска. Мама настаўніца, тата — загадчык райана, там яны і пазнаёміліся. Мама засталася пад акупацыяй, а тата быў у штабе партызанскага руху ў Панцеляймона Панамарэнкі. Як усе, хто быў у партызанах, пайшоў па партыйнай лініі. Я нарадзілася ўжо ў Мінску, на Карла Маркса, 20, у старадаўнім доміку на тры паверхі».

**Святлана была маладзейшая за мужа на восем гадоў, але перажыла моцныя ўдары лёсу і мела неабыякую волю.** «Бацькі, вайну перанёсшы, вельмі хварэлі. У таты быў туберкулёз — з вайны застаўся, у мамы рак. Бацька сышоў на пенсію ў 38 гадоў, пражыў яшчэ пятнаццаць — ніхто яму столькі не даваў. Я бачыла здымак лёгкіх: там адны дзюркі». Дзяцінства дзяўчынкі прайшло побач з бацькам, але заўжды на адлегласці: «Ён ніколі нас не цалаваў — асцерагаўся. Бацькава нельга было чапаць: ні ложак, ні посуд...

**Калі мне было 18, а брату 15, бацькі адно за адным памерлі, праз 3 месяцы. І мы засталіся самі...** Усе ўгаворвалі мяне кідаць інстытут і ісці працаваць, але я здолела давучыцца. Брат таксама стаў доктарам, эпідэміёлагам. Ён быў першым прадстаўніком СААЗ у Беларусі».

**«Я адразу зразумеў, што хоць ты і гарадская і рускамоўная, але з цябе можа атрымацца толк,** смяяўся Міша. У суседнім пад'ездзе жыў прафесар з медінстытута. Перастрэў мяне на вуліцы і з-пад ілба: ты што, за нацдэма замуж выйшла? А я прыйшла дадому і пытаюся: Міша, а што такое нацдэм? Я, піянерка, камсамолка, трапіла ў іншы свет, на іншую паралель!

Прыйшлося ўлівацца ў новую рэчаіснасць. Міша сурова вучыў мяне мове. Я прыбягу з працы, нешта расказваю, такая тараторка, а ён спакойна, робячы нешта сваё: «Божа, на якой гэта мове ты гаварыла, ні слова не зразумеў!» — я ў слёзы. Але ўрэшце вывучыла!

**«”Сходзім у госці да Геніюшаў,** — прапанаваў Міхась, калі мы толькі пажаніліся і паехалі ў Зэльву на раскопкі. — Але ты або маўчы, або старайся па-беларуску”. Ён страшэнна саромеўся за мяне, асабліва перад Геніюшамі. І вось спадарыня Ларыса паклікала: “Светачка, пайшлі на кухню, дапаможаце мне”. І нешта там пытаецца, а я кажу: “Да”. А яна так сурова: “Не да, а так”. І ўсё, я больш нічога не памятаю, ад страху ледзь прытомнасць не страціла».

Святлана Чарняўская лячыла і род Чарняўскіх, і Геніюшаў, і ўвесь нацыянальны рух. «І цяпер мне часам званяць Міхасёвы аднавяскоўцы, пытаюцца, якую таблетку выпіць».

**Ці спрабавала жонка ўтрымаць Чарняўскага ад рэзкіх крокаў, стрымаць яго дысідэнцтва?** «Барані Гасподзь. Ні ў якім выпадку, гэта было безнадзейна, я ведала, што гэта за чалавек. У яго было пакліканне — усё для Беларусі».

**У нас не было часу на разгулы:** ён рыхтаваў дысертацыю, я вучылася. Мы ажаніліся праз тры месяцы, а за гэты час адзін раз былі ў кавярні «Вясна» — ён выканаў рытуал, павінен жа кавалер хоць раз запрасіць дзяўчыну. І ўжо як жылі на Васняцова, я яго раз угаварыла пагуляць. У нас такі прыгожы, зялёны раён! Мы раён подбегам аббеглі, і ён сказаў: гэта быў першы і апошні раз. Ну няма яму калі! Але калі якія беларускія імпрэзы — мы паўсюль былі.

«Калі я быў зусім малы, мы па нядзелях гулялі ў перакладчыка: калі я прачынаўся раней, я бег да бацькоў у пакой, залазіў да іх і мы гулялі — бацька казаў слова па-руску, а я павінен быў шукаць адпаведнік», — расказвае Максім Чарняўскі.

## У яго было пакліканне — усё для Беларусі

**У нашай двухпакаёвай хрушчоўцы 7 шаф пад столь з кнігамі.** Ён ні адну з хаты не выпускаў — гэта ледзь не адзіны пункцік, з-за якога мы ва́дзіліся. Некалі прыйшла камісія аглядаць кватэру падчас капрамонту. Яны так на нас крычалі! Што мы вар'яты, што дамы не разлічаныя на такую вагу... Многа сярод кніг было непатрэбнага. Напрыклад, серыя «Школьная бібліятэка». Але Міша ўпёрся: «Не, хай ляжыць! Табе перашкаджае?» — «Так!» — «Ну дык не глядзі ў гэты бок». Або «Бураціна» ці «Пінокіа» на рускай, ангельскай і нямецкай мовах. «Нашто яно табе?!» — «Я буду вучыць мову!» Ну вучыў, канечне. Усё жыццё.

Ці цаніў Міхась Чарняўскі жончын клопат? «Можа, не адразу. Але пад канец ацаніў і падзякаваў».

**Мая тэорыя: чалавек як брыльянт з неверагоднай колькасцю граняў.** І там ужо якім бокам да цябе павернецца. Гэты можа блішчаць золатам, а гэты выстраліць у твар. Многае залежыць ад таго, хто рабіў агранку. ◆



першабытныя людзі

# Яны былі як мы. Але жылося ім працей

## Працаваць досыць было пару гадзін на дзень

**«Зямлю можна чытаць як кнігу», — казаў Міхась Чарняўскі. І яшчэ: «Я мяркую, мы з першабытным чалавекам маглі б паразумецца». А як нам зразумець нашых продкаў з каменнага веку? Якімі яны былі? Пра гэта расказвае археолаг Максім Чарняўскі, сын Міхася Міхайлавіча, на прыкладзе герояў сваіх раскопак у Асаўцы Бешанковіцкага раёна.**

### Чым жылі неалітычныя людзі?

Не трэба думаць, што гэтыя людзі былі нейкімі грубымі, менш кемлівымі, чым мы, што гэта былі такія напаўмалпы. Гэта абсалютна людзі нашага тыпу. Такія самыя цікаўныя, актыўныя, лянівыя, крыўдлівыя.

Калі цяперашняга чалавека адправіць у старажытнасць, вялікая верагоднасць, што ён памрэ з голаду. Калі таго чалавека ў наш час — таксама. Але калі адзін аднаму падкажа, дык наш чалавек адаптуецца і навучыцца, як жыць там. А дзеці таго неалітычнага чалавека, калі іх адправіць у школу, спакойна паступяць ва ўніверсітэт — і стануць праграмістамі.

Усё іх жыццё было адаптавана да тагачасных умоў. Уся Беларусь часоў неаліту і бронзавага веку — гэта быў суцэльны лес. Быў крыху цяплейшы клімат, чым цяпер, больш лісцевых дрэў. Было больш ядомых раслін. І ўсё наваколле было вельмі багатае на дзічыну, птушку, рыбу.

Тое, як казалі некаторыя мысляры XX стагоддзя: «человек влачил жалкое полуголодное существование», — лухта. Ежы было настолькі многа, што, каб забяспечыць сябе на заўтра, трэба было працаваць у сярэднім каля 2 гадзін у дзень — а рэшту часу можна было выкарыстоўваць на сябе, на блізкіх, на казкі, на спевы, на паспаць, паленавацца, пагуляць... У тых людзей было значна больш вольнага часу, чым у нас.

**Неаліт**
перыяд развіцця чалавецтва, якім завяршаецца каменны век. На Беларусі цягнуўся з канца V тысячагоддзя да н.э. да пачатку II тысячагоддзя да н.э.

**У тых людзей было значна больш вольнага часу, чым у нас**

Зразумела, не было медыцыны, быў вялікі траўматызм. Сем'і гублялі кожнае другое дзіця. Калі дзіця выжывала да 5 гадоў, то ў яго былі шанцы дажыць і да 50—60 гадоў. Але прыродны адбор быў вельмі жорсткі. Хаця ў нашых вёсках блізкая смяротнасць захоўвалася да пачатку XIX стагоддзя.




Людзі на беларускім Паазер'і часоў неаліту жылі вёсачкамі. Кожную вёсачку займала адна невялікая сям'я чалавек на 15–20 — тры пакаленні: бабуля-дзядуля і іх сыны са сваімі сем'ямі. Вёскі былі пераважна прывязаныя да азёраў — не такіх, як Нарач, глыбокіх і чыстых, а зарастаючых, забалочаных азёраў, плыткіх, дзе лепш праграваласся вада і ад таго больш было жыўнасці: рыба, качкі, гусі, лебедзі, гнёзды з яйкамі, чарапахі балотныя, шмат раслін...

## Ці была ў іх нейкая духоўная культура?

На развіццё духоўнай кульуры ў тых людзей было многа часу. Але археалогія даследуе рэчы. Калі яны ў рэчах адлюстроўвалі нейкія духоўныя праявы, мы гэта бачым па фігурках з косткі і рогу, па ўзорах на посудзе. Існаваў культ качкі, мядзведзя, лася. Касцяныя статуэткі змеек звязаныя з культам змяі (цікава, што беларусы шанавалі вужоў тысячагоддзямі, гэты звычай дайшоў да Новага часу). Фігуркі чалавека кажуць пра культ продка — або ж гэта выява антрапаморфнага (чалавекападобнага) бостсва.

Верагодную повязь з тагачасным культам качкі можна ўбачыць у фіна-угорскім эпасе «Калевала». Там ёсць кавалачак пра тое, як утварыўся Сусвет. Было толькі мора, і лётала над морам качка. Узмалілася яна багіні — і тая высунула з мора калена, на якім качка адклала яйка. Але калена ў багіні зацякло, яна ім варухнула, яйка пакацілася і разбілася. З бялка ўтварылася неба, з жаўтка — сонца, са шкарлупіны — зямная цвердзь. Стварэнне сусвету ад качкі. Гэтая ідэя перадавалася ад пакалення да пакалення, ад культуры да культуры. Першымі носьбітамі гэтай ідэі на нашых землях былі людзі археалагічнай культуры грабянёва-ямкавай керамікі. Некаторыя даследчыкі лічаць іх далёкімі продкамі фіна-вугорскіх народаў.

### Чылім

У тыя часы людзі яшчэ не ведалі злакаў. На муку яны пераціралі зярняты вадзяного арэха — чыліму. Цяпер гэтая расліна рэдкая, а ў тыя часы часы чылімам былі скрозь зарослыя азёры. Яго плады ў калючых лупінах можна было сушыць і захоўваць на зіму.

Чылім трапіў у Чырвоную кнігу, бо людзі яго з'елі — яго можна есці сырым, смажаным, печаным, змалоць на муку і прыгатаваць хлеб. Гэта адна з версій, чаму ў паўночнай Беларусі так позна зараджаецца земляробства. Доўгі час яно было папросту забаўкай, рытуалам. Магчыма, таму, што быў хлеб, які рос сам па сабе і не трэба было ні араць, ні сеяць — проста есці і збіраць.



## Як выглядаў дзень першабытнага жыхара Беларусі?

З раніцы частка мужыкоў ішла ў лес на паляванне: праверыць сілкі, пасткі. Можа, нешта патрапіцца падстрэліць, тады клікалі людзей з вёскі, каб дапамаглі прынесці. Гэта быў ужо перыяд індывідуальнага палявання.

Частка мужыкоў ішла праверыць пасткі і сеткі на рыбу. Аднойчы мы былі з бацькам у разведцы пад Лепелем, і кабета запрасіла зайсці паглядзець татавы старыя інструменты. Мяне ўразіў рыбацкі рыштунак. Гэта было тое, што я знаходжу ў Асаўцы! Такія самыя гліняныя грузілы, той жа формы. Сетка з такімі ж вузламі. Берасцяныя паплаўкі ідэнтычныя тым, што ў раскопе... Паміж гэтымі людзьмі 4 тысячы гадоў. Але калі нешта добрае, то нашто прыдумляць новае? Увогуле, пасля неаліту, калі не браць XIX стагоддзе з яго выбухам тэхналогій, у Сярэднявеччы і Новым часе прыдумалі толькі вінт. Многімі вынаходніцтвамі каменнага веку мы карыстаемся і цяпер.

Нейкі час людзі аддавалі на тое, каб прыбіраць участак. Рыбу і жывёлу разбіралі непадалёк ад хатаў, усё смецце заставалася тут жа і гніло, стаяў смурод. Выглядае, што такія месцы адмыслова засыпалі пяском — такая санітарная чыстка.

Зразумела, па меры неабходнасці людзі займаліся ўпарадкаваннем у паселішчы: падпраўлялі хату, вогнішча. У раскопе відаць, як вогнішча далікатна і акуратна рыхтавалі і дагледалі. Калі вогнішча выходзіла за падсыпную ▸



**Чалавек неаліту цягнуўся да прыгожага, як і мы.** Скульптура качкі з Крывінскага тарфяніку. На левай старонцы зверху — скульптура чалавека стуль жа. Ім прыкладна 4 тысячы гадоў. Іх адносяць да паўночнабеларускай археалагічнай культуры.

▸ падушку супрацьпажарнай бяспекі, то можна было ўпаліць торф — а гэта была катастрофа.

## На ўсю Беларусь жыло каля 10 тысяч чалавек — групкамі па 15–20

Жанчыны маглі збіраць расліны, карані, ягады, грыбы, а таксама нарыхтоўваць матэрыялы: луб, бяросту для посуду і паплаўкоў, трыснёг для пляцення... Тагачасныя людзі плялі такія ж вырабы, як беларусы цяпер, але не з саломы, а з трыснягу. Нейкую частку дня аддавалі на тое, каб паправіць інструменты, вопратку. Тады ўжо пачыналі ткаць, але спярша не з воўны (авечка з’яўляецца ў познім неаліце і бронзавым веку), а з лубяных або крапіўных нітак. Беларуская традыцыя спявання жнеек у полі можа паходзіць з прадаўніх часоў, калі даводзілася выконваць манатонную работу, напрыклад мяць на ніткі крапіву. Зразумела, гэта не рабілі моўчкі. У неаліце і бронзавым веку ў нашых продкаў была вельмі вялікая вусная спадчына. «Іліяда» Гамера — гэта блізкія часы. Калі гэта было ў Грэцыі, значыць, было і ў нас.

Ад часоў мезаліту прырода на Беларусі мала змянілася. Але шчыльнасць насельніцтва была куды меншая. У адным цяперашнім раёне маглі жыць пару соцень чалавек. На ўсю Беларусь жыло каля 10 тысяч — групкамі па 15—20 чалавек. Кожная сям’я мела вялікую тэрыторыю, дзе было 5–6 стаянак, летніх і зімовых. Яны прыходзілі ў адно месца, жылі там месяц, пакуль не аб’ядалі ўсё навокал. Калі ім станавілася трошкі цяжэй здабываць ежу, усё пакідалі:



посуд, большасць інструментаў... Бралі з сабой толькі самае неабходнае — і ішлі на наступную стаянку. А там павуціну вымесці, пару калкоў падмяніць — і наступны месяц яны жывуць тут. І так год за годам ходзяць па коле, а на зіму сыходзяць на зімовую стаянку ў глыбокі лес, у зацішнае месца... Рэчы на стаянках пакідалі спакойна: а хто забярэ? З суседзямі сустракаліся, можа, раз на паўгода — памяняцца дзяўчатамі-хлапцамі: аддаць дзяўчат, узяць хлапцоў...

З усёй Усходняй Еўропы новыя культурныя імпульсы прыходзілі ў Беларускае Паазер'е фактычна ў апошнюю чаргу. Хвалі, што пераварочвалі традыцыйнае грамадства, не мелі тут радыкальных наступстваў. Такое спакойнае беларускае балота, на якім людзі жылі ў сваё задавальненне.

У час, калі людзі жылі на стаянках у Асаўцы, у Егіпце будавалі піраміды. Будавалі такія самыя людзі, з такім жа розумам і вачыма. Проста ў іх была патрэба збудаваць піраміды, была свая цывілізацыя, свая прырода, якая вымагала асобнага падыходу. Чаму мы кажам: ▸

WIKIMEDIA COMMONS, NINARAS



**Нейк так выглядала жытло насельнікаў Крывінскага тарфяніку.** Хоць раскопкі там ідуць вельмі даўно, агульна ўскрытая плошча не вельмі вялікая, праца марудная і далікатная, таму яшчэ і не адшукалі ніводнай поўнай пабудовы. На фота: рэканструкцыя хаціны каменнага веку ў Кіерыкі, Фінляндыя.

## Адкрыццё

Даследаваць беларускую прагісторыю намнога цяжэй, чым грэчаскую ці, прыкладам, шумерскую. Да пачатку XX стагоддзя наша цывілізацыя на 90% была цывілізацыяй з дрэва, а дрэва гніе.

Каб арганіка захоўвалася тысячагоддзямі, трэба ўнікальныя ўмовы: адсутнасць доступу кіслароду і добрая ўвільготненасць. Міхась Чарняўскі адшукаў месца, дзе гэтыя ўмовы вытрымліваліся: нічым, здавалася б, непрыкметны тарфянік каля вёскі Асавец у Бешанковіцкім раёне. У дагістарычныя часы там было возера, на берагах якога сяліліся людзі. Гэта было нешта кшталту сезонных пасяленняў: улетку людзі прыходзілі сюды, лавілі рыбу, палявалі, а ўзімку сыходзілі ў сушэйшае месца, дзе дроў даволі — у лясы.

З часам клімат стаў халаднейшым і дажджлівейшым. (Некаторыя навукоўцы звязваюць гэта з выбухам вулкана Сантарын (1700–1600 гады да н. э.) у Міжземным моры, які знішчыў цэлы востраў і выкінуў сотні тысяч тон попелу ў атмасферу.) Узровень вады ў возеры паступова рос, людзі мусілі адступаць усё далей. Дзед, плывучы з унукам на чоўне, мог паказваць пад вадою месца, дзе было пасяленне ў часы яго дзяцінства. З часам возера зарастала, ператвараючыся ў балота і кансервуючы рэшткі колішняга жыцця. Унікальнасць Крывінскага тарфяніка ў тым, што па яго помніках можна прасачыць жыццё цягам 2500 гадоў.

**Даследаваць беларускую прагісторыю цяжэй, чым шумерскую. Бо да пачатку XX стагоддзя наша цывілізацыя на 90% была цывілізацыяй з дрэва**

Міхась Чарняўскі меў унікальна цэльнае бачанне далёкіх эпох. Ён не быў археолагам-бюракратам, які ўлетку капае, узімку перапісвае знаходкі і піша справаздачу ў вузкаспецыялізаванае выданне. Чарняўскі ўмеў інтэрпрэтаваць свае адкрыцці для масавага ўжытку. Яго кніга «Вогнепаклоннікі» выйшла вялікім накладам і была папулярная сярод дзяцей. Чарняўскі ўмеў «улезці ў галаву» чалавеку каменнага ці бронзавага вякоў. «З чалавека нараджаецца чалавек, з каровы — маленькая кароўка, з качкі — яйка, з яго — зноў качка. Гэта ўспрымалася як цуд», — так Чарняўскі тлумачыў, чаму ў арнаментах трапляюцца выявы качак, а гісторыі пра стварэнне свету з яйка ёсць у многіх народаў.

Таксама Чарняўскі быў пэўны, што ў пазнейшыя часы існаваў агульнаеўрапейскі культ пакланення агню і сонцу.

Ад канца 1980-х, калі абудзілася цікавасць да ўласнай гісторыі, Чарняўскі многа пісаў і пра гістарычныя часы: пра славутыя бітвы часоў ВКЛ, пра падзеі і асобаў. Дзякуючы лёгкаму стылю яго артыкулы добра чытаюцца і цяпер.



Міхась Чарняўскі меў унікальна цэльнае бачанне далёкіх эпох. На фота: **ён ідзе між намётаў падчас студэнцкай археалагічнай экспедыцыі на Крывінскім тарфяніку.**

З сямейнага архіва Чарняўскіх



**Археалагічнай культурай** прынята называць агульнасць археалагічных помнікаў, аб'яднаных адной матэрыяльнай культурай, тэрыторыяй і часам існавання.

▶ тыя цывілізаваныя, а гэтыя не — бо не будавалі піраміды і жылі ў драўляных лёгкіх хацінах? Яны проста ідэальна адаптаваныя да канкрэтных прыродных умоў.

### Мы можам лічыць тагачасных людзей сваімі продкамі?

Прынамсі з часоў мезаліту ўсе археалагічныя культуры на Паазер'і маюць пераемнасць. У вялікай ступені насельніцтва застаецца тое ж, прыходзяць толькі новыя ўплывы, новая культура, ідэалагічна мацнейшая.

**У той час у Егіпце будавалі піраміды. Жыхары Беларусі маглі б? Маглі б, але патрэбы не было, бо прырода іншая**

У раннім неаліце ў Асаўцы існуе нарвенская культура — нашчадкі мезалітычнай культуры кунда. У сярэдзіне IV тысячагоддзя да н. э. з поўначы прыходзіць хвосцік імпульсу культуры грабянёва-ямкавай керамікі. Іх помнікаў на Беларусі зусім мала: на Нарачанскіх азёрах, у раёне Вілейкі, крышку ў раёне Лепеля і па Дзвіне бліжэй да Латвіі. Але нешта ў іх было такое моцнае, што пад іх уплывам мясцовае насельніцтва змяняе светапогляд: з'яўляецца культ качкі, змяняецца арнамент на кераміцы і спосаб апрацоўкі яе паверхні.

У раннім бронзавым веку арнамент на посудзе — гэта як вышыванка: твар культуры. Археалагічныя культуры адрозніваюцца найперш керамікай: формай венца, дна, арнаментам і складам таго, што дамешвалася ў гліну. Так што змену культур неаліту і бронзавага веку мы бачым найперш па змене керамікі.

Калі на землі нарвенскай культуры прыйшла грабянёва-ямкавая, іх камбінацыя ўтварыла ўсвяцкую культуру. У пачатку III тысячагоддзя да н. э. на яе землі ў невялікай колькасці прыходзяць носьбіты культуры баявых сякер, або шнуравой керамікі. Гэта першыя індаеўрапейцы. Яны прыносяць культ агню, сонца, з'яўляюцца складаныя бурштынавыя ўпрыгожанні, частка з іх аздобленая насечкамі — імітацыяй сонечных прамянёў.

**Фінансавая сталіца Еўропы таксама пачыналася з пасёлкаў каля возера**

Цюрых — найстарэйшы горад Еўропы. З 56 адшуканых палевых пасёлкаў часоў неаліту 11 знаходзяцца вакол Цюрыхскага возера. Іх адкрылі выпадкова: чысцілі возера і пабачылі дубовыя палі* на глыбіні 7 метраў. Спачатку думалі, што людзі жылі проста на вадзе, а пасля высветлілі, што ўсё ж на беразе, бо возера тады было меншае.

* **Па́ля*** (бел.) = свая (рус.), *pile* (анг.).

Мікс усвяцкай культуры і шнуравікоў утварыў супольнасць, якую мы называем паўночнабеларускай культурай. У 2-й палове II тысячагоддзя да н. э. да іх дадалася невядомая нам пакуль культура — і з іх міксу ўтварыліся балты.

### Што вядома пра паходжанне, мову, этнічную прыналежнасць нашых продкаў да прыходу індаеўрапейцаў?

Вядома вельмі мала. Традыцыі даіндаеўрапейцаў паходзяць ад палеаліту. Гэта так званыя паляўнічыя на паўночных аленяў. Частка іх засталася тут, пачала мяняцца і змешвацца з іншымі людзьмі. А частка, верагодна, сыходзіць на поўнач.

Калі прыходзяць індаеўрапейцы і займаюць тэрыторыю Прыбалтыкі, Беларусі, Польшчы, Украіны, часткова Расіі — тут пачынае заварвацца культурная мешаніна, з якой праз доўгі перыяд часу, больш тысячы гадоў, вылузваюцца германцы, балты і славяне. А да I тысячагоддзя да н. э. мы не можам гаварыць пра этнічную прыналежнасць тых, хто тут жыў, і ўвязваць з нейкім этнасам.

### Суіснаванне культур было мірным?

Калі прыходзіць чужое насельніцтва і выбівае мясцовае, яно цалкам прыносіць сваю матэрыяльную культуру. А ў нашым выпадку звычайныя прылады працы і нават большая частка паляўнічай зброі застаюцца ранейшымі. Культ качкі не знікае, а існуе поруч з новым культам агню і сонца, крыжамі на дне гаршкоў.

Насельніцтва дапаўняецца, абнаўляецца, але ў большасці застаецца тутэйшым. ◆

# Чаму распаўся Савецкі Саюз?

**У снежні 2021 года спаўняецца 30 гадоў з таго часу, як сваё існаванне «як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць» спыніў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Чаму такі лёс спасціг некалі магутную дзяржаву, якая яшчэ за некалькі гадоў да таго здавалася вечнай, разважае кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**




**Міхаіл Гарбачоў (злева) і Барыс Ельцын**, 23 жніўня 1991 года. Два дні таму праваліўся путч, і ў Ельцына зорны час. А Гарбачоў яшчэ пры пасадзе, але палітычнай вагі ўжо практычна не мае.

Адной з пераломных дат у гісторыі СССР стала 5 сакавіка 1953 года, калі на падмаскоўнай дачы ў Кунцаве памёр шматгадовы лідар савецкай дзяржавы, стваральнік адной з найбольш нялюдскіх у сусветнай гісторыі таталітарных сістэм Іосіф Сталін. Спадчына «крамлёўскага горца» здавалася вечнай, настолькі грунтоўна зачышчанае грамадскае жыццё ён пакінуў пасля сябе.

**Рэпрэсіўная сістэма вымагае вялікага пастаяннага напружання не толькі ад насельніцтва, але і ад вярхоў**

Але паплечнікі Сталіна фактычна адразу пасля яго смерці адмовіліся ад найбольш адыёзных ягоных практык і самі пайшлі на лібералізацыю ранейшай палітыкі. Бо большасць іх адчувала, што далей так працягвацца не можа, трэба нешта мяняць, інакш выбух непазбежны. Да таго ж функцыянаванне сістэмы, у аснове якой толькі гвалт і прымус, вымагае надта вялікага напружання на ўсіх узроўнях: не толькі ад насельніцтва, але і ад вярхоў. А партыйным бонзам таксама ўжо хацелася спакайнейшага жыцця, без пастаяннага дамоклавага мяча і над уласнай галавой.

Праўда, колькі-небудзь дэмакратычнай краінай і паслясталінскі Савецкі Саюз назваць ніяк не выпадала: дысідэнты, адкрытыя ворагі савецкай улады, у ім жорстка пераследаваліся, і хоць іх ужо не расстрэльвалі, але многія правялі ў турмах і лагерах дзясяткі гадоў, а некаторыя там і памерлі. Цэнзура, недапушчэнне альтэрнатыўных меркаванняў у публічнай сферы — гэта ўсё нікуды не дзелася. Але да сапраўды масавых рэпрэсій вяртання больш ніколі не было. Сталінскі СССР і паслясталінскі, як кажуць у Адэсе, дзве вялікія розніцы.

### Сацыяльны кантракт

Узаемаадносіны паміж уладай і грамадствам у паслясталінскім СССР вызначаліся праз своеасаблівы нефармальны сацыяльны кантракт. Сутнасць яго: грамадства цярпела манапольнае права камуністычнай партыі на ўладу ў краіне, а ўзамен партыя брала на сябе абавязак забяспечваць асноўныя жыццёвыя патрэбы людзей. Ад людзей улады сталі не толькі браць, як раней, але нешта ім і даваць.

Але заставаўся непарушным прынцып: савецкі чалавек не сам адказвае за сваё жыццё, ►

▶ большасць дабротаў яму бярэцца забяспечваць дзяржава. Бо яна і не думала адмаўляцца ад манаполіі на сродкі вытворчасці. Усе заводы, фабрыкі, майстэрні, культурныя, навуковыя, адукацыйныя ўстановы — дзяржаўныя. Людзі ў такой сістэме не могуць легальна арганізаваць сваю справу, заняцца прыватным бізнэсам. Нават уласнага каня на вёсцы завесці не могуць, бо ён таксама як цяглавая сіла лічыўся сродкам вытворчасці.

**Савецкі чалавек не сам адказваў за сваё жыццё, большасць дабротаў яму забяспечвала дзяржава**

Адбіраючы ў людзей свабоду, савецкая дзяржава давала ім пэўныя гарантыі. Памер заробкаў утрымліваўся на адным і тым жа ўзроўні гадамі, мала залежачы ад рынкавай кан'юнктуры, гадамі не мяняліся і цэны на асноўныя прадукты ці прамтавары. Праца, а значыць і нейкая крыніца даходаў, была не проста гарантаваная — на яе абавязвалі ўладкоўвацца нават тых, хто не хацеў. Былі шанцы атрымаць ад дзяржавы жыллё — калі не пастаяннае, то часовае. І хоць агульны ўзровень жыцця ў Савецкім Саюзе быў заўсёды вельмі нізкі ў параўнанні з развітымі капіталістычнымі краінамі, многія яго грамадзяне сапраўды адчувалі тую славутую «ўпэўненасць у заўтрашнім дні», па якой многія пасля настальгавалі. А некаторыя настальгуюць і дагэтуль.

### План замест рынку

Савецкая эканоміка была каманднa-адміністрацыйнай і планавай. Дзяржаўны планавы камітэт (Дзяржплан) пры Савеце Міністраў СССР распрацоўваў агульнасаюзныя планы на пяцігодку, у адпаведнасці з якімі падрабязна распісвалася ўсё што можна: і колькі пабудаваць новых заводаў і фабрык, і колькі якой вырабіць прадукцыі, і куды яе ўсю падзець, і колькі чаго пасеяць, і колькі ўбраць, і г. д.

У тэорыі планавая эканоміка мела перавагу перад рынкавай у тым, што яна ўтаймоўвала рынкавую стыхію і накіроўвала яе выключна ў патрэбнае людзям рэчышча. На практыцы, аднак, усё выходзіла зусім інакш. Грандыёзныя планы складаліся звычайна па-валюнтарысцку, без належнай эканамічнай ацэнкі ўсіх «за» і «супраць», кожнае ведамства — а іх у СССР развялося вельмі шмат — лабіравала свае інтарэсы, не надта клапоцячыся пра інтарэсы іншых. Галоўнае было — выбіць з Масквы «фонды», а пасля іх «засвоіць».

Першасным крытэрыем для ацэнкі эфектыўнасці дзейнасці стала выкананне даведзеных зверху планавых паказчыкаў, а якімі спосабамі гэта дасягалася, мала каго цікавіла. Нерэалістычныя планы не выконваліся, пераглядаліся па ходу, часта закрываліся дзьмутымі справаздачамі. І выходзіла так, што на паперы вымалёўвалася вельмі прыгожая карцінка: Савецкі Саюз, паводле статыстыкі, няўхільна павялічваў вытворчасць усяго што можна, займаючы першыя месцы ў свеце. На справе ж былі пустыя прылаўкі ў крамах, нязводныя баракі і камуналкі, жахлівая экалогія, пра якую звычайна пры выкананні грандыёзных праектаў увогуле не думалі.

**На паперы ўсё расло, займалі першыя месцы ў свеце. На справе ж краіна адставала і адставала**

### Нафтадолары: выратавальныя і згубныя

У 1950–1960-я гады савецкія геолагі адкрылі вялікія запасы нафты і газу ў Заходняй Сібіры. Гэта дазволіла не толькі цалкам забяспечваць гэтымі рэсурсамі ўласныя патрэбы СССР, але і ў вялікай колькасці экспартаваць энерганосьбіты ў Еўропу. Гэты экспарт на доўгія гады стаў асноўнай крыніцай валютных паступленняў у саюзны бюджэт і дазваляў да пары пакрываць страты ад неэфектыўнай агульнай сістэмы гаспадарання. Асабліва шмат нафтадолараў паплыло ў Маскву ў 1970-я гады, калі ў свеце ўзнік востры энергетычны крызіс і цэны на энерганосьбіты ўзраслі ў некалькі разоў. Тое дзесяцігоддзе запомнілася савецкім людзям як найбольш спакойнае за ўвесь савецкі перыяд і адносна «сытае» ды забяспечанае ў параўнанні з іншымі.

Але ўрэшце ўсё гэта вылезла бокам. Атрымліваючы вялізныя сродкі ад продажу сыравіны, кіраўніцтва СССР магло сабе дазволіць доўгі час гнаць ад сябе думкі пра неабходнасць

рэфармавання сістэмы, якая чым далей, тым рабілася ўсё больш анахранічнай. Нягледзячы нават на шалёныя прыбыткі ад экспарту нафты і газу, гэтая сістэма ніколі не магла толкам забяспечыць унутраны савецкі рынак патрэбнымі насельніцтву спажывецкімі таварамі. Увесь час існавання СССР таварны дэфіцыт быў пастаянным спадарожнікам жыцця савецкага чалавека. Вечна не хапала то таго, то гэтага, а то і ўсяго адразу. І калі сталіцы ды буйныя гарады так-сяк яшчэ забяспечваліся, то ў глыбінцы часта было не дакупіцца нават элементарных прадуктаў і тавараў.

Затое гіганцкія сродкі ішлі на задавальненне геапалітычных амбіцый савецкага кіраўніцтва. Пасля Другой сусветнай вайны наўпрост ці ўскосна ўся сусветная палітыка вызначалася суперніцтвам паміж дзвюма сусветнымі супердзяржавамі, ЗША і СССР. А статус супердзяржавы — не толькі гонар, але і пастаянныя аграмадныя выдаткі.

**Камуністычная ідэя да таго часу фактычна памерла, ад яе застаўся толькі фасад, за якім усё згніло**

Вялікая частка дзяржаўнага бюджэту СССР выдаткоўвалася «на абарону»: выраб і падтрыманне ў баявым стане вайсковай тэхнікі, зброі, у тым ліку ядзернай, утрыманне вялікай арміі і флоту. Нямала ішло сілаў, сродкаў і энергіі на ўтрыманне ў сваёй арбіце краін «народнай дэмакратыі». І калі недзе ў азіяцкіх джунглях ці афрыканскіх саванах нейкі мясцовы лідар, прыйшоўшы да ўлады, пачынаў праяўляць цікавасць да перспектыў будаўніцтва на сваёй амаль першабытнай радзіме камунізму, то ён мог цалкам разлічваць на шчодрую, і зусім не толькі маральную, дапамогу з боку Крамля.

Але да пары збан ваду носіць, і Масква не магла сабе такое дазволіць вечна. У 2-й палове 1980-х адбылася катастрофа. Беспрэцэдэнтна высокія сусветныя цэны на нафту, якія трымаліся цэлае дзесяцігоддзе, абрынуліся ў некалькі разоў. І гэта ўсяго за некалькі гадоў дабіла савецкую эканоміку. На мяжы 1980–1990-х гадоў савецкі рубель пачаў імкліва дэвальвавацца, цэны — расці, таварны дэфіцыт стаў усеагульным, а сацыяльныя гарантыі ўсё больш абмяжоўваліся. Дзяржава больш не магла выконваць сваю частку нефармальнай грамадскай дамовы, адпаведна, і ў народу больш не было стымулу трымацца за сваю.

### Крах ідэалогіі

У такіх умовах заставалася спадзявацца, што плячо кульгавай сістэме, якая прывяла да эканамічнага калапсу, падставіць ідэалогія. Але аказалася, што камуністычная ідэя як такая да таго часу фактычна памерла, ад яе застаўся толькі фасад, за якім усё згніло. І гэта пры тым, што на першым этапе свайго развіцця гэтая ідэя была падобная да рэлігійнай, за яе нямала людзей гатовыя былі літаральна аддаць жыццё, свядома ахвяравалі ўсім асабістым і ішлі на пакуты. Чаму ж яна, у адрозненне ад многіх рэлігійных вучэнняў, садзьмулася так хутка?

Справа ў тым, што ў камуністычным вучэнні не было аднаго важнага элемента, які ёсць ва ўсіх рэлігіях, што існуюць стагоддзямі ды тысячагоддзямі, — веры ў замагільнае жыццё, у тое, што за пакуты і праведнае жыццё на гэтым свеце чалавек атрымлівае каштоўную прэмію пасля смерці: вечнае жыццё ў раі, як у хрысціянстве, юдаізме ці ісламе, ці выгоднае перасяленне душы, як у індуізме ці будызме.

**Калі ўсіх выявіць, знішчыць, абясшкодзіць — тады ўжо зажывём!**

Камуністы ж, наадварот, цвёрда стаялі на пазіцыях крайняга матэрыялізму і катэгарычна сцвярджалі: ніякай несмяротнай душы няма, замагільнага жыцця таксама, усё жыццё чалавека праходзіць на гэтым свеце, таму на ім і толькі на ім трэба будаваць справядліва ўладкаванае грамадства — камунізм. І чым хутчэй людзі адмовяцца ад эгаістычных памкненняў і аддадуць усе свае сілы ды імпэт на грамадскія патрэбы, тым хутчэй гэты камунізм, як рай на зямлі, будзе пабудаваны. Галоўнае — ні на крок не адступаць ад ленінскіх запаветаў ні ў грамадскім, ні ў асабістым жыцці.

На адно-два пакаленні гэта яшчэ магло працаваць, у светлую камуністычную будучыню ўжо на гэтым свеце можна было верыць ▸

авансам. А негатыўныя з'явы спісваць на натуральныя выдаткі ад перабудовы грамадства, супраціў старых элементаў, падкопы шкоднікаў і імперыялістычнага атачэння. Калі ўсіх выявіць, знішчыць, абясшкодзіць, то тады ўжо зажывём і камунізм запануе!

Але з часам нават у самых шчырых вернікаў энтузіязм прыгасаў, бо рабілася відавочным, што тэорыя надта ўжо разыходзіцца з практыкай. Абяцанні раз за разам не спраўджваліся, тэорыя пераглядалася, тэрміны пабудовы камунізму ўвесь час пераносіліся, прыдумляліся нейкія новыя прамежкавыя звёны.

Галоўнае ж — тыя, хто імкнуўся шчыра і цвёрда трымацца ў сваім жыцці «запаветаў Ільіча», бачылі, што жывуць, як правіла, горш за тых, хто пра гэтыя запаветы ў лепшым выпадку рытуальна згадвае, а жыццё будуе на зусім іншых прынцыпах. Прытым у першых шэрагах — партыйнае начальства, якое зусім не жыве жыццём простага народу, маючы прывілеі. У «самым справядлівым» грамадстве насамрэч няма ніякай справядлівасці. І надзеі на тое, што справядлівасць будзе на тым свеце, таксама няма.

У выніку ў вырашальны момант партыя, членамі якой на заключным этапе існавання было каля 20 мільёнаў чалавек, была проста ліквідаваная адным росчыркам пяра. І ніхто не выйшаў яе актыўна бараніць.

### Нацыянальнае адраджэнне

У той жа час сапраўды нязводнай і невынішчальнай выявілася іншая ідэя — нацыянальная. Ад самага пачатку сваёй гісторыі камуністы бачылі ў нацыяналізме аднаго з найгалоўнейшых сваіх ворагаў і жорстка ды паслядоўна з ім змагаліся, не спыняючыся нават перад самымі жорсткімі метадамі. Хоць мусілі і прыстасоўвацца да факта існавання нацыянальных рухаў, прапануючы ўзамен класічнага нацыяналізму сваю ўласную канцэпцыю развіцця ўсіх культур народаў СССР як «нацыянальных паводле формы, сацыялістычных паводле зместу».

Але прывабнасць камуністычнай ідэалогіі з часам развеялася як дым, а любоў да сваёй радзімы аказалася чыннікам куды больш трывалым. Ва ўмовах дэмакратызацыі грамадскага жыцця ніводная рэспубліка не засталася ўбаку ад працэсу нацыянальнага абуджэння, выхаду на свет таго, што да пэўнага часу было прыглушана ціскам і рэпрэсіямі. У кожнай рэспубліцы ўзнік рух за нацыянальнае адраджэнне і дасягненне сапраўднага нацыянальнага суверэнітэту. Недзе ён быў больш моцны, недзе менш, але ўзнікаў усюды. Тым больш што ў апошнія гады Саюза адкрыліся цэнзурныя шлюзы і на грамадства абрынулася цэлая лавіна ведаў, якія раней ад яго доўга і старанна хаваліся.

**Многія камуністычныя кіраўнікі ў рэспубліках не сталі чапляцца за збанкрутаваную ідэю, а прыйшлі да часовага кампрамісу з нацыянальнымі сіламі**

**Аднамомантны распад Савецкага Саюза не быў гістарычна прадвызначаным**

І шмат дзе ў гэтым пабачылі для сябе асабіста новыя магчымасці мясцовыя высокапастаўленыя камуністычныя функцыянеры. Тыя з іх, якія зразумелі, да чаго ідзе справа, не сталі чапляцца за збанкрутаваную ідэалогію, а прыйшлі прынамсі да часовага кампрамісу з нацыянальнымі сіламі, фактычна ўзначаліўшы шлях сваіх рэспублік да незалежнасці. Што пасля апраўдала сябе: многія былыя партыйныя і камсамольскія лідары знайшлі сябе ў новых умовах, збудаваўшы ўжо ў іх паспяховую палітычную кар'еру ці дабіўшыся поспехаў у іншых сферах.

### Ці мог СССР захавацца?

Улічваючы поўнае банкруцтва да канца 1980-х гадоў камуністычнай ідэалогіі, як дзяржава, якая ставіць сваёй стратэгічнай мэтай пабудову камунізму, Савецкі Саюз захавацца ніякіх шанцаў не меў. Ад гэтай ідэалогіі, як і звязанай

з ёй планавай эканомікі, давялося б усё адно рана ці позна адмаўляцца. Максімум, чаго можна было б дасягнуць, — гэта расцягнуць агонію яшчэ на некалькі гадоў ці нават дзесяцігоддзяў, непазбежна праліўшы пры гэтым шмат крыві. Бо некаторыя рэспублікі ўтрымаць у складзе «абноўленага Саюза» можна было б толькі сілай.

У той жа час зусім не быў гістарычна прадвызначаным поўны аднамомантны распад Савецкага Саюза, з аддзяленнем абсалютна ўсіх былых рэспублік. Далёка не ва ўсіх з іх нацыянальны рух і прага да самастойнасці былі развітыя на такім узроўні, каб з сепаратысцкімі тэндэнцыямі цэнтр не мог справіцца. Нават пасля жнівеньскага путчу 1991 года кіраўнікі некаторых рэспублік, перадусім сярэднеазіяцкіх і Беларусі, працягвалі ездзіць у Маскву і весці перамовы аб патэнцыйным новым саюзе з Гарбачовым. Канчатковую кропку на гэтых спробах паставіла толькі пагадненне ў Віскулях 8 снежня 1991 года.

**Калі б рэформы зверху ў Савецкім Саюзе былі запушчаныя раней і былі больш фундаментальнымі, то ў нейкім выглядзе аб'яднаную дзяржаву з удзелам часткі рэспублік захаваць на нейкі час яшчэ ўдалося б**

Можна дапусціць, такім чынам, што калі б рэформы зверху ў Савецкім Саюзе былі запушчаныя раней і былі больш фундаментальнымі, то ў нейкім новым выглядзе аб'яднаную дзяржаву з удзелам часткі рэспублік захаваць на нейкі час яшчэ ўдалося б. Але для гэтага трэба было зразу прызнаць, што камуністычная ідэалогія сябе цалкам вычарпала і мусіць быць безумоўна дэмантаваная. Перабудова ж задумвалася Міхаілам Гарбачовым як спроба падлатаць збанкрутаваную сістэму, пазбавіць яе найбольш адыёзных ды абсурдных рысаў, але руйнаваць яе цалкам усё ж не планавалася. Вось толькі джын, выпушчаны з пляшкі, назад вяртацца ўжо не захацеў і зажыў сваім жыццём. На жаль для адных і на радасць іншым.

«Тых, хто спазняецца, гісторыя карае» — гэтую славутую заўвагу Міхаіла Гарбачова, адрасаваную немаладому кіраўніку ГДР Эрыху Хонэкеру, можна было б адрасаваць і кіраўніцтву Савецкага Саюза апошніх дзесяцігоддзяў, і самому Гарбачову. ◆

# Ці быў гэты Джэк такім моцным?

**Джэк Стронг. Пад такім гучным псеўданімам амаль дзесяцігоддзе на карысць амерыканскай разведкі дзейнічаў афіцэр Генштаба сацыялістычнай Польшчы Рышард Ежы Кукліньскі. Кім ён быў? Шпіёнам, падвойным агентам, польскім патрыётам, героем, здраднікам, а можа, проста рамантыкам? У кожным разе ён працаваў найперш супраць СССР, які лічыў прыгнятальнікам і мучыцелем свайго народа. Пра аднаго з самых значных шпіёнаў перыяду халоднай вайны піша Віталь Чырвінскі.**

## За крок ад правалу

8 лістапада 1981 года. Ноч. На памежным пераходзе паміж Усходнім і Заходнім Берлінам, абсталяваным на звычайнай, заціснутай будынкамі вузкай берлінскай вуліцы, перад шлагбаумам спыняецца белы грузавы мікрааўтобус. Усярэдзіне машыны знаходзяцца некалькі вялізных драўляных скрыняў, аблепленых паперамі з пячаткамі амерыканскай амбасады: дыпламатычная пошта, звычайная справа. Але ўнутры скрыняў асобна адзін ад аднаго месяцца, затаіўшы дыханне, людзі. Сям'я. Чалавек у форме палкоўніка польскай арміі. Жанчына. Два юнакі.

Праверка дакументаў. Ваў! Гэтай машыны няма ў спісе дазволеных для праезду! Няўжо правал? Каларытны чарнаскуры кіроўца па патрабаванні нямецкага афіцэра са знарочыста абыякавым выглядам адчыняе заднія дзверцы аўто. Скурчаны ў драўляным кубе польскі афіцэр дрыжачымі пальцамі дастае з кішэні маленькі футляр, адкуль выкалупвае капсулку. Там атрута. Капсулка ўжо ў роце. Застаецца толькі раструшчыць зубамі. Але ўсё абыходзіцца. Машыну прапускаюць. Са словамі «Дапамажы мне, Божа!» палкоўнік выплёўвае смяротную «цукерку». Жыццё працягваецца.

Вышэй быў пераказ сюжэта з мастацкага фільма польскага кінарэжысёра Уладзіслава Пасікоўскага «Джэк Стронг». А як на самай справе адбываліся ўцёкі сям'і высокапастаўленага польскага вайскоўца, дакладна нам невядома. ЦРУ дагэтуль не раскрыла сваіх сакрэтаў. Але афіцыйная версія эвакуацыі Рышарда Кукліньскага, яго жонкі і двух сыноў існуе, і яна больш празаічная, чым тая, што паказаная ў фільме.


LEGITYMACJA ŻOŁNIERZA ZAWODOWEGO

Seria AF 0007266

podpis posiadacza legitymacji

Legitymacja ważna do 31 grudnia 1981 r.

KUKLIŃSKI
nazwisko

Ryszard, Jerzy
imię (imiona)

Stanisław
imię ojca

13 czerwiec 1930 r
data urodzenia

Warszawa
miejsce urodzenia

Warszawa
województwo

pełni zawodową służbę wojskową

Legitymację wydano dnia 31.07 1981 r.

Jednostka Wojskowa 3134
jedn. wojsk. wydająca legitymację

m.p.

podpis dowódcy



Апошняе афіцэрскае пасведчанне **палкоўніка Кукліньскага.**

## Уцёкі на пралетарскае свята

7 лістапада 1981 года Рышард Кукліньскі ў якасці прадстаўніка Генеральнага штаба Войска




KINOPOISK.RU



Польскі акцёр Марцін Дарацінскі ў ролі Рышарда Куклінськага **ў фільме «Джэк Стронг» (2014).**

Польскага святкаваў у савецкай амбасадзе ў Варшаве чарговую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэты час яго сям'я і нават любімы сабака былі ўжо таемна перавезеныя ў Заходні Берлін. Сам Куклінські ў гэты ж вечар, не заходзячы дамоў, рушыў у амбасаду ЗША, дзе атрымаў пашпарт брытанскага грамадзяніна і неадкладна, без усялякіх прыгодаў, вылецеў у Лондан. Сям'я аб'ядналася на тэрыторыі вайсковай амерыканскай базы ў Баварыі, адкуль была перапраўленая ў ЗША. Амаль дзесяцігадовая шпіёнская дзейнасць польскага афіцэра на карысць ЦРУ нарэшце была завершана.

Лічыцца, што гэта быў адзін з самых каштоўных агентаў у гісторыі разведак.

### Дзяцінства на фоне вайны

Нарадзіўся Рышард-Ежы Куклінські 13 чэрвеня 1930 года ў Варшаве ў рабочай сям'і. Бацькі былі шчырымі каталікамі, але адначасова і сацыялістамі. Такое часам можа сумяшчацца. Галоўныя ўражанні з дзяцінства? Безумоўна — вайна. Спачатку верасень 1939 года, які запомніўся незразумелай для дзіцяці мітуснёй дарослых, выццём сірэн, выбухамі і стральбой. А далей — жыццё пад акупацыяй.

Яго бацька ўваходзіў у склад падпольнай арганізацыі «Меч і плуг», якая змагалася за вызваленне Польшчы як ад нацыстаў, так і ад камуністаў. Рышард разам з сябрамі дапамагаў перадаваць прадукты вязням Варшаўскага гета. Расклейваў лістоўкі. Пазней нават спрабаваў запісацца ў Армію Краёву, але не ўзялі: замалы.

Вялізным ударам стаў арышт бацькі, якога пры затрыманні ва ўласнай кватэры жорстка збілі, а потым звезлі ў невядомым кірунку. Гэта адбылося ў маі 1943 года.

Рышард рана навучыўся прымаць самастойныя рашэнні. Чуў пра дзейнасць эміграцкага польскага ўрада ў Лондане, які кіраваў узброеным супрацівам свайго народа. Каб трапіць у Вялікабрытанію, разам з сябрамі завербаваўся на працу ў Германію (дзіцячая наіўнасць), але апынуўся там у статусе зняволенага. У выніку — 18 месяцаў прымусовай працы на нямецкіх ваенных прадпрыемствах.

**Лічыцца, што Рышард Куклінські быў адным з самых каштоўных агентаў у гісторыі разведак**

Пасля вайны беспаспяхова шукаў бацьку (як стане вядома пазней, той загінуў у канцлагеры Заксенхаўзэн). Вярнуўся ў Польшчу. Працаваў вартаўніком на фабрыцы, вучыўся ў вячэрняй школе. Калі споўнілася 17 гадоў, ▸



**Пасольства ЗША** ў Варшаве.

WIKIMEDIA COMMONS, CHRISTOPHER ZIEMNOWICZ (CC BY 3.0)




Рышард Куклінскі **падчас Другой сусветнай вайны.**

паехаў ва Уроцлаў, дзе паступіў у Афіцэрскую пяхотную школу.

### Удалая кар'ера

Вайсковая кар'ера складвалася больш чым удала. Пачынаў як пяхотны афіцэр. У 25-гадовым узросце ўжо камандаваў батальёнам. Быў вельмі здольным. Найбольш праявіў сябе як «аператар». Менавіта так нефармальна называлі тых штабных афіцэраў аператыўных аддзелаў, якія выпрацоўвалі аператыўна-тактычныя разлікі пры разгортванні баявых дзеянняў, рыхтавалі планы вучэнняў, пераносілі тэкставыя рашэнні на карты. Гэтая праца вымагала не толькі добрай вайсковай адукацыі, але і аналітычнага складу мыслення.

У 1961 годзе Куклінскі паступіў у Акадэмію Генеральнага штаба Польшчы. Менавіта ў сценах акадэміі ён пачуў пра гучную справу амерыканскага шпіёна, былога палкоўніка Савецкай арміі Алега Пянькоўскага (гл. пра яго артыкул у № 2/2021 «Нашай гісторыі»), але не мог нават уявіць сабе, што некалі абярэ падобны шлях.

Падчас вучобы Куклінскі пачаў супрацоўнічаць з польскай контрразведкай. Менавіта таму ў яго з'явілася свая яхта. Ён служыў тады ў адной з супрацьдэсантных брыгад, сфарміраваных для аховы польскага ўзбярэжжа: Савецкі Саюз і яго польскія і гэдээраўскія саюзнікі рыхтаваліся да высадкі там амерыканскага дэсанту ў выпадку вайны. На гэтай яхце пад выглядам марскіх прагулак Куклінскі здзяйсняў запланаваныя контрразведчыкамі падыходы да берагоў Швецыі.

У 1964 годзе Куклінскага накіравалі ў аддзел аператыўнай падрыхтоўкі Генеральнага штаба Войска Польскага. Неўзабаве ён стаў адным з галоўных аўтарытэтаў у пытаннях распрацоўкі вучэнняў, якія праводзілі ўзброеныя сілы Польшчы і іншых краін Варшаўскай дамовы. Яго паважалі, яго цанілі, яму давяралі.

У 1967 годзе Куклінскі выязджаў у В'етнам, дзе на працягу шасці месяцаў працаваў у складзе Міжнароднай наглядальна-кантрольнай камісіі. Некаторыя публіцысты лічаць, што менавіта з гэтага моманту і пачаўся шпіёнскі серыял пад назвай «Джэк Стронг». У В'етнаме нібыта Рышард Куклінскі пазнаёміўся з амерыканскімі вайскоўцамі і, магчыма, быў імі завербаваны. На гэтай версіі настойваюць тыя, хто лічыць Куклінскага здраднікам і злачынцам. Але гэта толькі версія, не пацверджаная фактамі.

Пасля вяртання на радзіму ён купіў сабе новы аўтамабіль «Опель-Рэкорд». Гэта цяпер на «Опель» у нашых краях глядзяць як на дзяшоўку. А тады

### Арганізацыя Варшаўскай дамовы

міждзяржаўны вайсковы саюз, які існаваў у 1955–1991 гадах. У яго ўваходзілі еўрапейскія сацыялістычныя дзяржавы, а вядучую ролю адыгрываў СССР. Задумваўся гэты блок як супрацьвага створанай у 1949 годзе Арганізацыі Паўночнаатлантычнай дамовы (НАТО) на чале з ЗША.

Дамова аб стварэнні арганізацыі была падпісана 14 мая 1955 года на Варшаўскай нарадзе еўрапейскіх дзяржаў па забеспячэнні міру і бяспекі ў Еўропе. Нагодай для гэтага стала далучэнне да НАТО за некалькі дзён да таго Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Членамі арганізацыі сталі, акрамя СССР, Албанія, Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча, Румынія і Чэхаславакія, то-бок усе тагачасныя сацыялістычныя еўрапейскія краіны, апрача Югаславіі. У 1961 годзе, праўда, Албанія Энвера Ходжы з-за ідэалагічных рознагалоссяў перастала ўдзельнічаць у блоку, а ў 1968-м выйшла з яго і афіцыйна.

У рамках арганізацыі былі створаныя Аб'яднаныя вайсковыя сілы дзяржаў — удзельніц Варшаўскай дамовы, галоўнакамандуючымі і начальнікамі штабоў якіх заўсёды былі савецкія военачальнікі. Пастаянна праводзіліся сумесныя вучэнні і манеўры, ажыццяўлялася каардынацыя дзеянняў разведак розных краін. У жніўні 1968 года дзяржавы Варшаўскай дамовы сумесна ўвялі войскі ў Чэхаславакію, задушыўшы «Пражскую вясну», ухілілася ад гэтага толькі Румынія на чале з Нікалае Чаўшэску.

Пасля серыі паспяховых антыкамуністычных рэвалюцый ва Усходняй Еўропе ў 1989–1990 гадах існаванне арганізацыі страціла свой сэнс, 1 ліпеня 1991-га Варшаўская дамова была афіцыйна скасаваная.

Прага, 1968 год.

WIKIMEDIA COMMONS

**Пад выглядам стратэгічных вучэнняў у Чэхаславакію ўвайшлі войскі, каб сілай зброі задушыць мірныя рэформы, якія ажыццяўляла суверэнная дзяржава**

гэта лічылася ого-го. На грошы амерыканцаў? Не, тут усё празрыста, шпіён не стаў бы так свяціцца. Проста атрымаў добрыя камандзіровачныя.

### «Пражская вясна»

Тое, што адбылося ў жніўні 1968 года на вуліцах Прагі, стала шокам для ўсіх. Крывёю пражан запэцкаліся многія, у тым ліку і Рышард Куклінскі. Не, ён не аддаваў загады страляць па людзях. Яго наогул у той час у чэхаславацкай сталіцы не было. Але віну адчуваў. І было за што. Ён браў удзел у распрацоўцы аператыўнага плана пад кодавай назвай «Дунай». Гэта была аперацыя, распрацаваная аб'яднаным камандаваннем Варшаўскай дамовы сумесна з Генеральным штабам Узброеных сілаў Савецкага Саюза. Пад выглядам стратэгічных вучэнняў у Чэхаславакію павінны былі ўвайсці войскі, каб сілай зброі задушыць мірныя рэформы, якія ажыццяўляла суверэнная дзяржава. І гэта ўдалося.

### Кроў палякаў

Падзеі 1970 года чарговы раз падштурхнулі Куклінськага да пякучых душэўных разважанняў.

У тым годзе армія і міліцыя ў Гданьску адкрылі агонь па рабочых, якія забаставалі і выйшлі на вуліцы ў знак пратэсту супраць павышэння цэнаў.

Цяпер кроў нявінных ахвяраў пралілася ўжо не ў іншай краіне, а ў польскім горадзе. Куклінські зноў адчуў сваю віну. Гэтым разам проста з-за датычнасці да арміі, якая выканала загад страляць у свой народ. Тое, што адбылося, не давала спакою, не адпускала яго. І гэта ўсё здарылася ў Памераніі, дзе ён некалі служыў.

### Менш ведаеш, лепш спіш

Азнаямленне Рышарда Куклінськага са шматлікімі сакрэтнымі ваеннымі дакументамі, стратэгічнымі планамі Арганізацыі Варшаўскай дамовы, а таксама нефармальныя размовы з найвышэйшымі чынамі польскага Генеральнага штаба ▶




WIKIMEDIA COMMONS

**Мемарыяльная шыльда памяці Рышарда Куклінськага** ў Гданьску.

## Што адбылося на ўзбярэжжы?

Снежань 1970 года. Набліжаліся святы — Раство і Новы год. Час падарункаў і святочных застолляў. Але планавая эканоміка Польшчы трашчала па швах. Заганная сістэма, завязаная на СССР, была няздольная забяспечыць эканамічны рост. Польскі ўрад вырашыў узняць цэны на прадукты, будматэрыялы і прамтавары. Інфармацыя пра гэта прайшла спачатку па радыё (12 снежня), а потым у газетах.

Народ такому навагодняму «падарунку» не ўзрадаваўся. Абурыліся ўсе палякі. Але забаставалі, а потым выйшлі на вуліцы толькі на поўначы Польшчы на Балтыйскім узбярэжжы. Дэманстрацыі прайшлі ў Гданьску, Гдыні, Эльблангу, Шчэціне і Слупску.

Галоўнай сілай пратэстаў былі рабочыя-суднабудаўнікі. Спачатку яны проста патрабавалі адмяніць павышэнне цэнаў. Потым даданіся і іншыя патрабаванні: пакараць вінаватых у эканамічным крызісе; ліквідаваць цэнзуру і прывілеі для супрацоўнікаў спецслужбаў, міліцыянераў і вайскоўцаў. Апагей падзей прыйшоўся на 17 снежня. Гэты дзень увайшоў у польскую гісторыю пад назвамі «чорны чацвер» і «разня на ўзбярэжжы».

Улады кінулі на задушэнне пратэстаў моцную вайсковую групоўку (27 тысяч вайскоўцаў, танкі і БТРы), а таксама 5 тысяч міліцыянераў.

Першай ахвярай стаў 17-гадовы рабочы Збігнеў Гадлеўскі. Тры кулі абарвалі жыццё юнака проста на аўтобусным прыпынку. Яго цела паклалі на сарваныя з завесаў дзверы і пранеслі па вуліцах Гдыні. Наперадзе працэсіі людзі неслі акрываўленыя бела-чырвоныя польскія нацыянальныя сцягі.

Пра смерць юнака даведалася ўся Польшча. Але гэта не спыніла карны каток. У тыя снежаньскія дні на вуліцах польскіх гарадоў загінулі 44 чалавекі (41 рабочы, два міліцыянеры і адзін салдат), 1100 чалавек былі параненыя. Тры тысячы арыштаваныя. Азлобленыя людзі рабавалі і палілі дзяржаўныя будынкі і крамы. Найбольшай жорсткасцю пры задушэнні пратэстаў адзначыліся байцы ZOMO — польскага АМАПа.



Гдыня. 17 снежня 1970 года. **Рабочыя суднаверфі нясуць на сарваных з завесаў дзвярах цела Збігнева Гадлеўскага, застрэленага падчас забастоўкі.** Здымак зроблены з акна прыватнай кватэры. Фота Эдмунда Пеплінськага.

WIKIMEDIA COMMONS

### На перамовы

Хоць пратэсты і былі спыненыя сілай, камуністычныя ўлады ўсё ж вымушаныя былі пайсці на перамовы з народам. Павышэнне цэнаў адмянілі, павысілі заробкі нізкааплатным катэгорыям работнікаў. У Гданьску пачалі масавае будаўніцтва шматкватэрных дамоў для сем'яў рабочых.

Быў адхілены ад улады тагачасны кіраўнік Польшчы Уладзіслаў Гамулка, які ў тыя дні перанёс сардэчны прыступ. Але тых, хто страляў у рабочых і хто аддаваў загад страляць, не пакаралі. Месца Гамулкі са згоды Масквы заняў больш гнуткі, настроены на дыялог з грамадствам і развіццё эканамічных сувязяў з Захадам Эдвард Герэк. Масква спадзявалася, што разумнейшы лідар зможа ўратаваць аўтарытэт «прасавецкага выбару».

### Пройдзе дзесяць гадоў — і…

Пройдзе дзесяць гадоў — і многія былыя забастоўшчыкі, актыўныя ўдзельнікі снежаньскіх падзей, складуць аснову прафсаюзнага руху «Салідарнасць», які стане далакопам камуністычнай сістэмы Польшчы.

Яшчэ праз два дзесяцігоддзі сілавое падаўленне дэманстрацый у снежні 1970 года будзе прызнанае незаконным і злачынным. Але не ўсе злачынцы паўстануць перад судом. У 1982 годзе памрэ ад інсульту Уладзіслаў Гамулка. Не дажыве да справядлівага зямнога суда, памёршы ў 1986-м, і Мечыслаў Мочар — дарэчы, сын полькі і беларуса з-пад Камянца, яго сапраўднае імя Мікола Дзёмка, — які кіраваў дзеяннямі міліцыі і дзяржбяспекі. Будзе расфарміраваны міліцэйскі спецназ ZOMO — яго дзейнасць у 1970-м кваліфікуюць як злачынны гвалт таталітарнай дыктатуры.

аптымізму не дадавалі. У выпадку глабальнага канфлікту з НАТО Польшча, па планах Масквы, калі называць рэчы сваімі імёнамі, мусіла ператварыцца ў ядзерную пустыню. Рашэнне распачаць дзейнасць супраць камуністычнай сістэмы, каб не дапусціць «праліцця польскай крыві на алтар Чырвонай імперыі», у Куклінскага толькі ўмацавалася.

**Куклінскі распачаў дзейнасць супраць камуністычнай сістэмы, каб не дапусціць «праліцця польскай крыві на алтар Чырвонай імперыі»**

Планы ў галаве круціліся розныя. Адзін з іх — стварэнне падпольнай арганізацыі з афіцэраў, незадаволеных прасавецкай палітыкай польскага ўрада. Наладжванне супрацоўніцтва з НАТО. Пры пагрозе развязвання вайны — ваенны пераварот. Змена палітычнага курсу і выхад з Варшаўскай дамовы. Вось такі быў план. Заставалася выйсці на прадстаўнікоў заходніх выведак. Лепш, калі гэта будуць амерыканцы. Менавіта ім Рышард Куклінскі давяраў найбольш.

### Пачатак аперацыі «Чайка»

У жніўні 1972 года ён здолеў пераправіць ліст вайсковаму аташэ ЗША ў Боне. Амерыканцы адрэагавалі на змест ліста, напісанага ламанай англійскай мовай, вельмі аператыўна. Агучаныя на сустрэчы грандыёзныя планы (пра падпольную арганізацыю і пераварот) іх не зацікавілі. Ім патрэбен быў проста інфарматар. І ніякіх гульняў з пераваротамі. Проста перадача важнай інфармацыі. Куклінскі даў згоду. Атрымаў агентурны псеўданім Джэк Стронг (Джэк Моцны). Аперацыя пад кодавай назвай «Чайка» пачалася.




У цяперашняй Польшчы **палкоўніка Куклінскага лічаць адным з герояў, якія здабылі краіне свабоду і незалежнасць.**




Будынак Генштаба Войска Польскага ў Варшаве. **Тут Рышард Куклінскі служыў у 1964–1981 гадах.**

### Па прыступках таемнай кар'еры

«Шпіёнская кар'ера» Куклінскага развівалася імкліва. Першую інфармацыю польскі афіцэр перадаў у снежні 1972 года. Гэта былі 300 старонак са звесткамі пра вайсковыя часці і падраздзяленні ўзброеных сілаў Польшчы і Савецкага Саюза ў іншых краінах Варшаўскай дамовы.

Праз год Рышард Куклінскі быў ужо прызнаны агентам асаблівай важнасці для бяспекі ЗША і краін НАТО. Яшчэ праз год яго статус зноў вырас. Цяпер інфармацыю ад яго маглі атрымліваць толькі асабіста прэзідэнт і шэсць найвышэйшых чыноў ЗША. У 1975 годзе Куклінскі напісаў і перадаў за мяжу аналітычны тэкст аб стратэгічных праблемах ЗША ў супрацьстаянні з Арганізацыяй Варшаўскай дамовы. Лічыцца, што менавіта гэтая інфармацыя

▶ паслужыла нагодай да змянення ваеннай дактрыны Амерыкі.




WIKIMEDIA COMMONS, RAF24 (CC BY-SA 3.0)

**Вуліца Райцаў у Варшаве была сапраўдным камуністычным раем.** У такіх дамах тады жылі адзінкі. Яна і цяпер выглядае раскошна.

**Інфармацыю ад Кукліньскага маглі атрымліваць толькі асабіста прэзідэнт і шэсць найвышэйшых чыноў ЗША**

## Адчуў смак

Шпіёнская дзейнасць вымагала добрай спецтэхнікі. Для капіравання дакументаў Кукліньскі атрымаў ад амерыканцаў мініяцюрную фотакамеру, замаскіраваную пад запальнічку. Кукліньскі курыў, таму запальнічка, якая пастаянна мільгала ў яго руках, не магла выклікаць падазрэнняў. Бывала, што пачуццё небяспекі ў яго прытуплялася. Час ад часу ўзнікалі эпізоды, якія маглі прывесці да катастрофы. Але заўсёды шанцавала.



POLSKA AGENCJA PRASOWA

**Палкоўнік Рышард Кукліньскі падае дакументы на подпіс маршалу Савецкага Саюза Віктару Кулікову**, які ў 1977–1989 гадах быў галоўнакамандуючым Аб'яднанымі Узброенымі сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскай дамовы.

У 1975 годзе два месяцы Рышард правёў у Маскве, куды яго накіравалі на аператыўна-стратэгічныя курсы, арганізаваныя пры Вайсковай акадэміі Генеральнага штаба Узброеных сілаў СССР імя Варашылава. Нават адтуль ён здолеў прывезці і перадаць амерыканцам фота старонак сакрэтнага падручніка па радыёэлектроннай барацьбе.

Адбыўся з ім там і кур'ёз, які мог скончыцца заўчасным правалам. Вядома, што Кукліньскі быў не надта верны жонцы. Пра такіх кажуць: не прапускае аніводнай спадніцы. Дык вось, недзе ў вольны ад навучання час ён закадрыў жонку савецкага афіцэра КГБ. І нават у такой пікантнай сітуацыі не забыўся пра шпіёнскія абавязкі. Пасля любошчаў вырашыў сфатаграфаваць дакументы яе мужа. Часовая палюбоўніца ўвайшла ў пакой падчас «фотасесіі», спынілася, шырока раскрыўшы вочы ад здзіўлення, але пасля секунднай паўзы зрабіла выгляд, што нічога не бачыла, і вярнулася ў ложак.

Тут нічога дзіўнага. Цікава было б паглядзець на яе мужа, якому жонка дакладвала б, пры якіх абставінах яна выкрыла замежнага шпіёна.

Па вяртанні з Масквы Кукліньскі стаў найбліжэйшым памочнікам міністра нацыянальнай абароны ПНР, генерала арміі і будучага кіраўніка Польшчы Войцеха Ярузельскага, які вельмі цаніў здольнага афіцэра.

## Адкуль грошы?

Здавалася б, шпіёны павінны не высоўвацца. Але гэта не пра Кукліньскага. Аўтамабіль «Опель-Рэкорд», набыты пасля камандзіроўкі ў В'етнам. Асабістая яхта, прыдбаная падчас

службы на ўзбярэжжы. У 1977 годзе сям'я Куклінскіх набывае сабе вялікі дом у прэстыжным раёне Варшавы. А ў 1980 годзе купляецца вялікі (на 10 гектараў, у Польшчы ў той час сельская гаспадарка была прыватнай, калгасаў не было) фруктовы сад. За якія грошы? Сам Куклінскі казаў: за грошы з продажу яхты.

Хто яго ведае, як там было на самай справе. Сам Рышард Куклінскі неаднойчы заяўляў, што грошай ад ЦРУ не браў. Прынцыпова. Лічыў сябе не здраднікам, а змагаром за свабодную Польшчу. Дарэчы, гэты факт пацвярджалі і яго амерыканскія куратары. «Яго матывы былі чыстыя і патрыятычныя, і мы ўсе ўспрымалі яго як героя... складвалася адчуванне, што ЦРУ толькі дапамагала Куклінскаму абараняць яго радзіму», — апавядаў адзін з ветэранаў галоўнай амерыканскай спецслужбы.

**Рышард Куклінскі неаднойчы заяўляў, што грошай ад ЦРУ прынцыпова не браў. Гэты факт пацвярджалі і яго амерыканскія куратары**

## Плён працы

За амаль дзесяцігадовы перыяд сваёй шпіёнскай дзейнасці Куклінскі перадаў у ЦРУ каля 40 тысяч старонак розных дакументаў. Пяцігадовыя стратэгічныя планы Варшаўскай дамовы, планы вайны супраць НАТО на еўрапейскім кантыненце, планы ядзерных удараў, інфармацыя аб месцы размяшчэння сакрэтных камандных пунктаў, інфармацыя аб развіцці палітычнага крызісу ў Польшчы, план супрацьпаветранай абароны краін Варшаўскай дамовы, мерапрыемствы па супрацьспадарожнікавай маскіроўцы, тактыка-тэхнічныя характарыстыкі найноўшых узораў савецкай ваеннай тэхнікі і шмат чаго іншага.

Яго заслугі перад ЗША будуць адзначаныя найвышэйшай узнагародай ЦРУ — медалём «За выбітныя разведвальныя заслугі» (*Distinguished Intelligence Service Medal*). Ён стане першым замежнікам, які атрымае гэтую ўзнагароду. Дырэктар ЦРУ Уільям Кейсі напіша пра Куклінскага: «Ніхто не нашкодзіў камунізму за апошнія 40 гадоў так, як гэты паляк».




WIKIMEDIA COMMONS, STIOPA (CC BY-SA 3.0)

**Вокладка падпольнага выдання кнігі Куклінскага**, якое распаўсюджвалася яшчэ ў падсавецкай Польшчы.

## Што страшнейшае за смяротны прысуд?

Можна сказаць, што ўцёкі Куклінскага справакавала дзейнасць прафсаюзнай арганізацыі «Салідарнасць», якая ў пачатку 1980-х гадоў набрала вялікую папулярнасць сярод палякаў (гл. пра яе ў № 9/2020 «Нашай гісторыі»). Рышард даведаўся пра планы польскага ўрада адносна разгрому гэтай арганізацыі і ўвядзення ў краіне ваеннага становішча. Дакументы былі ім перададзеныя амерыканцам і ў Ватыкан, напэўна, са спадзяваннем, ▶



POLSKA AGENCJA PRASOWA

**З папам рымскім Янам Паўлам II.**

▶ што з імі азнаёміцца папа рымскі, паляк Ян Павел II. Уцечка інфармацыі была хутка выяўлена, і выкрыццё «крата» было справай часу. Таму Рышард Куклінскі вырашыў неадкладна ратаваць сябе і сваю сям'ю. Што пасьпяхова ўдалося.

У ЗША ён працягваў працу ўжо як эксперт па СССР і ПНР. У Польшчы Рышарда Куклінскага завочна судзілі, абвінавацілі ў здрадзе радзіме, разжалавалі да радавога, пазбавілі ўсіх узнагарод і прысудзілі да смяротнага пакарання. Гэта адбылося ў 1984 годзе.

Ці стала гэта вялікай бядой для Рышарда? Наўрад ці. А вось трагедыя, якая адбылася ў сям'і Куклінскіх праз дзесяць гадоў пасля гэтага, перакрыла сабой амаль усё. 1 студзеня 1994 года загінуў ягоны сын Багдан (за дзень да гэтага выйшаў у мора на яхце і знік разам з сябрам). Пройдзе 8 месяцаў, і пад коламі грузавіка развітаецца з жыццём Вальдэмар — другі сын. Некаторыя лічаць, што гэта была помста спецслужбаў. Але ж на гэты час Савецкага Саюза ўжо не існавала, як і сацыялістычнай Польшчы.


ФОТА ЦЭЗАРЫЯ САКАЛОЎСКАГА

**Вяртанне на радзіму.**

У тым жа годзе Рышарда Куклінскага прыме і паспавядае папа Ян Павел II. Як жылося знакамітаму шпіёну надалей з гэтай незагойнай ранай, можна толькі здагадвацца.

Шпіёна Куклінскага ў Польшчы рэабілітавалі не адразу. Першы прэзідэнт дэмакратычнай Польшчы Лех Валенса гэтаму супраціўляўся. Рэабілітацыя прыйшла ў 1997-м. Парадаксальна — калі прэзідэнтам быў ужо посткамуніст Аляксандр Кваснеўскі.

Куклінскаму вярнулі званне і ўзнагароды, ён стаў ездзіць у Польшчу. А калі памёр у ЗША ў выніку інсульту ў 2004-м, яго прах перавезлі на радзіму і ўрачыста пахавалі ў Варшаве на самых прэстыжных вайсковых могілках Павонзкі. Праз некаторы час польскі ўрад пасмяротна прысвоіў яму званне брыгаднага генерала. ◆



WIKIMEDIA COMMONS, ZYGMUNT PUT (CC BY-SA 4.0)

**Помнік Куклінскаму** ў Кракаве.

# Вітанні з Варшавы

**Адразу пасля выхаду Польшчы з залежнасці ад СССР польская разведка пачала цесную супрацу з ЗША. І гэта амерыканцы настойліва пераконвалі новыя ўлады краіны, каб тыя не праводзілі татальнай чысткі спецслужбаў, а захавалі ранейшыя кадры. Пра гэта расказваецца ў новай кнізе Джона Помфрэта «Вітанні з Варшавы: польскія шпіёны, ЦРУ і ўзнікненне нечаканага альянсу».**

Помфрэт — былы карэспандэнт «Вашынгтон пост» у Варшаве. А кніга стала вынікам доўгага і карпатлівага збору інфармацыі.

Першая вялікая сакрэтная польска-амерыканская аперацыя мела кодавую назву «Прыязны Садам». У 1991 годзе менавіта палякі здолелі вывезці групу з шасці амерыканскіх цэрэушнікаў, якія завіслі ў Кувейце пасля маланкавай акупацыі краіны Іракам. Невялікая кувейцкая армія, хоць уварванне і было для яе нечаканым, аказала супраціўленне. Баі доўжыліся суткі, за гэты час кувейтцы збілі 39 іракскіх самалётаў, падбілі 120 танкаў і бронемашын, аднак 88-тысячны інтэрвенцыйны корпус раздушыў ачагі супраціўлення. Замежнікі апынуліся ў мяшку.

Палякам удалося вывезці амерыканцаў, выдаўшы іх за польскіх рабочых. Сярод уратаваных быў і шэф рэзідэнтуры ЦРУ ў Кувейце. Гэта была старанна прадуманая аперацыя. З Варшавы ў Багдад для «братоў-палякаў» завезлі нават адзежу польскай вытворчасці — да трусоў і шкарпэтак.




Ірак Садама Хусэйна быў жорсткай дыктатурай. Помфрэт расказвае, што іракская чыноўніца, якая паставіла выязныя візы для «палякаў»-амерыканцаў, пазней знікла. Што з ёй стала? Магчыма, яе пакаралі за несвядомае аказанне дапамогі замежнай разведцы. Гэтая бездакорна праведзеная аперацыя дала амерыканцам разуменне таго, наколькі карыснымі могуць быць спецслужбы ўсходнееўрапейскіх дзяржаў і наколькі прафесійна яны дзейнічаюць.

ЦРУ настойліва тлумачыла новым уладам Польшчы, што пабудова новай разведслужбы з нуля — неэфектыўны шлях. Такую опцыю выбралі чэхі. Вацлава Гавела амерыканцам пераканаць не ўдалося, хоць ЦРУ нават падарыла яму браніраваны лімузін. Гавел настаяў на поўнай люстрацыі. А вось з польскай разведкі ў выніку адсеялі толькі трох афіцэраў.

«Паранаідальны пошук расійскай агентуры ў шэрагах сваіх спецслужбаў толькі ўскладняе абарону сваіх інтарэсаў перад той жа Расіяй», — так зрэагавалі амерыканцы на чысткі ў шэрагах польскай вайсковай разведкі ў канцы 2000-х, пасля прыходу да ўлады ўрада партыі «Закон і справядлівасць».

Якія яшчэ аперацыі апісвае Помфрэт?

Як амерыканская служба электроннай разведкі NSA размясціла ўздоўж усходняй мяжы Польшчы станцыі падслухоўвання, скіраваныя на СССР. Як на базе школы разведкі ў Кейкутах на поўначы Польшчы з'явіўся строга сакрэтны аб'ект ЦРУ — тут пазней будуць дапытваць тэрарыстаў з «Аль-Кайды».

Палякі супрацоўнічалі з амерыканцамі там, дзе добра ведалі «мясцовасць»: у Паўночнай Карэі, Лівіі, былой Югаславіі, Самалі, на Кубе, у Нігерыі, Іране, Анголе, сектары Газа.

Аўтар кнігі сцвярджае, што амерыканцы папрасілі палякаў не прадаваць агромністы будынак пасольства ў Пхеньяне. Раней краіны «савецкага лагера» супрацоўнічалі цесна, таму і дыпламатычная прысутнасць была вялікая. Пасля распаду СССР у Польшчы эканамічных інтарэсаў у Паўночнай Карэі не засталося. Але амерыканцы задумалі размясціць там абсталяванне для падслухоўвання. Так будынак застаўся ва ўласнасці польскай дзяржавы.

— Яны гатовыя былі рабіць для нас усё, — расказаў Помфрэту Біл Норвіл, які ў пачатку 90-х быў кіраўнікам рэзідэнтуры ЦРУ ў Варшаве. — І мы пра што толькі не прасілі.

Нават навядзенне ракет на цэлі ў Афганістане, Судане ды «іншых краінах» ажыццяўлялася з дапамогай польскай агентуры. Польскі разведчык тлумачыць: «Калі трэба патрапіць ракетай у канкрэтны кабінет ▶

у Міністэрстве абароны Ірака, а не проста ў будынак, то патрэбныя людзі на месцы, спадарожнік табе не дапаможа».

Канешне, палякі і амерыканцы супрацоўнічалі і ў краінах былога СССР. У 1990-я найважнейшай задачай было не дапусціць супрацы былых савецкіх ядзершчыкаў з Іракам, Іранам і падобнымі рэжымамі. Аўтар піша, што менавіта рэзідэнт польскай разведкі Здзіслаў Сарэвіч перадаваў на Захад найбольш поўную інфармацыю падчас путчу ГКЧП у 1991 годзе.

Помфрэт маляўніча апісвае, як польскія шпіёны ў Іране бралі пробы паветра каля навукова-даследчых цэнтраў, звязаных з атамнай праграмай. Дзякуючы гэтаму амерыканцы дакладна ведалі не толькі тэмп яе развіцця, але і краіны паходжання сыравіны.

Узначальваў іранскі кірунак ветэран польскай разведкі Уладзімеж Сакалоўскі. Дарэчы, пасля выхаду на пенсію свой службовы досвед ён выкарыстаў своеасабліва. Яго пяру належаць шпіёнскія раманы, творчы псеўданім — *Vincent Severski*. У 2008 годзе Сакалоўскі і яшчэ пяць польскіх спецслужбістаў атрымалі найвышэйшую ўзнагароду ЦРУ для замежнікаў — ордэны «Легіён гонару».

А ў 2018 годзе польскага вайсковага аташэ ў Іране палкоўніка Дарыюша Кальбарчыка насмерць збіла машына, і вінаватага так і не знайшлі. Помфрэт мяркуе, што гэта магла быць помста Тэгерана палякам.

Супрацоўніцтва польскіх і амерыканскіх спецслужбаў было вынікам пераасэнсавання палякамі сваёй *racji stanu* — нацыянальных інтарэсаў. Але ўласна кветкава-цукеркавы перыяд доўжыўся нядоўга. Ужо ў 1992 годзе, праз два гады пасля змены ўлады ў краіне, польская контрразведка аднавіла сачэнне за амерыканскімі дыпламатамі і падслухоўванне разам з іншымі і іх таксама. ◆

## Як Чарняўскі выратаваў успаміны Ларысы Геніюш

Працяг **са старонкі 19**.

копіі, а арыгінал надзейна схаваць. Ларыса Антонаўна зразумела мой стан і не стала затрымліваць.

Я схаваў папку пад кашулю, нацягнуў на плечы штурмоўку і развітаўся з гаспадыняй. Не стаў выходзіць з двара на вуліцу, бо адразу б трапіў пад вокны камяніцы праз дарогу, дзе ўладкавалася раённае КГБ. Сцежкай каля сцяны прайшоў на задворак, перабраўся цераз пару платоў, праз нейкія агурэчнікі і нарэшце трапіў на суседнюю вуліцу. Адтуль прайшоў да касцёла, далей у поле ўжо за Зэльву, нейкімі лагчынамі дабраўся да лесу і там толькі крыху супакоіўся. Бо ніякай пагоні за мной не бачылася.

Цяпер, калі прайшло столькі гадоў, гэтыя мае аматарскія партызанскія практыкаванні выклікаюць усмешку ў самога. Але такі быў тады час — час ціхай рэабілітацыі Сталіна. І такая вялізная адказнасць лягла на мае плечы: не даць загінуць гэтаму тэксту.

Прайшоў пару кіламетраў лесам у бок Ваўкавыска і асцярожна выбраўся на шашу. Прагаласаваў нейкаму грузавіку. Той спыніўся, і шафёр прапанаваў забірацца ў кузаў. А там былі розныя скрынкі, бочкі, дошкі і вясёлая кампанія грузчыкаў у зялёных штурмоўках. І я цалкам па выглядзе і колеры ўпісаўся ў іх калектыў, асабліва калі не адмовіўся ад глытка «чарніла».

Праязджаючы праз Зэльву, я на ўсялякі выпадак прыгнуўся і доўга перашнуроўваў кеды. А за мостам праз Зальвянку стала лягчэй на сэрцы, хоць і насцярожана пазіраў на кожны легкавік, які нас абганяў.

Жонка была першым пасля мяне чытачом машынапісу. Другім — Зянон Пазняк. А схованку Святлана выбрала ў так званым «цешчыным пакоі» — кладоўцы ў спальні, пад бялізнай на ніжняй паліцы. Гэта, як на цяперашні розум, любімае месца пошукаў зладзеяў і хлопцаў «у цывільным».

Восенню 1989 года я перадрукаваў успаміны Геніюш на добрай пішучай машынцы. А потым занёс тэкст у рэдакцыю «Маладосці». Грачанікаў без ваганняў вырашыў: «Друкуем! Неадкладна! І вялікімі кавалкамі, каб "наверсе" не паспелі агледзецца і не спынілі публікацыю».

Рыхтаваў да друку тэкст успамінаў Янка Сіпакоў. Ён жа і прыдумаў агульную назву для твора — «Споведзь». Мне назва падалася не зусім адпаведнай, але я не пярэчыў, бо нарэшце надарылася магчымасць, што ўспаміны Ларысы Антонаўны трапяць да чытача! А назва — гэта другараднае... Пазней мне і іншыя казалі пра няўдаласць назвы. Бо споведзь — гэта спавяданне за нейкія правіны, з чаканнем прабачэнняў. Ларыса ж Геніюш не мела правінаў перад Беларуссю. Наадварот, усё яе жыццё, дзейнасць і творчасць былі дзеля Беларусі, дзеля яе спадзяванага адраджэння і вызвалення.

І вось трымаю ў руках першы нумар «Маладосці» за 1990 год. Нарэшце ўспаміны Геніюш выйшлі з падзем'я ў белы свет!

# ДЗВЕ РЭСПУБЛІКІ магнатаў Бжастоўскіх

**Цімафей Акудовіч піша пра два фенаменальныя маёнткі, у якіх эканамічныя свабоды змянілі якасць «чалавечага капіталу» ў XVIII і XIX стагоддзях. Два нашы суайчыннікі-візіянеры на мікраўзроўні даказалі, як паляпшае чалавека свабода.**

Першай канстытуцыяй, прынятай у Рэчы Паспалітай (і, адпаведна, другой у свеце), была зусім не Канстытуцыя 3 мая 1791 года. За месяц да гэтага, 4 красавіка, варшаўскі сойм ухваліў канстытуцыю Паўлаўскай рэспублікі — невялікага па мерках дзяржавы маёнтка на мяжы цяперашніх Беларусі і Літвы. Стваральнікам гэтай «рэспублікі» быў святар і рэфарматар Павел Ксаверый Бжастоўскі.

## Болей ордэнаў!

Род Бжастоўскіх прыехаў у Вялікае Княства Літоўскае з Малой Польшчы (паўднёвы ўсход Польшчы з цэнтрам у Кракаве) у пачатку XVII стагоддзя, але адразу ж зрабіўся важным і ўплывовым. Пасада пісара Вялікага Княства стала для Бжастоўскіх амаль што сямейнай.

Ян Бжастоўскі набыў маёнтак Міхалішкі на беразе Віліі (цяпер гэта Астравецкі раён) у 1604 годзе. Менавіта ён у 1622-м запрасіў у Міхалішкі манахаў-аўгусцінцаў і заснаваў таямнічы і неймаверна прыгожы ўнутры касцёл Святога Міхала, які цяпер выконвае ролю спадарожніка гервяцкай турыстычнай Меккі.

Сын Яна, віленскі біскуп Казімір Канстанцін Бжастоўскі, плёў інтрыгі супраць Сапегаў і нават адлучыў іх ад Царквы, падтрымліваў пашырэнне езуіцкага ордэна (у тым ліку меў дачыненне да будаўніцтва мінскага кафедральнага касцёла), «прыдумаў» ордэн рахітаў і запрасіў у ВКЛ ордэн піяраў.

Рэлігійныя інстытуты і механізмы, відаць, былі звыклым светам для Казіміра Канстанціна Бжастоўскага, а тыя, хто замахваўся на гэты свет, — ворагамі. Ці не таму ён зрабіў усё, каб у 1689 годзе пакаралі смерцю колішняга таварыша па ордэне езуітаў Казіміра Лышчынскага? Апошні, скончыўшы Берасцейскі езуіцкі калегіум і Віленскую акадэмію, урэшце пакінуў ордэн езуітаў, а пасля напісаў кніжку на 530 старонак, якая заканчвалася фразай: «Такім чынам, Бога няма». Такое ў тыя часы было недаравальным грахом.

**Ордэн рахітаў**
быў заснаваны віленскім біскупам Казімірам Бжастоўскім у 1713 годзе для манахаў, што бралі на сябе абавязак даглядаць хворых на чуму. Апекуном выбралі святога Роха: паводле сучасных даследаванняў, гэта быў француз з заможнай сям'і, што атрымаў медычную адукацыю, але рана страціў бацькоў і, ахвяраваўшы свае багацце бедным, выправіўся ў пілігрымку ў Італію. Гэта было XIV стагоддзе, Еўропа пакутавала на эпідэмію чумы, і самаахвярны лекар, які ўрэшце і сам перанёс страшную хваробу, быў сімвалам чалавечнасці. Ордэн меў толькі тры кляштары: у Мінску (скрыжаванне сучасных Рэвалюцыйнай і Раманаўскай Слабады), Вільні і Коўне. Яго скасавалі ў 1840 годзе.

## Біскуп прагрэсіўных поглядаў

У кожным пакаленні роду Бжастоўскіх нехта выбіраў для сябе чорную сутану: гэта таксама быў спосаб пабудаваць кар'еру. У другой палове XVIII стагоддзя такім выбранцам стаў сын Юзафа Бжастоўскага (і пляменнік Казіміра Канстанціна) Павел Ксаверый.

Нарадзіўся Павел Ксаверый у 1739 годзе ў вёсцы Мосар (цяперашні Глыбоцкі раён), дзе ў Бжастоўскіх быў маёнтак, а магчыма, нават невялікі замак. Касцёл, яшчэ нядаўна знакаміты на ўсю Беларусь сваім пробашчам Юозасам Булькам, цвярозасцю і батанічным садам, пабудаваў у 1792 годзе малодшы брат Паўла Ксаверыя Роберт і асвяціў іменем сваёй жонкі, Ганны з Плятэраў (пра Плятэраў і найярчэйшую асобу з іх роду, Эмілію Плятэр, чытайце ў артыкуле Віталя Чырвінскага ў № 9/2021 «Нашай гісторыі»). ▸

▶ У канцы 1750-х Бжастоўскі навучаўся ў Рыме, у езуіцкім калегіуме. А пасля вяртання ў 1762 годзе быў спачатку высвечаны на ксяндза, пасля атрымаў «сямейную» пасаду пісара ВКЛ і ў дадатак выбраўся дэпутатам на Галоўны трыбунал ВКЛ. У Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя так было можна.

Павел быў сярэднім сынам, на спадчынны Мосар спадзявацца не мог, таму ў 1767 годзе набыў уласны маёнтак Мерач за 40 км ад Вільні. Праз два гады ён пераназваў яго ў Паўлава і зрабіў тое, што ў бацькоўскім уладанні, мажа, і не атрымалася б: вызваліў сваіх сялян ад паншчыны і ўладкаваў з іх парламент, стварыўшы такім чынам асобную Паўлаўскую рэспубліку.


Руіны **палаца ў Паўлаве.**

WIKIMEDIA COMMONS, JODKOVSKA (CC BY-SA 4.0)

### Дэізм і фізіякратызм

Тут патрэбна невялікае адступленне.

У другой палове XVII стагоддзя ў Еўропе развілася філасофская плынь дэізм (ад лацінскага *deus* — Бог). Дэісты верылі ў Бога, але адмаўлялі яму ў звышнатуральных праявах і цудах, у пэўным сэнсе атаясамліваючы з Богам прыроду. Найважнейшай канцэпцыяй гэтай тэорыі была ідэя «натуральнага парадку»: вера ў тое, што, як і ў прыродзе, у грамадстве існуюць натуральныя законы развіцця і ўзаемадзеяння, якія трэба проста не парушаць для таго, каб эканоміка, людскія адносіны і нават палітыка развіваліся гарманічна.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя гэтыя філасофскія разважанні сталі асновай для эканамічнай тэорыі французскага эканаміста Франсуа Кенэ, якую цяпер называюць «фізіякратызмам» (са старажытнагрэчаскай *φύσις* — прырода і *κράτος* — сіла, улада). Паводле яе пастулатаў выходзіла, што сапраўднай крыніцай багацця мусіць быць праца на зямлі, адно толькі трэба даць эканамічную свабоду сельскім вытворцам — і ўсё само сабой гарманізуецца.

Сукупнасць гэтых ідэй была вельмі папулярнай па ўсёй Еўропе. І Рэч Паспалітая не стала тут выключэннем. Хутчэй, наадварот: у нас фізіякратызмам зацікавіліся буйныя магнаты і высокапастаўленыя святары.

### Дзве Мерачы

Мерач Бжастоўскага, перайменаваная ім у Паўлава, — гэта сённяшняя невялікая вёска Мяркіне, якая месціцца ў Шальчынінкайскім (Салечніцкім) раёне Літвы, непадалёк ад мяжы з Беларуссю. У ёй цяпер засталося толькі некалькі дзясяткаў пастаянных жыхароў.
Не варта блытаць гэты населены пункт з аднайменным мястэчкам у цяперашнім Варэнскім раёне, колішнім павятовым і нават адзін час, у самым канцы існавання Рэчы Паспалітай, ваяводскім цэнтрам. Аб’ядноўвае гэтыя два паселішчы толькі тое, што абодва яны месцяцца на рацэ Мерычанцы (Мяркіне), толькі вёска — у яе верхнім цячэнні, а мястэчка — пры ўпадзенні ў Нёман.


WIKIMEDIA COMMONS

Так выглядаў **палац Бжастоўскіх у Мосары.**

## Якая эфектыўнасць ад прымусу?

З пазіцыі «натуральнага парадку» грамадства — гэта таксама частка прыроды, якая гэтак жа развіваецца па натуральных законах. Чалавек і ягоная ўнутраная маральнасць з'яўляюцца часткай гэтай сістэмы. Калі чалавека выняць з натуральных законаў прыроды — напрыклад, пазбавіць свабоды, маёмасці ці бяспекі, — ён становіцца неэфектыўным як для сябе, так і для грамадства. Фізіякраты казалі: «Якую эфектыўнасць можна патрабаваць ад чалавека, калі ён працуе пад прымусам і не бачыць сваёй выгады?»

Банальнасць для сённяшняга дня, але ў XVIII стагоддзі з яго распаўсюджаным прыгонам гэта гучала як выклік.

Выклік гэты прынялі людзі з найвышэйшых колаў грамадства. Сам канцлер Вялікага Княства Літоўскага Іаахім Літавор Храбтовіч (пазней сталі пісаць «Храптовіч») адзначыўся як тэарэтык руху, напісаўшы некалькі твораў на гэту тэму. Сваю гаспадарку ў Шчорсах на Навагрудчыне ён вёў у адпаведнасці з новымі прынцыпамі: скасаваў паншчыну, плаціў за наёмную працу, а за карыстанне зямлёй браў долю ад ураджаю. Да 1770 года шчорсаўскі маёнтак стаў адным з самых прыбытковых у Рэчы Паспалітай.

## Вар'яцтва са Статутам

Дзякуючы таму, што Шчорсы цяпер на тэрыторыі Беларусі, пра іх у нас шмат пішуць. Але Храбтовіч быў у сваіх памкненнях не адзін. Ідэі французскіх эканамістаў абмяркоўвалі ў палацах і маёнтках па ўсёй Рэчы Паспалітай. Але на практыцы да канца XVIII стагоддзя ніхто




WIKIMEDIA COMMONS

**Павел Ксаверый Бжастоўскі.**

ў гэтым кірунку не зайшоў так далёка, як Павел Ксаверый Бжастоўскі.

10 сакавіка 1767 года ў вёсцы Паўлава (Мерач) было абвешчана аб стварэнні рэспублікі. Сяляне станавіліся вольнымі і ўтваралі парламент, дзе рашэнні прымаліся большасцю галасоў. Парламент быў двухпалатны, а яго пастановы выконвалі розныя міністэрствы, якімі кіравалі выключна сяляне. Пасаду старшыні ў парламенце займаў сам Бжастоўскі, і ён, відавочна, меў права вета, але не больш за тое.

Усё гэта было прапісана ў Статуце, які Бжастоўскі падрыхтаваў у тым жа годзе. У адпаведнасці са Статутам, усе сяляне абвяшчаліся вольнымі і маглі пакінуць гаспадарку пры ўмове выплаты ўсіх пазык і рамонту хаты. І хоць сума пазыкі была досыць пад'ёмнай, сыходзіць з рэспублікі ніхто не хацеў.



USTAWY
STOSUIĄCE SIĘ DO DOBREGO PORZĄDKU, I POWINNOSCI OSIADŁYCH LUDZI W DOBRACH PAWŁOWIE CZYLI MERECZU
PRZEPISANE
W ROKU 1769.

WIKIMEDIA COMMONS

**Статут Паўлаўскай рэспублікі.**

Ні Храбтовіч, ні іншыя фізіякраты на такі ўзровень «натуральнага парадку» падняцца не наважыліся. Большасць жа магнатаў усё яшчэ разглядала сялян як тавар і тое, што рабіў дзіўны ксёндз, увогуле лічыла вар'яцтвам. Вар'яцтвам, якое мусіла хутка скончыцца.

## Паўлаўская рэспубліка

Бжастоўскі выбраў для свайго эксперыменту невялікую вёску з бедным насельніцтвам. Сам рэфарматар узгадваў пра гэта так: «У 1767 годзе я знайшоў зямлю, парослую лесам, з ракой Мерычанка, якая ўпадае ў Нёман, незаселенай. І таму прыйшлося шукаць у лясах купку здзічэлых людзей, якія ў галечы і няшчасці жылі пад нявольніцкай працай згодна з агульнапрынятым у краіне звычаем».

Па плошчы Паўлаўская рэспубліка была роўнай палове Ліхтэнштэйна або Сан-Марына і пятнаццаці княствам Манака: каля 3 тысяч гектараў. Права ўдзельнічаць у парламенце мелі гаспадары, якія валодалі зямлёй, а іх сямейнікі і беззямельныя ў галасаваннях не ўдзельнічалі. Пры гэтым Бжастоўскі перыядычна выдзяляў зямлю тым, хто яе не меў, а таксама новым жыхарам.

За 20 гадоў колькасць грамадзян рэспублікі вырасла ўтрая і налічвала каля 700 чалавек. Неслабы міграцыйны працэс як для XVIII стагоддзя! Яно і не дзіўна, бо ўсе людзі ў Паўлаве былі вольныя. Даўшы свабоду, Бжастоўскі адразу ж адмяніў паншчыну і ўвёў чынш, бо гэта гарантавала асабістую зацікаўленасць сялян у выніках іх дзейнасці. ▶

▶ У Паўлаўскай рэспубліцы былі свой сцяг і герб, чаканіліся грошы. Паўстала школа, лякарня і нават банк. Усё гэта з удзелам сялян і для сялян.

## Бжастоўскі пастанавіў, што жанчыны ў ягонай рэспубліцы мусяць хадзіць у блакітных сукенках з белымі фартухамі

Было сваё войска і нават форма ў гэтага войска — белыя жупаны з чорнымі папахамі наверх. Форму, дарэчы, мела не толькі войска, але і звычайныя жыхары. Бжастоўскі пастанавіў, што мужчыны ў ягонай рэспубліцы мусяць хадзіць у блакітных жупанах і чырвоных шапках, а жанчыны ў блакітных сукенках з белымі фартухамі. Сучасны чалавек у гэтым месцы можа выставіць прэтэнзію Бжастоўскаму, што вольнасць ягоных сялян была моцна абмежаваная, калі пан вызначаў колер іх вопраткі, але для людзей той эпохі такія дробязі наўрад ці былі заўважныя.

### Свабода, якую хочацца бараніць

Эксперымент Бжастоўскага выклікаў вельмі розную рэакцыю ў грамадскасці Рэчы Паспалітай. Шмат хто лічыў яго вар'ятам, але агулам, дзякуючы модзе на французскую філасофію таго часу, да таго, што адбывалася ў Паўлаве, ставіліся з цікавасцю. У рэспубліку прыязджаў нават сам кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які, ацаніўшы зробленае, уручыў дзіўнаму ксяндзу ордэн Белага Арла.

Вяршыняй прызнання стала пастанова Чатырохгадовага сойма, калі 4 красавіка 1791 года яго пасламі была ратыфікаваная дапоўненая Канстытуцыя Паўлаўскай рэспублікі. У адпаведнасці з ёй сяляне маглі сыходзіць з гаспадаркі, ужо нават не выплачваючы ніякіх пазык Бжастоўскаму. Але ніхто не спяшаўся гэтага рабіць. Бо ці было лепшае месца для сялян ва ўсёй Рэчы Паспалітай на той момант?

На жаль, такім яно заставалася ўжо нядоўга. У наступным годзе пачалася вайна з Расіяй, пасля другі падзел Рэчы Паспалітай і паўстанне Тадэвуша Касцюшкі. У 1794 годзе парламент рэспублікі вырашыў далучыцца да паўстання. Нягледзячы на малалікасць



WIKIMEDIA COMMONS

**Салдаты Паўлаўскай рэспублікі** тры разы адбівалі штурм расійскіх войскаў.

Паўлава, расійскім войскам давялося тры разы падымацца на штурм, каб узяць дзіўную вёску, якую абараняла мясцовае паспалітае рушанне ў белых жупанах з чорнымі папахамі.

### Чвэрць стагоддзя парадку

Здавалася б, не можа такога быць, каб права прымаць рашэнні змагло адразу зрабіць з бедных прыгонных сялян эфектыўных гаспадароў. Аднак ужо ў XX стагоддзі гісторыкі падлічылі, што эфектыўнасць працы і колькасць здабытага ўраджаю ў Паўлаве былі на парадак вышэйшыя, чым агулам па Рэчы Паспалітай. Іншая справа, што адной эфектыўнасці гаспадарання ў асобна ўзятай маленькай дзяржаве мала.

25 гадоў праіснавала незвычайная рэспубліка пад кіраўніцтвам Бжастоўскага. Баючыся рэпрэсій з боку расійскіх уладаў, Павел Ксаверый з'ехаў у Саксонію. Сваю маёмасць ён прадаў іншаму гаспадару, які паабяцаў хаця б часткова захаваць парадкі старой рэспублікі.

Дзіўным чынам Кацярына II не ліквідавала гэтай гаспадаркі. Хаця якраз яна мела зуб на ўсіх фізіякратаў Рэчы Паспалітай: з-за чутак пра тое, што «польскія» паны даюць свабоду, у 1770–1780-х гадах з Расіі збягала шмат сялян. Канчаткова Паўлава было ліквідавана толькі пасля паўстання 1830–1831 гадоў, калі мясцовыя сяляне зноўку далучыліся да змагання.

На той час яны былі ўжо не проста эканамічным эксперыментам дзіўнага пана, але яркай рэгіянальнай з'явай, бо этнографы, якія падарожнічалі па гэтых землях у першай палове XIX стагоддзя, адзначалі відавочную розніцу ў жыццёвых падыходах паўлаўцаў: яны самі

планавалі сваё жыццё (наколькі гэта было магчыма), лічылі свае прыбыткі і цікавіліся мастацтвам.

Сам Павел Бжастоўскі ў 1800 годзе вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў суседняй з Паўлавам вёсцы Тургелі. Тут ён пражыў рэшту сваіх дзён, назіраючы за тым, як занепадае праект ягонага жыцця.

Памёр стары ксёндз у 1827 годзе і быў пахаваны ў мясцовым касцёле. Але па нейкай прычыне расійскія ўлады неўзабаве выцягнулі труну з целам Бжастоўскага і вывезлі яе ў невядомым кірунку.

## Вальнадумства ў спадчыну

Неўзабаве атмасфера ў Расійскай імперыі стане задушлівай і непрыдатнай для гадавання фізіякратызму і іншых прагрэсіўных ідэй. Аднак у першай чвэрці XIX стагоддзя Польшча яшчэ мела ілюзію некаторай самастойнасці, а Расійская імперыя не супрацьпастаўляла сябе цывілізаванаму свету. У 1818 годзе расійскі імператар Аляксандр I на адкрыцці сейма Царства Польскага нават анансаваў стварэнне расійскай Канстытуцыі, паводле якой Расія мусіла стаць канстытуцыйнай манархіяй.


WIKIMEDIA COMMONS

**Караль Бжастоўскі**, які зрабіў сваіх сялян грамадзянамі.

Апошнюю спробу скарыстацца ідэяй натуральнага парадку на практыцы зрабіў нашчадак Храбтовічаў і Бжастоўскіх — Караль Бжастоўскі. Ён быў унукам Іаахіма Храбтовіча па маці і пляменнікам Паўла Ксаверыя Бжастоўскага па бацьку.

Нарадзіўся Караль у 1796 годзе ў Міхалішках і як нашчадак двух родаў атрымаў у спадчыну землі як саміх Бжастоўскіх (тыя ж Міхалішкі), так і Храбтовічаў: маёнтак Штабін у Падляшскім ваяводстве.




Вучыўся юнак у Вільні і Парыжы. Выявіўся здатным вучнем: лёгка авалодаў лацінай, французскай і нямецкай мовамі, але асаблівую цікавасць меў да тэхнічных навук. Як нашчадак двух магутных шляхецкіх родаў, паступіў у 1816 годзе на вайсковую службу і хутка рабіў кар'еру як вайсковы інжынер. Але ў 1818-м раптам нешта здарылася — і ён папрасіўся ў адстаўку. Верагодней за ўсё, меў праблемы са здароўем.

## Тысячы ранаў

Пасля адстаўкі Бжастоўскі з'ехаў у Штабін (цяпер гэта вёска ў Падляшскім ваяводстве Польшчы на поўдні ад Аўгустова, за 40 км на захад ад Гродна). На той момант штабінскі маёнтак — гэта 12 тысяч гектараў занядбанай зямлі, абцяжаранай пазыкамі Храбтовічаў.

Бжастоўскаму пашанцавала: ад суседа ён атрымаў грошы на пакрыццё ўсіх пазыкаў. І 23-гадовы шляхціч вырашыў не марнаваць гэты шанец. Закасаўшы рукавы ён распачаў тую ж справу, якую некалі распачыналі ягоныя дзед і дзядзька.

У 1819 годзе Караль абвясціў у Штабіне рэспубліку. Прыгоннае права было адмененае, сяляне сталі вольнымі. У эканамічным плане малады Бжастоўскі пайшоў далей за сваіх сваякоў: уся зямля была абвешчаная арэнднай. Гэта значыць, сяляне станавіліся цалкам эканамічна вольнымі і прыбытак іх гаспадаркі залежаў выключна ад іх.

Сам Бжастоўскі пра гэта пісаў так: «Я ганаруся, што сам сябе забяспечваю. Калі б я страціў гэту ўпэўненасць, жыццё б мне абрыдла. Я перастаў бы жыць, калі б не змог зарабляць на жыццё... Я вызваляю вас ад усялякай прымусовай працы, таму што ▸




**Храм у Міхалішках на высокім беразе Віліі —** адбітак эстэтычных густаў нашых продкаў. Усё тут цэльна і стрымана.

▸ ўсякая прымусовая праца прыніжае чалавека,ператварае яго ў звера, пакідае на ім тысячы ранаў і перашкаджае яго маральнаму ўздыму».

## Штабінская рэспубліка

Зямля ў маёнтках Бжастоўскага была не вельмі добрая, таму пан вырашыў прымусова ўвесці еўрапейскія практыкі сельскай гаспадаркі: замест трохпольнага севазвароту — шматпольны і абавязковая пасадка на сваім участку бульбы, хмелю і капусты. Бжастоўскі сам напісаў звод законаў, якія жорстка каралі за невыкананне правілаў і асабліва за п'янства.

На гэтым прыкладзе вельмі цікава назіраць за генезісам ідэй фізіякратызму ў XIX стагоддзі: у дзеяннях маладога Караля ўжо не было рамантычнага жадання пабудаваць ідэальную рэспубліку з канстытуцыяй, мундзірамі і парламентам, як тое рабіў у часы Асветніцтва ягоны дзядзька. Малады Бжастоўскі адкінуў усе «гульнявыя элементы», пакінуўшы толькі прагматыку: ён даў максімальную свабоду сялянам, увёўшы жорсткае пакаранне за невыкананне законаў, якія сам напісаў. Далоў цырымоніі: у XIX стагоддзі стаўка ўжо рабілася на тэхнічны прагрэс і чалавечы капітал.

У кожнай вёсцы маёнтка стваралася самакіраванне, якое збіралася па нядзелях і вырашала ўсе пытанні гаспадаркі прамым галасаваннем. На сялянскія грошы пры маёнтку была арганізавана школа. Часта там выкладаў сам Караль Бжастоўскі. Ужо праз 10 гадоў каля паловы жыхароў маёнтка ўмелі чытаць і пісаць: неверагодна вялікі працэнт для сярэдзіны XIX стагоддзя.

Таксама Бжастоўскі арганізаваў кантору, дзе сяляне маглі атрымаць пазыкі на арганізацыю сваіх гаспадарак. Спачатку пад 6%, а пазней пазыкі сталі беспрацэнтнымі.

## Апантанасць і адукацыя

Важнай часткай рэспублікі Бжастоўскага ў Штабіне была прамысловасць. Схільны да дакладных навук шляхціч не баяўся новага: гута, якую ён арганізаваў, стала звышпаспяховай і адной з найбуйнейшых у Расійскай імперыі. А між тым усю тэхналогію Бжастоўскі вывучыў і сканструяваў сам.

У 1824 годзе ў Аўгустове пачалі капаць знакаміты Аўгустоўскі канал — і малады рэфарматар з нуля стварыў ліцейную вытворчасць, дзе рабілі механізмы для шлюзаў канала. Пазней на заводзе пачалі выпускаць сельскагаспадарчую тэхніку. І тут таксама некаторыя прылады (напрыклад, механічную даілку для кароў) распрацаваў сам Бжастоўскі.

Усе гэтыя тэхнічныя навацыі, само сабою, патроху распаўсюджваліся па наваколлі.

Да паўстання 1830 года Караль Бжастоўскі на свае вочы ўбачыў: тэорыя працуе! Ён меў рацыю, калі пайшоў шляхам эканамічных свабод, то, відаць, і ў іншых пытаннях належыць верыць у свае сілы. З той жа энергічнасцю рэфарматар далучыўся да паўстанцкага войска, заняў не апошнюю ў ім пасаду і нават атрымаў ордэн *Virtuti Militari* за мужнасць у бітве. Але паўстанне прайграла, і толькі цудам можна

патлумачыць тое, што шляхціч не быў пакараны пасля яго паразы і нават застаўся кіраваць сваімі ўладаннямі, толькі фармальна перапісаўшы іх на сястру.

Штабінская рэспубліка праіснавала да 1854 года, увесь гэты час паказваючы неслабую дынаміку. Раслі эканамічныя паказчыкі і тое, што цяпер бы назвалі індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу: пісьменнасць, матываванасць, узровень жыцця, даўгалецце.

Аднак сам Бжастоўскі з дзяцінства не вылучаўся моцным здароўем. І 30 гадоў напружанай працы даліся ў знакі. У 1853 годзе ён выехаў на лячэнне ў Парыж, адкуль ужо не вярнуўся: налета неўтаймаваны рэфарматар памёр і быў пахаваны на могілках Манмарансі каля французскай сталіцы.

Перад смерцю добрасумленны гаспадар прапісаў план развіцця сваёй справы на будучыню. Сяляне атрымлівалі сваю зямлю ў прыватную ўласнасць, гаспадарка пераходзіла пад кіраванне аканома, які атрымліваў палову ад усіх прыбыткаў гаспадаркі (гэта павінна было стаць матывацыяй), спецыяльным загадам быў заснаваны Штабінскі сельскагаспадарчы інстытут і шмат чаго яшчэ.

Але, на жаль, прызначаны аканом не справіўся. Ужо праз 8 гадоў гаспадарка стала стратнай. Дзякуючы парадкам і тэхналогіям Бжастоўскага, праўда, маёнтак яшчэ праіснаваў да пачатку XX стагоддзя, але ўрэшце быў ліквідаваны за даўгі.

Так скончылася гісторыя фізіякратызму на нашых землях, амаль што дацягнуўшы да часу новых эканамічных тэорый, у якіх ідэі натуральнай выгады і маральнасці былі «зашытыя» ў саму сутнасць эканомікі.

### Ці гэта наша?

Павал Бжастоўскі заснаваў сваю рэспубліку ў вёсцы Мерач, якая цяпер размяшчаецца на тэрыторыі Літвы. І таму для фармалістаў, якія абмяжоўваюць гісторыю нашай нацыі межамі, гэта ўжо літоўская гісторыя. А Штабін Караля Бжастоўскага знаходзіцца на польскім цяпер баку, таму гэта, маўляў, гісторыя польская. Хоць у тыя часы цяперашніх межаў не існавала.

А заснавалі б Бжастоўскія свае гаспадаркі ў межах сучаснай Беларусі — мы мелі б цэлы параграф у школьных падручніках пра паноў-рэфарматараў, значна ранейшых (і моцна эфектыўнейшых) за рэфарматара Аляксандра II. І пісаць гэты артыкул не было б неабходнасці.

Але ўсё ж думаецца, што нам ужо час глядзець на Беларусь і яе спадчыну шырэй. ◆

пошта і водгукі

## Дзякуй за Карашава

Паважаная рэдакцыя «Нашай гісторыі». Дзякуй вам за артыкул «Карашава» ў новым выпуску (№ 9/2021). Тая адрына, фота якой вы паставілі на сваёй старонцы, належала маёй бабе Серафіме Бараноўскай. На жаль, яе ўжо няма з намі. Каля той адрыны стаіць старая хатка 1937 года пабудовы, у якой вырас мой бацька і яго брат. Жылося ім пасля вайны цяжка. Іх бацька рана памёр. Увесь цяжар па гадаванні дзетак лёг на плечы маёй бабулі. Я, як быў падлеткам, з братам часта гулялі ў той адрыне. Там мы складвалі сена для каровы і мой бацька захоўваў свой матацыкл «Урал». Дзядзька распавядаў, што падчас калектывізацыі тую адрыну забралі пад патрэбы калгаса. Але потым, калі пабудавалі ферму, вярнулі ў нашу ўласную гаспадарку. Як я заўважыў, то гэта не першы артыкул у вашым часопісе пра нашы Асошнікі. Так, менавіта так мы іх усё жыццё і называем. А Карашава — гэта толькі афіцыйная назва, і ніхто так іх не называе.

**Сяргей Бараноўскі**

## Час светлы павінен быць

Як выйшаў часопіс (№ 9/2021), то адразу прачытала артыкул Андрэя Скурко пра ягоных продкаў і вярнулася ў Пількаўшчыну дзяцінства: яшчэ ўсе жывыя, дзед мой Мацейка, баба Аўдося, якая сябравала з усімі, але найбольш з Домкай (маці Танка). Памятаю сцежку ад нашай дарожкі да Капейкаў каля сажалкі (няма ніводнай пасля меліярацыі, сцежкі таксама няма). І Валя яшчэ маладая, а яны з мамай аднагодкі, ды і Стэпка і мая баба яшчэ моцныя вясковыя жанчыны. Усё ўскалыхнулася ўнутры.

Андрэю вялікі дзякуй і абдымаю. Я памятаю многае з размоў старэйшых, калі былі і багацейшыя, бо дзень і ноч працавалі, і басякі. Наогул, я вельмі ўдзячная і дзіўлюся, што ён памятае аповеды бабулі адной і другой. Што значыць памяць маладая. Божачка, закончы хутчэй бяду. Час светлы павінен быць.

**Зінаіда Нікіфаровіч, Мінск, родам з Новікаў непадалёк ад Пількаўшчыны**




**«Гэта не пастаноўка, усмешак не прасіла спецыяльна. Такая вось рэакцыя на «Калыханку» Бураўкіна.** Песня на многія пакаленні. Цяжка цяпер са снамі, але жадаю вам на ноч такога ж спакою і ўтульнасці, як у нашай калыханцы. І піяру часопіс, вельмі раю», — падзялілася **Юлія Чаргінец.**

# Нажніцы святога Фабіяна


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**У горад Стоўбцы зноў вяртаецца святы Фабіян Малішоўскі. Пры жыцці яму давялося шмат падарожнічаць — нашмат болей, чым мы маглі б чакаць ад дамініканскага манаха XVII стагоддзя. Але і пасля смерці прыгоды не спыніліся. Піша Сяргей Грунтоў.**

У ранішнім цягніку на Стоўбцы пуста і душна. З мінулага вечара ён едзе з Масквы. Большасць пасажыраў выйшла ў Менску, засталіся толькі раскіданыя па паліцах скруткі матрацаў, пах чалавечых целаў і паветра, якім дыхалі цэлую ноч.

Кароткая дарога мінае незаўважна ў кастрычніцкіх туманах, якія, напэўна, упадабалі б кантрабандысты з часоў, калі тут праходзіла польска-савецкая мяжа. У 20–30-я гады мінулага стагоддзя Стоўбцы былі памежнай станцыяй з польскага боку — пра гэта і цяпер нагадваюць вялікі чыгуначны вакзал і забудова ўздоўж чыгункі. Але ні імклівае развіццё ў міжваенны час, ні паваенны лёс савецкага райцэнтра не здолелі схаваць стагоддзі местачковай гісторыі Стоўбцаў. Ад вакзала да гістарычнага цэнтра цягнецца вуліца пераважна аднапавярховай забудовы, якая сонная і нібы выпала з часу. Па дарозе можна ўбачыць драўляны мадэрнісцкі кінатэатр савецкіх часоў — ці не адзіны такі ў Беларусі і хіба самы цікавы будынак горада.

Пасярод плошчы, адваяванай некалі ў наднёманскіх сенажацяў, на вялікім пастаменце стаіць маленькі Ленін. Пастамент сюды прыцягнулі ад помніка вайне 1812 года яшчэ часоў Расійскай імперыі з суседняга Новага Свержаня. Рэшту той ранейшай даты ўсё яшчэ можна пабачыць на яго тыльным баку.

Пафарбаваны ў чорны колер Ленін служыць зручным арыенцірам для кожнага, каму прыйдзе ў галаву пашукаць месца, дзе раней стаяў дамініканскі касцёл. Правай рукою ён паказвае ў бок кінатэатра, міні-рынку і таго занятага школьным стадыёнам пляца за ім, дзе ў 1644 годзе ў крыпце новазбудаванага касцёла быў пахаваны Фабіян Малішоўскі.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Драўляны мадэрнісцкі кінатэатр савецкіх часоў** — ці не адзіны такі ў Беларусі і хіба самы цікавы будынак Стоўбцаў.

### Зусім не канец

На карце ягоных вандровак былі Перамышль, дзе ён нарадзіўся, Львоў, дзе прыняў манаскі пострыг, многія кляштары ў Галіцыі, дзе яму даводзілася быць прыёрам ці проста наведваць іх па справах ордэна, Рым, Мілан і Лісабон, куды ён ездзіў на генеральныя капітулы дамініканцаў. Былі нават татарскія землі, куды ён паехаў вызваляць свайго захопленага настаўніка і нейкі час прабыў там замест яго ў закладніках.

Прыблізна з 1622 па 1629 год Фабіян Малішоўскі пражыў у Стоўбцах, дзе Служкі, уладальнікі мястэчка, незадоўга да таго ўфундавалі дамініканскі кляштар. Пасля быў кар'ерны рост у царкоўнай іерархіі, аж да пасады кіраўніка дамініканскага ордэна ва ўсёй новаўтворанай Рускай правінцыі (ад Львова да Смаленска). Але пасля разнастайных скандалаў, якія не давалі яму спакою ў апошнія гады,

у 1643 годзе, зусім ужо слабы здароўем, Малішоўскі першы раз вярнуўся ў Стоўбцы, каб тут памерці ўсяго праз дзевяць месяцаў. Але, як аказалася, гэта быў зусім не канец, а толькі пачатак.

## Касцёл і яго служка

Бліжэй да паўдня я п’ю падвойны эспрэса ў маленькай пякарні ў новым раёне Стоўбцаў, дзе чакаю прызначанага часу сустрэчы з ксяндзом Ігарам Лашуком. Пасля таго, як Нёман канчаткова страціў сваё гандлёвае і транспартнае значэнне, цэнтр гарадскога жыцця перамясціўся на ўсход, бліжэй да мінскай шашы. Цэнтральную плошчу з крамамі і кірмашамі замяніў супермаркет, а побач з ім размясціўся і новы парафіяльны касцёл. Сёння набажэнства вядзецца ў капліцы, а касцёл актыўна будуецца: не так даўно яго накрылі дахам, а над вежай падняўся шпіль.

Будынак касцёла доўгія гады быў мясцовым даўгабудам, пакуль сюды не перавялі новага пробашча, які мае рэпутацыю «ксяндза-будаўніка». Перад тым ён грунтоўна перабудаваў сучасны касцёл у Рушчыцавым Багданаве (гл. пра гэтае мястэчка і яго гаспадара артыкулы Алеся Белага і Надзеі Вусавай у № 11/2020 «Нашай гісторыі»),ператварыўшы сумную будыніну з газасілікатнай цэглы, узведзеную ў пачатку 90-х, у прыгожы неабарочны храм. У новай парафіі ксёндз Ігар кіруе адразу дзвюма будаўнічымі брыгадамі. Адна рамантуе храм у Новым Свержані, другая дабудоўвае парафіяльны касцёл. Пакуль ідуць працы, набажэнства адбываецца ў капліцы побач, тут жа на другім паверсе месціцца і кабінет ксяндза.

Ксёндз Ігар, і без таго добра вядомы ў Беларусі, у апошнія дні стаў аўтарам сапраўднай сенсацыі, абвясціўшы пра тое, што адшукаў парэшткі Фабіяна Малішоўскага. Косткі забраў для экспертызы Следчы камітэт, а ўсё знойдзенае разам з імі, ад фрагментаў труны да пячных дзверцаў, акуратна раскладзена на белых палотнах у капліцы каля касцёла.

Ксёндз поўны энтузіязму, і яго можна зразумець: не кожны дзень ва ўласнай парафіі знаходзіш парэшткі святога. Праўда, святы гэты неафіцыйны, мясцовашанаваны, але ўсё ж. А ў новым касцёле ўжо красуецца вітраж з выявая Малішоўскага.

## Манаская пакора без грому нябёсаў

Першая актыўная спроба заняцца кананізацыяй айца Фабіяна была зроблена ў сярэдзіне XVIII стагоддзя.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Касцёл у Новым Свержані.**

Да гэтага моманту ў Стоўбцах і ваколіцах ужо існаваў ягоны культ, а гісторыя дамініканскага прыёра паспела абрасці легендамі. Расказвалі, напрыклад, што ў 1644 годзе ён памёр у адзіноце, бо ягоныя браты вымушаныя былі пакінуць кляштар перад ваеннай пагрозай. Калі яны вярнуліся, то знайшлі цела Фабіяна ляжачым на катафалку ў атачэнні запаленых свечак, з чаго зрабілі выснову, што пакладзены ён быў туды анёламі.


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Ігар Лашук мае рэпутацыю «ксяндза-будаўніка». Перад тым ён збудаваў касцёл у мінскай Серабранцы і грунтоўна перабудаваў сучасны касцёл у Рушчыцавым Багданаве. **На фота: ксёндз-будаўнік расказвае пра свае знаходкі.**

Першым месцам яго пахавання стала крыпта* пад левай двухпавярховай закрыстыяй** касцёла, вядомай як «фабіянаўка». Такую назву яна атрымала, бо, па легендзе, тут пражыў рэшту свайго жыцця айцец Фабіян.

4 жніўня 1740 года ягоная труна была паднятая наверх, каб перанесці яе ў больш прэстыжную правую крыпту пад правай закрыстыяй, дзе спачывалі фундатары кляштара Служкі. Пры гэтым труна была адкрытая для агляду цела, якое аказалася не толькі нераскладзеным, але і захоўвала гнуткасць у суставах, так, нібы нябожчык памёр нядаўна. Такі стан парэшткаў традыцыйна лічыўся адным з доказаў святасці памерлага, а да таго ж пацвярджаў іншую легенду. Паводле яе, калі ў 1655 годзе маскоўскія войскі рабавалі Стоўбцы, чарга дайшла і да дамініканскага кляштара. Сталі апаганьваць крыпту, выкідваць з трунаў памерлых — і тое ж зрабілі з Фабіянам Малішоўскім. А ён падняўся на ногі і лёг назад у труну, ад чаго рабаўнікі ў жаху разбегліся. Такі вось узор праўдзівай манаскай пакоры, без грому нябёсаў і караў.

## Стоўбцы і Свержань

Плёнам першых ініцыятыў па кананізацыі айца Фабіяна стаў пачатак вядзення «Кнігі жыцця і цудаў айца Фабіяна Перамышлянскага» (названай



АРХІЎ БІСКУПСКАЙ КУРЫІ Ў ДРАГІЧЫНЕ

**Гравюра з выявай святога Фабіяна**, унізе бачны выгляд касцёла ў Стоўбцах у XVIII стагоддзі.

так па месцы яго нараджэння), якая сабрала большасць вядомых нам да сёння фактаў пра ягонае жыццё, а таксама фіксавала ўсе новыя зробленыя ім цуды. Вядзенне, а часам і выданне такіх кніг было папулярнай справай у Рэчы Паспалітай у XVII–XVIII стагоддзях. Яны зацвярджалі і спрыялі пашырэнню культу асоб, якіх лічылі святымі, а таксама шанаваных цудатворных ікон. У гэтай логіцы была распачата і кніга цудаў святога Фабіяна, хоць да выдання ў той час не дайшло. Цяпер яна захоўваецца ў архіве ў Драгічыне-над-Бугам і рыхтуецца да публікацыі ў наступным годзе.

Паміж такімі лакальнымі культамі часам існавала і канкурэнцыя з-за іх блізкага суседства. Мястэчка Новы Свержань заўжды было натуральным канкурэнтам Стоўбцаў — апошнія нават узніклі ў XVI стагоддзі як альтэрнатыўная свержанскай прыстань на Нёмане. Уладальнікі Стоўбцаў Служкі разлічвалі, што частка суднаў будзе прыставаць да іхняга, а не да супрацьлеглага радзівілаўскага берага ракі. У XVIII стагоддзі ў Свержані існаваў базыльянскі кляштар, а ў яго царкве — цудатворны абраз Маці Божай Свержанскай, са сваёю кнігай цудаў, якая была апублікаваная. Таму вернікі з блізкіх і далёкіх ваколіц мелі выбар, калі не дапамагала адно, звярнуцца да другога, а ў выпадку пільнай патрэбы можна яшчэ было выправіцца ў пілігрымку да цудатворных абразоў у Нясвіжы, Навагрудку ці Жыровічах.

Даўняя канкурэнцыя паміж Стоўбцамі і Новым Свержанем сёння знікла: першыя сталі райцэнтрам, другі — далёкім занёманскім прадмесцем пры іх. Кляштара тут больш няма, ікона Маці Божай Свержанскай страчана (хоць, хто ведае, з духу старой канкурэнцыі ці не знойдзецца заўтра і яна), на старую мураваную царкву, дзе яна захоўвалася, паставілі вялікія пазалочаныя цыбуліны. Тут жа стаіць пабудаваны яшчэ Мікалаем Радзівілам Сіроткам у XVI стагоддзі касцёл — зусім пусты ўнутры, а праз дарогу ад яго плябанія*** ксяндза Ігара. За грыбным супам («Апенькі растуць проста пад домам!» — хваліцца ён) мы працягваем абмяркоўваць пасмяротны лёс айца Фабіяна, вакольныя капліцы, складаны мінулы год і тое, «калі ўсё гэта скончыцца». Ксёндз Ігар расказвае, што тут у мясцовага пробашча некалі сустракаліся Якуб Колас з Янкам Купалам, што пробашч любіў кілішак, Купала,

* **Крыпта** (ад старагрэчаскага *крυптή* — крыты падземны ход, тайнік) — адно ці некалькі падземных скляпеністых памяшканняў, размешчаных пад алтарнай і харальнай часткамі храма. Служыць для пахавання і выстаўлення для ўшанавання мошчаў святых і пакутнікаў.

** **Закрыстыя** (лацінскае *sacristia*, ад *sacrum* — святыя рэчы) — спецыяльная прыбудова пры храме, у якой захоўваюцца розныя прадметы культу. Праваслаўныя называюць такое памяшканне рызніцай.

*** **Плябанія** (ад сярэднелацінскага *plebania* ад *plebs* — народ) — дом, у якім жыве каталіцкі святар.

вядома, таксама, і што ў выніку ўсе добра напіліся. «Дык і Колас любіў», — дадаю я. «Вось!» — радуецца ксёндз.

## Пахаванне па асаблівым распараджэнні

У XVIII стагоддзі справа да кананізацыі айца Фабіяна так і не дайшла: гэта было, ды і застаецца, няпростай працэдурай. У той час не атрымалася прайсці яе і ў значна больш вядомага сёння святога з пакалення айца Фабіяна, а да таго ж са значна яскравейшай біяграфіяй — святога Андрэя Баболі. А ў XIX стагоддзі ўвогуле ўсё перамянілася, Каталіцкі касцёл апынуўся пад паслядоўным уціскам царскіх улад, былі скасаваныя кляштары, а цуды сталі здарацца значна радзей.

У 1867 годзе віленскі генерал-губернатар Эдуард Баранаў выдаў асаблівае распараджэнне, якое прадпісвала неадкладна пахаваць цела Фабіяна Малішоўскага. Выходзіла яно з фармальнай зачэпкі: паколькі ён не кананізаваны, то цела яго не можа лічыцца мошчамі, а культ з'яўляецца не чым іншым, як цемрашальствам. Да таго ж усе пахаванні з гарадскіх касцёлаў даўно ўжо мусілі быць перапахаваныя ў зямлі паводле санітарных прадпісанняў.

Магчыма, віленскаму генерал-губернатару і не было б ніякай справы да парэшткаў дамініканца з XVII стагоддзя ў далёкім наднёманскім мястэчку, але пра тое паклапаціўся настаяцель праваслаўнага прыходу ў недалёкім Станькаве Пятро Трускоўскі, напісаўшы адпаведную скаргу. 13 сакавіка таго ж года, без прыцягнення ўвагі насельніцтва, парэшткі айца Фабіяна пахавалі ў зямлі.

У тым жа годзе стаўбцоўскі касцёл быў зачынены, ператвораны ў праваслаўную царкву, а цэнтр парафіі перанеслі ў Новы Свержань.

## Зноў на свет Божы

Гарады, што патанулі ў азёрах, цэрквы, што праваліліся ў пагоркі, безліч скарбаў тут і там — падземны свет заўжды запаўняў сабою ўяўленне беларусаў, і туды на 55 год сышоў Фабіян Малішоўскі. Памяць пра яго жыла ў вусных апавяданнях, у маленькіх друкаваных абразках, у імені Фабіян, якім часам называлі тут хлопчыкаў. За гэты час свет навокал змяніўся, і не раз. Пакаленне, якое зазнала паразу паўстання 1863 года, Сібір і канфіскацыю маёнткаў, цяпер, на мяжы 1910-х і 1920-х, старэчымі вачыма глядзела на тое, як паўстаюць новыя дзяржавы, як маладыя пакаленні, захопленыя хто ідэямі нацыяналізму, а хто камунізму, будуюць новы свет.

Хутка пасля ўсталявання польскай улады ў Стоўбцах з'явіліся першыя ініцыятывы па пошуку пахавання святога Фабіяна. Праблему складала тое, што не было згоды, дзе яго шукаць, а месца было вядомае толькі па чутках. Нарэшце знайшоўся адзін габрэй, які яшчэ малым хлапцом на ўласныя вочы бачыў пахаванне, зазірнуўшы ў касцельнае акно. Паводле яго, усё адбывалася пад падлогай крыпты пад капліцай святога Дамініка, той самай, дзе некалі былі пахаваныя фундатары і куды пераносілі труну святога Фабіяна. Раскопкі ў пазначаным ім месцы пачалі ў 1921 годзе, але яны не далі плёну: пракапаўшы да нейкай глыбіні, наткнуліся на вялізныя камяні і на тым спыніліся. Працягнулі работы толькі ў наступным годзе пасля няўдалых спробаў пошуку ў іншых месцах — паднялі цяжкія камяні і пад імі 1 снежня 1922-га знайшлі пахаванне святога Фабіяна.

Падвойная труна амаль струхнела, але цела захавалася параўнальна добра. Пад галавою ляжаў манаскі капюшон, на грудзях — несапсаваная стула*, а ў нагах нажніцы. Знаходку гэтага прадмета можна назваць не самай трывіяльнай для манаскага пахавання, але толькі не ў выпадку святога Фабіяна: з імі яго звязвала даўняя традыцыя. ▸

* **Сту́ла** (ад лацінскага *stola*, доўгія шаты) — частка літургічнага ўбрання рыма-каталіцкага духавенства. Гэта доўгая стужка з тканіны, якая павязваецца тым ці іншым чынам у залежнасці ад месца чалавека ў царкоўнай іерархіі.



**Касцёл у Стоўбцах, 1930-я.** Вежы так і не паднялі да ранейшай вышыні.

POLONA.PL

### Лекі на каўтун

Некалі аднаму дамініканскаму манаху ў Стоўбцах прысніўся святы Фабіян. Ён сказаў, што хацеў бы, каб яму справілі новую расу. Зранку манах расказаў пра гэты сон настаяцелю, вестка пра яго неяк разышлася ў пераказах — і па выніках з Падкаменскага кляштара ва Украіне, дзе айцец Фабіян некалі служыў, прыслалі новую расу. Труну адкрылі, святога пераапранулі, а старую расу разрэзалі і раздалі вернікам па кавалачку ў якасці рэліквій. Нажніцы, якімі гэта рабілі, паклалі ў труну, а сама працэдура стала штогадовай і зазвычай адбывалася 22 ліпеня.

**Труну адкрылі, святога пераапранулі, а старую расу разрэзалі і раздалі вернікам па кавалачку ў якасці рэліквій**

Дзякуючы гэтым нажніцам да святога Фабіяна сталі часцей звяртацца хворыя на каўтун, і калі верыць кнізе цудаў, то ён рэгулярна ім дапамагаў. Адным з важных элементаў веры ў цуды быў безумоўны давер да таго, да каго звярталіся па дапамогу. Чалавек мусіў цалкам адмовіцца ад уласнай волі, страхаў ды жаданняў і аддаць сябе пад апеку святому ці цудатворнаму абразу.

Гэтая мадэль як найлепей працавала ў выпадках з каўтуном. Справа ў тым, што абразаць хворыя на каўтун валасы было нельга, бо гэта магло прывесці да заўважнага пагаршэння здароўя. Тым не менш некаторыя людзі адважваліся на гэта, дэманструючы тым свой поўны давер святому ці абразу. Абразалі валасы звычайна самі святары ці манахі пасля адмысловай малітвы ў самім касцёле. Знікненне каўтуна пасля такой аперацыі прызнавалася цудам і запісвалася ў адпаведную кнігу.

### Прасвет ненадоўга

У 1922 годзе знаходка мошчаў непрызнанага святога сама па сабе лічылася роўнай цуду, за якім, здавалася, здзейсніцца і спраўджанне даўніх мараў пра адраджэнне Рэчы Паспалітай. Стоўбцы імкліва развіваліся за кошт мяжы, што прайшла непадалёк, касцёл, які моцна пацярпеў у часе пажару 1915 года і страціў абедзве вежы, пачалі адбудоўваць. І час забрання пад царкву, і баявыя дзеянні цудам перажрывала багатая скульптурная аздоба, з-над алтара на вернікаў па-ранейшаму глядзелі белыя анёлы. Труна са святым Фабіянам была


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Вітраж з выявай святога Фабіяна** (без німба) у новым касцёле ў Стоўбцах.

**Каўтун** (па-лацінску *plica polonica*, польская каса́) — запаленне тлушчавых залоз на галаве, якое ўзнікае ў выніку недахопу пэўных рэчываў у арганізме, нервовых расстройстваў, занядбання правілаў гігіены. Праз тое, што хворыя залозы выдзяляюць шмат тлушчу, валасы на галаве зліпаюцца, у іх збіраецца розны бруд і пыл. У выніку ўтвараецца валасяная збітая маса, падобная да лямцу. У народных вераваннях лічылася, што каўтун можа быць вынікам урокаў і калі яго зрэзаць, то можна наклікаць на сябе яшчэ большыя беды.

размешчана ў адрэстаўраванай крыпце. Склаўся камітэт па пашырэнні культу, які ставіў сваёю галоўнай мэтай ініцыяцыю будучай кананізацыі святога. У Новым Свержані знайшлася тая самая «Кніга жыцця і цудаў айца Фабіяна» з XVIII стагоддзя.

Але гэтая справа зноў забуксавала. Перашкаджалі многія фармальныя рэчы: адсутнасць дакладнай даты нараджэння Фабіяна, невядомасць ні яго сацыяльнага паходжання, ні нават імені, пад якім яго хрысцілі. Не была дакладна вядомая і дата смерці, не захаваліся прыжыццёвыя выявы — першая і адзіная вядомая нам сёння была створана толькі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ў Падкамені на Львоўшчыне, а ўжо з яе маляваліся пазнейшыя гравюры і паштоўкі. Не хапала і «яскравай» біяграфіі: фармальна Фабіян Малішоўскі быў проста ініцыятыўным адміністратарам дамініканскага ордэна ў час яго актыўнага росту ў Рэчы Паспалітай, які ціха памёр у адным з дальніх кляштараў у Беларусі. У 1938 годзе ў Рыме кананізавалі Андрэя Баболю, у той час як айцец Фабіян не дачакаўся нават пачатку працэдуры беатыфікацыі.



**План пахавання айца Фабіяна**, каля 1950 года.

АРХІЎ БІСКУПСКАЙ КУРЫІ Ў ДРАГІЧЫНЕ

Нават ягоны касцёл так і не быў цалкам адбудаваны, а вежы так і не паднялі да ранейшай вышыні.

Пасля пачалася вайна, потым прыйшла савецкая ўлада, і хутка стала зразумела, што ні айцу Фабіяну, ні каталікам няма месца ў савецкіх Стоўбцах. У 1958 годзе касцёл, хоць ён і не зазнаў істотных пашкоджанняў у час мінулай вайны, узарвалі, а парэшткі непрызнанага святога зніклі, як здавалася, назаўжды.

### Тыя самыя нажніцы

Я трымаю ў руках два выцягнутыя металічныя прадметы, якія, як здаецца, праела ржа да самай асновы. Што гэта, здагадацца вельмі цяжка, пакуль іх не скрыжуеш паміж сабою на манер распяцця. Тады раптам пазнаецца форма: гэта старыя нажніцы, тыя самыя, якімі рэзалі расу святога і абразалі каўтуны, тыя самыя, якія знайшліся ў труне ў 1922 годзе. Яны датрывалі да нашага часу, каб ясна засведчыць, што і сапраўды адкрытае пахаванне святога Фабіяна.

І раней людзі расказвалі, што нібыта парэшткі былі схаваныя каля 1950 года самімі вернікамі, каб пазбегнуць апаганьвання іх камуністычнай уладай. Але месца гэта было невядомае. Расказвалі, што нібыта некалі існаваў план, але куды ён падзеўся, таксама не ведалі. І так аж да вясны 2021 года, калі згаданы план знайшоўся ў Архіве біскупскай курыі ў Драгічыне сярод іншых папер, датычных парафіі ў Стоўбцах. На ёй была намаляваная схема касцёла: справа ад алтара «крыпта святога Фабіяна», злева — крыпта з уваходам з вуліцы, падзеленая на два адсекі. У другім адсеку быў абведзены прастакутнік з крыжам, ад яго вяла стрэлка да подпісу «Труна з парэшткамі святога Фабіяна».

**У кнізе жыцця і цудаў святога Фабіяна зафіксаваны 81 цуд. Магчыма, у нас на вачах здзяйсняецца цуд № 82**

Атрымаўшы копію плана, ксёндз Ігар адразу ўзяўся за працу і замовіў геарадарны план пляцоўкі на школьным стадыёне, дзе раней стаяў дамініканскі касцёл. Былі выяўленыя нябачныя для вачэй падмуркі і тое самае месца, што пазначана на плане. Засталося чакаць удалага моманту для пачатку пошукаў, якія трэба было ўзгадніць з мясцовай уладай. Раскопкі пачаліся ўдзень 6 кастрычніка і да вечара на тым самым месцы, што пазначана на плане, сапраўды знайшлася струхнелая драўляная труна з рэшткамі металічных элементаў, якімі яна была абабітая. У ёй чалавечыя косці і тыя самыя нажніцы, якія я трымаю ў руках.

### Цуд №82

«За добрую справу трэба пацярпець», — кажа ксёндз Ігар пра тую крытыку і абвінавачванні, якія ён чуе ў апошнія дні ад тых, хто лічыць, што займацца раскопкамі мусілі археолагі, робячы іх па ўсіх правілах. Здаецца, усё гэта яго мала клапоціць, і яго можна зразумець: для таго, каб адшукаць парэшткі святога, можна пайсці і на невялікія парушэнні. «І асабліва ў час, калі не да законаў», — жартуе ён.

Месца раскопак у Стоўбцах агароджана металічным плотам. Ксёндз марыць дамагчыся таго, каб стадыён пасунулі ўбок, а тут яму дазволілі расчысціць і адкрыць для наведвання турыстамі скляпенні касцёла. Капліцу святога Дамініка, тую самую, дзе ў XVIII стагоддзі знаходзілася труна айца Фабіяна, ён хоча аднавіць, вярнуўшы пахаванне на належнае месца. Гэты план падаецца ўтопіяй. Але калі святы Фабіян у чарговы раз здолеў вярнуцца з замагільнага свету на свет Божы, што ўжо само па сабе неймаверна, то чаму б не здзейсніцца і гэтым планам?

У кнізе жыцця і цудаў святога Фабіяна, якая вялася з 1743-га па 1754 год, зафіксаваны 81 цуд. Хто ведае, магчыма, незаўважна і пакрысе, што ў характары гэтага святога, перад намі здзяйсняецца цуд №82. ◆



**Людміла Дучыц з сястрой** ва Уборках. 1957 год.

# Уборкі. І Дучыцы, іх жыхары

**Невялікая кватэра Людмілы Дучыц у цэнтры Мінска поўніцца памяткамі пра эпоху. Яна спадчынніца вялікай сям'і з колішняга прадмесця сталіцы — Уборкаў. На вялікім, адмыслова рассунутым пасярэдзіне стале — сшыткі з запісамі ўспамінаў, альбомы з фотаздымкамі. А яшчэ — дзіцячыя кніжкі 1920-х з малюнкамі і збор абгортак пасляваенных прысмакаў (усе назвы — па-беларуску). Разглядала і размаўляла Вольга Бабкова.**

Тапонім Уборкі ніяк не пазначаны на сучаснай карце горада. Межамі колішняга прадмесця засталіся сучасныя вуліцы Талстога (раней Малагеоргіеўская), Маскоўская (Новазахараўская) і Магілёўская. Цяпер тут чыгунка і Універсітэт культуры.

Уборкамі гэтая мясціна звалася з XIX стагоддзя: за ёй раслі Немаршанскі гай і Францішканскі бор. Ад яго не засталося і следу, толькі згадка спадарыні Людмілы, што менавіта так тлумачыў назву мінскі мастак Гаўрыла Віер: у бары — Уборкі. На захад пачыналіся Грушаўка і Добрыя Мыслі, на поўнач — Пляшчанка, на ўсход — Ляхаўка, на паўднёвы ўсход — Серабранка, на поўдзень — Сенажаны.

Тут жылі людзі розных нацыянальнасцяў: латышы, немцы, трошкі яўрэяў. Траяноўскія, Пашкоўскія, Масюкі, Клімовічы, Гуптар, Жабуртовічы, Дземідовічы, Паўловічы, Біжэнкі, Станішэўскія — прозвішчы суседзяў, якія засталіся ва

ўспамінах бабулі Яўгеніі Беразоўскай і яе сястры Ніны.

На вуліцы Багадзельнай жыў Міінькоўскі, настаўнік іўрыту. А на Вакзальнай — кітаец, майстар па вырабе цацак на ялінку. Ягоныя цацкі былі шмат у каго з насельнікаў Уборак. У сям'і Людмілы Дучыц адзін такі навагодні выраб захоўваўся амаль да 1980-х: з пап'е-машэ, гафрыраваны, а ўсярэдзіну можна было нават устаўляць свечку. Запомнілася тая калядная цацка дзівоснай гульнёй колераў.

Тут жа, на Малагеоргіеўскай, жыла сям'я рэвалюцыянера Іосіфа Скуратовіча, які адзначыўся падчас рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. З ягонай дачкой Аленай ажаніўся малодшы брат сясцёр Беразоўскіх, Аляксандр Беразоўскі. Ва Уборках пасля апошняй вайны часта бачылі пляменніка Янкі Купалы, мастака Янку Раманоўскага: Леакадзія Луцэвіч назвала сына ў гонар знакамітага брата.

## Беларуская хатка

Малая Людміла Дучыц у 1960-я гады штодня шыбавала ў школу міма дома Савы Рэдзькі, вядомага як Беларуская хатка. У гэтым доме ў 1915–1918 гады жыў Змітрок Бядуля. Тут да ад'езду ў Ялту наймаў пакой Максім Багдановіч, бывалі паэтка і грамадская дзеячка Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас), акцёр і рэжысёр Усевалад Фальскі, драматург і рэжысёр Уладзіслаў Галубок. Значна пазней тут ладзіліся беларускія батлейкі і першыя адкрытыя лекцыі Беларускага калегіума.
У 1980-я дом перанеслі з ранейшага месца на Рабкораўскі завулак, ён стаў філіялам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

## Часовае — самае доўгатэрміновае

Сям'я бабулі Яўгеніі Канстанцінаўны Беразоўскай апынулася ў Мінску, ва Уборках, у 1919 годзе, вяртаючыся з эвакуацыі. Шляхі іх бежанства — асобная сямейная гісторыя. Бацька Яўгеніі, прадзед Людмілы Дучыц Канстанцін Канстанцінавіч Беразоўскі, быў тытулярным саветнікам, інспектарам тэлефоннай сувязі Брэста, а з 1914 па 1918 год — тэлеграфістам на Заходнім фронце. Сама Яўгенія Канстанцінаўна паспела ў бежанстве, у Маскве, скончыць гімназію і марыла паступаць ва ўніверсітэт на гістарычна-філалагічны факультэт, у 18 гадоў — у 1918-м годзе. Але бацька пастанавіў вяртацца на радзіму. Праз Асіповічы і Слуцк сям'я нарэшце трапіла ў Мінск, дзе наняла кватэру на вуліцы Багадзельнай (цяпер Камсамольская). Планавалі вярнуцца ў родны Брэст ці Гродна, але фронт іх адсек.


**Гімназічны каўнерык** Ніны Беразоўскай, 1919 год.


**Скрыжаванне Талстога і Вакзальнай.** Малюнак Мікалая Дучыца. 1965 год.


**Ганна Беразоўская (Лонская) з дачкой Нінай**, каля 1918 года.

Пры польскай уладзе ў 1919–1920 гадах прадзед пачаў працаваць на тэлеграфе пры чыгунцы. Адзін чыгуначнік, з'язджаючы ў Польшчу, параіў сям'і перабрацца на Малагеоргіеўскую ва Уборках. Там стаяў добры дом, яшчэ ў 1898 годзе пабудаваны немцам Тыдманам. Пасля немец прадаў яго братам Баравікам, а сам перабраўся за пераезд, у Козырава (у памяць пра старую назву адна з мінскіх вуліц у тых мясцінах і цяпер завецца Козыраўскай).

У дамку на Малагеоргіеўскай было дзве кватэры: тыповая забудова для Беларусі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Сям'я наняла трохпакаёўку. Правялі тэлефон: бацька ж тэлеграфіст.

Беразоўскія мелі магчымасць з'ехаць у Польшчу, але засталіся ў Мінску: чакалі старэйшага сына, што вучыўся ў Смаленску. ▶

▶ А пазней даведаліся, што дом у Брэсце згарэў — і Уборкі сталі сталым месцам для жыцця сям'і.

### Гулянні ў Аляксандраўскім скверы

Палякі занялі Мінск 8 жніўня 1919 года і кантралявалі горад да 11 ліпеня 1920 года. Дзень вызвалення Мінска ад палякаў — 11 ліпеня — да 1941 года лічыўся дзяржаўным святам Савецкай Беларусі.

Стрыечная бабуля Людмілы Дучыц, Ніна Беразоўская, 1903 года нараджэння, пры палякаах вучылася ў рускай гімназіі разам са Стэфаніяй Станютай, адно што толькі ў розных класах: Станюта была на два гады маладзейшая. Гісторыю ў гімназіі выкладаў вядомы гісторык і археолаг Аляксандр Аляксандравіч Сцепуржынскі, геаметрыю і алгебру — латыш Іван Міхайлавіч Прыз, нейкая пані Габрыэля выкладала польскую мову. Вывучалі таксама нямецкую і французскую мовы. Спеваў і фізкультуры ў гімназіі не было.



**Канстанцін Канстанцінавіч Беразоўскі,** 1934 год.

Гімназія месцілася непадалёк ад цяперашняга Дома ўрада, у доме Віленчыка (насупраць былога кінатэатра «Перамога») на вуліцы Праабражэнскай, якая пры палякаах стала Зборавай (на ёй стаяў колішні пратэстанцкі збор, гэта з яго зрабілі кінатэатр), а цяпер завецца Інтэрнацыянальнай. Некаторыя гімназісткі здымалі кватэры на Малагеоргіеўскай: хоць і не так блізка, але, напрыклад, з хутара Белая Дача на Курасоўшчыне ездзіць было зусім далёка. Адной з сяброўак Ніны Беразоўскай у гімназіі была татарка з Татарскіх агародаў — Марофа Тугеева. Яе сям'я

### Мінская гарачыня

Ва Уборках некалі жыла і сям'я Уладзіслава Галубка, першага народнага артыста Беларусі. Яго бацька, Іосіф Голуб, быў чыгуначнікам, у сям'і было шасцёра дзяцей. Яшчэ і цяпер у Вікіпедыі можна прачытаць, што бацьку Галубка нібыта забіў невядомы — магчыма, за рэвалюцыйную дзейнасць. Аднак нядаўна гісторык Уладзімір Дзянісаў Дзянісаў пазнаёміў нас з дакументам з Нацыянальнага гістарычнага архіва, які раскрывае таямніцу той трагедыі.

Забойства адбылося 7 кастрычніка 1896 года. Месца здарэння — урочышча Уборкі, дом Адуцкевіча. Забіты — слесар Восіп Фамін Голуб, 35 гадоў. Забойца — мінскі мешчанін Мікалай Падносаў, 45 гадоў. Паліцэйскі прыстаў 4-га ўчастка Мінска (куды ўваходзілі Уборкі) — Канстанцін Цітко. У якасці сведак былі запрошаныя жыхары Уборак: шляхцянка Юлія Нікалаеўна Чачот, барысаўская мяшчанка Алена Вікенцьеўна Барысевіч, Соф'я і Генрых Габрыяловічы, мяшчанка Яўгенія Залатарова, сялянка вёскі Мархачэўшчына Свержанскай воласці Мінскага павета Сафія Крыта, мяшчанка Аліна Уладзіславаўна Голуб, жонка ахвяры, і нехта Камінскі.

Двор Адуцкевіча ва Уборках знаходзіўся на рагу Марыінскай вуліцы і Ракіцкага завулка: Падносавы займалі кватэру з выхадам на завулак, Голубы — з брамай па вуліцы. Паводле словаў жонкі Голуба, Аліны, яны з Падносавымі былі знаёмыя восем гадоў і нават хрысцілі іх дзяцей.

Нагодай для забойства стала банальнае падазрэнне ў здрадзе з-за чутак, якія віравалі ў ваколіцах. Кажуць, яшчэ напярэдадні здарэння Падносаў прыгаворваў: «Ну, погоди, Голубок, тебе спакостил душу немного, а теперь спакощу совсем, а на службу мне наплевать». Побач з Голубам у той трагічны вечар быў яго сябар з Верхняй Ляхаўкі Фёдар Аўгустынаў Нэйман: а 10-й вечара яны зайшлі ў карчму Лейбы Кухана, дзе выпілі гарэлкі.

У судовай справе фігураваў таксама рэвальвер, набыты ў лаўцы на рагу Губернатарскай і Саборнай плошчы, кандуктар Чачот, разбіты казённы ліхтар, з якім па вечаровай вуліцы ішла жонка Падносава (з ліхтара можна было прыкурыць), аканіцы, з якіх суседзі выцягнулі просву, каб паглядзець на здарэнне ў двары. Згадваліся таксама лазня, дамы Пагоцкага і Мядзведзева, у адным з якіх жыў памочнік машыніста Лібава-Роменскай чыгункі Цімафей Мермен.

Восіп Голуб быў застрэлены на сваім падворку перад ганкам, непадалёк ад градаў з капустай. Апрануты быў у засалены шэры нанкавы пінжак, штаны, дзве кашулі і боты. У кішэнях пінжака знайшлі два ключы, дзве пустыя пушачкі ад папярос, салдацкі гузік, чатыры рабочыя маркі і «порт-табак»* з пап'е-машэ, а яшчэ — камок чырвонай воўны.

* Партабак = партсігар.

прыехала ў Мінск з-пад Казані незадоўга да прыходу палякаў.

Родная бабуля, Яўгенія Беразоўская, працавала на тэлеграфе пры таварнай станцыі: польскую мову яна вывучыла ад маці-полькі, што была родам з Ломжы. Маладой дзяўчыне з часоў польскай акупацыі запомніліся вечаровыя гулянні ў Аляксандраўскім скверы і тое, што ў крамах імгненна з'явілася ўсё.

Але пры сыходзе з горада польскія войскі чынілі гвалт: рабавалі магазіны, рабілі падпалы. У кнізе Сяргея Абламейкі «Невядомы Менск. Гісторыя знікнення» ёсць згадка мастака Яўгена Ціхановіча: «Вярнуўшыся ў Мінск, нам давялося адчуць і холад, і голад. Сям'я вялікая, а бацька надоўга прыкаваны да ложка жорсткім рэўматызмам. Горад акупаваны белапалякамі, гарэў паўсюдна». Зрэшты, на пажары ў Мінску падчас польскай акупацыі 1919–1920 гадоў наракаюць многія. І асабліва моцна пацярпелі ад іх прываказальныя прадмесці.

**Пры сыходзе з Мінска польскія войскі рабавалі магазіны, падпальвалі**

### 30 хвілін для беларускай мовы

Пры саветах Яўгенія Беразоўская працягвала працаваць на тэлеграфе пры чыгунцы, там і пазнаёмілася з Мікалаем Дучыцам. У Мінск

**Мікалай Дучыц** (1896–1980) мастак і графік, ураджэнец Любчы на Наваградчыне. Да Першай сусветнай вайны скончыў Наваградскую гарадскую вучэльню, у 1914–1915 гадах вучыўся ў Рысавальнай школе Імператарскага таварыства заахвочвання мастацтваў у Петраградзе. Пасля Першай сусветнай вайны жыў у Мінску, стаў адным з найлепшых беларускіх мастакоў, у канцы 1930-х быў нават сакратаром Саюза савецкіх мастакоў БССР. Працаваў пераважна ў жанры пейзажу, пісаў таксама нацюрморты. Найбольш вядомыя творы — «Зіма», «Рэчка Волма», «Ля млына», «Лясная казка» і інш.

ён патрапіў выпадкова. Быў мабілізаваны ў царскую армію ў 1916 годзе, пасля ў Чырвоную. Удзельнічаў у паходзе на Варшаву ў 1920-м. У 1921-м дэмабілізаваўся, але не любіў згадваць ранейшае армейскае жыццё, марыў як найхутчэй апынуцца на роднай Наваградчыне.

Яго сям'я ўжо вярнулася з бежанства (з Яраслаўля), але сын не мог далучыцца да яе, бо цяпер родныя мясціны былі пад Польшчай. Давялося зняць у Мінску пакойчык, уладкавацца працаваць на чыгунку. Так ён атрымаў пасаду начальніка канторы 5-га ўчастка службы сувязі Лібава-Роменскай чыгункі. А маладзенькая Яўгенія Беразоўская была тут сакратаркай.

Тагачасны Мінск зацягнуў маладых людзей у свой вір. Афішы тэатра і кіно, мастацкія выставы, адкрыццё ўніверсітэта, куды Яўгенія з Мікалаем хадзілі на лекцыі па гісторыі і мастацтве, пікнікі ў Драздах на выхадныя. Вакол дзеда Людмілы Дучыц




**Мікалай Дучыц**, пачатак 1920-х гадоў.

заўсёды было кола мастакоў, людзей творчых. Сярод іх бабуля памятала Сымона Рак-Міхайлоўскага (гл. пра яго артыкул Аляксандра Пашкевіча ў № 7/2021 «Нашай гісторыі»). Натхняльныя часы!

Вяселле Яўгеніі і Мікалая, сакратаркі і начальніка, адбылося ў студзені 1924 года. Вы здзівіцеся, але яны вянчаліся: у мінскай чыгуначнай царкве (Казанскай), што знаходзілася на рагу вуліц Савецкай і Новамаскоўскай каля вакзала. Адмовіліся толькі ад традыцыйнай паездкі па горадзе, якую звычайна ладзілі маладыя з гасцямі пасля вянчання: на санях узімку або на калясцы ўлетку.

Жылі спачатку ў пакойчыку, які здымаў Мікалай на таварнай станцыі, а ў 1925-м прыгледзелі домік на Вакзальнай вуліцы ва Уборках. Той домік быў пабудаваны ў 1913 годзе і стаяў пасярод саду. У 1927 годзе ў сям'і нарадзіўся сын Уладзімір, ►

будучы бацька Людмілы Дучыц. У тым доме яны пражылі ўсё сваё жыццё да 1983-га.

У 1921 годзе Яўгенія і Ніна страцілі сваю бабулю — Кацярыну Антонаўну Лонскую з роду Вішнеўскіх, што была родам з Познані. Яе пахавалі на Кальварыйскіх могілках, якія ў тыя часы здаваліся о божа якой далёкай ад Мінска мясцінай. Нябожчыцу доўга везлі праз горад да месца апошняга спачыну. Шалела завіруха, а на санях поруч з дамавінай сядзелі тры чалавекі: ксёндз, дачка Ганна і ўнучка Яўгенія.



**Карціна Мікалая Дучыца «Побач з Суражскім рынкам».** 1944 год.

## У 1920-я ў Мінску быў вялікі попыт на курсы эсперанта

У 1927-м бабуля Ніна пайшла на курсы англійскай мовы, хоць марыла пра французскую, але вольных месцаў ужо не было. Дарэчы, бацька дзяўчат Канстанцін добра размаўляў па-французску. Таксама ў тыя гады ў Мінску вялікім попытам карысталіся курсы эсперанта*. Гарадскія ўстановы працавалі ад 8.30 да 16.00, і трыццаць хвілін штодня былі адведзеныя на абавязковыя заняткі беларускай мовай.

У мінскіх успамінах бабуляў спадарыні Людмілы захаваліся яўрэйскія могілкі на месцы будучага ўніверсітэцкага дворыка, непадалёк ад чыгункі, Камерны тэатр на рагу вуліц Новамаскоўскай і Яўрэйскай, Сад сувязістаў у раёне сённяшняй вуліцы Гарадскі Вал: з арэлямі, мішэнямі для стральбы, з кінатэатрам пад адкрытым небам, летняй бібліятэкай... Уваход у агароджаны сад быў платным.

Бабуля Яўгенія згадвала мастака Міхаіла Станюту, бацьку Стэфаніі, што часта шпацыраваў па праспекце. Таксама сталага веку француджанку, былую гувернантку, якая прыходзіла ва Уборкі і размаўляла па-французску з Канстанцінам Беразоўскім. Пасля француджанка знікла.

Замежнікі тады знікалі без следу: адных арыштоўвалі, другія, кінуўшы ўсё, уцякалі. У 1930-я ў адным пакоі з Нінай працавала латышка. Добрыя людзі яе папярэдзілі, што ўначы па яе могуць прыйсці. А назаўтра сям'я знікла, і да сёння няясна куды.

### Занадта смачна

У 1933-м выклікалі ў НКВД і Канстанціна — пасля адзначэння ягонага 60-годдзя. У той дзень за сталом сабраліся сябры і калегі. Стол быў выдатным, бо жонка Ганна — вядомая майстрыха рабіць з нічога шыкоўныя стравы. Госці хвалілі гаспадароў, а на раніцу — выклік у органы і пытанне: «Чаму быў такі багаты стол?».

Сям'я Беразоўскіх лічылася сярэднім класам, але каб выжываць, даводзілася здаваць упрыгожанні ў Таргсін, дзе прымаўся выключна метал без уліку каштоўных камянёў.

Людзі рабіліся ўсё больш ізаляванымі, страх распавесці «лішняе» доўга жыў нават

* **Эсперанта** — адмыслова створаная ўніверсальная мова для міжнародных зносін. Яе перавага ў тым, што яна простая і не звязана з ніводнай нацыяй. На сёння мовай эсперанта валодаюць некалькі соцень чалавек. У Беларусі эсперантыстамі былі пісьменнік Янка Маўр і паэт Сяргей Новік-Пяюн, цяпер гэтай мовай выдатна валодае ўнук Кузьмы Чорнага Мікола Раманоўскі.

між сямейнікамі. Страх быў паўсюль. Аднойчы Мікалая Дучыца схапілі падчас малявання з натуры піянераў, што збіралі каласкі. Што ўжо можа быць больш бяскрыўдным і сацрэалістычным, аднак жа ледзьве адвёў вочы ад палатна — пабачыў вакол кола піянераў, якія шчыльна атачылі яго, пакуль важатая пабегла па міліцыю. Злавілі шпіёна... Іншым разам ягоны краявід з касцёлам набыў — на выставе — польскі консул, і гэта таксама сталася вялікай праблемай для мастака.

Унук Канстанціна Беразоўскага, Уладзімір, у 1930-я хадзіў у школу праз вакзальны пешаходны мост і штодня бачыў сотні вагонаў з дэпартаванымі людзьмі. І маляваў: грузавыя цягнікі, кукурузнікі, грузавікі, салдаты... А прыходзіў у школу, што месцілася ў былой прыватнай жаночай гімназіі Рэйман на вуліцы Кірава, — і першы ўрок амаль заўсёды пачынаўся з інфармацыі пра тое, хто з бацькоў чарговага вучня — «вораг народа».

### Дабраліся

Пасля першага ж выкліку ў органы Канстанцін Беразоўскі — знаўца моваў, навучэнец варшаўскай установы — у графе «паходжанне» стаў пісаць «з рабочых». Аднак гэта не ўратавала. 10 жніўня 1938 года прадзеда забралі. Найверагодней, месца яго гвалтоўнай смерці — Курапаты.

Пра гэтае месца ведаў увесь Мінск. Бабулі распавядалі, што ноччу клаліся спаць апранутымі, а каля дзвярэй стаяў чамадан. Кожную ноч нехта знікаў. Пазней стала вядома імя чалавека, які агаварыў Канстанціна: ягоны намеснік па працы. На адкрытым партсходзе Беразоўскаму было пастаўлена ў віну, што дарэвалюцыйную адукацыю называў лепшай за савецкую. Маўляў, цяпер за гэта яго трэба судзіць. Прысутныя на сходзе гучна абураліся і абаранялі свайго начальніка...

А ўвечары на Талстога адбыўсяператрус. Беразоўскага затрымалі як польскага шпіёна, бо нарадзіўся ў мястэчку Азёры пад Гроднам, а бацька быў валасным пісарам... Дачка Яўгенія пасівела за адну ноч. Іхні бацька — вораг? У тую ноч жонка Канстанціна, ▶



**Малюнкі дзевяцігадовага Уладзіміра Дучыца.** 1937 год.




Пасляператрусу жонка Канстанціна Беразоўскага спаліла ўсе дарэвалюцыйныя фоты. Гэтае Людміла Дучыц выпадкова ўбачыла на выставе. **Канстанцін Беразоўскі — у другім шэрагу першы злева.**

### Таргсін

Усесаюзнае аб'яднанне па гандлі з іншаземцамі. Было створана ў 1930 годзе, каб прадаваць каштоўнасці замежнікам, аднак хутка крамы аб'яднання сталі месцам, куды савецкія грамадзяне маглі здаць вырабы з каштоўных металаў і набыць за атрыманыя «таварныя ордары» ежу — па завышаных цэнах. Такім чынам дзяржава ўрэшце скупіла 95% усіх каштоўнасцяў, назапашаных грамадзянамі.

▶ Ганна Лонская, дачка былога начальніка пошты ў мястэчку Індура пад Гроднам, знішчыла ўсе дарэвалюцыйныя фоты з выявамі людзей у форме паштовых служачых, якія сведчылі пра шляхецкае паходжанне.

## Калі затрымалі бацьку, дачка Яўгенія пасівела за адну ноч. А жонка спаліла ўсе дарэвалюцыйныя фоты

### На санях з Любчы

Муж Яўгеніі, Мікалай Дучыц, вельмі сумаваў па сваіх родных з Навагрsucceed радчыны, але сустрэцца ім давялося толькі ў 1942 годзе, калі ягоны бацька прыехаў на санях з Любчы праз Налібоцкую пушчу на мінскі Суражскі кірмаш. Справа ў тым, што, нягледзячы на аб'яднанне ў 1939 годзе Заходняй і Усходняй Беларусі, мяжа паміж імі насамрэч нікуды не знікла. Саветы праз яе нікога, апроч вайскоўцаў і людзей з адмысловымі дакументамі, не пускалі. Толькі ў 1946 годзе Мікалай Дучыц пабачыў родны дом, дзе не быў трыццаць два гады.

Суражскі кірмаш, на якім адбылася сустрэча бацькі з сынам, ладзіўся на вуліцы Фабрыцыуса ва Уборках і быў самым бурлівым гандлёвым месцам у горадзе. Старэйшыя мінчукі памятаюць яго ці хоць бы ягоны назоў, а Людміла Дучыц яшчэ хадзіла на той рынак, калі была школьніцай.

Пра першыя дні вайны ў Мінску напісана шмат успамінаў і апублікаваны шэраг дакументаў. Але кожная новая згадка, жывая дэталь тых дзён, запісаная са словаў сведкаў падзей, застаецца важнай.



Хлопчык у пілотцы — **Уладзімір Дучыц.**



На кірмаш было прынята хадзіць **са сваёй лыжкай.**

Мікалай Дучыц акурат вярнуўся з палескай камандзіроўкі ў дом ва Уборках — значна раней за належнае. Яму было неспакойна, хоць усё нібыта было як заўжды. Ён прыехаў дадому ранкам 22 чэрвеня 1941 года — а ўжо а 12-й па радыё абвясцілі пра пачатак вайны.

Паводле ўспамінаў Яўгеніі і Ніны, карэнныя мінчукі напачатку не баяліся немцаў, бо памяталі 1918 год, калі тыя былі нармальнымі. Страх прыйшоў пазней. А пакуль людзі пачалі скупаць у крамах усё запар, а пасля бамбаванняў, калі ў горадзе запанавала безуладдзе, пачалося марадзёрства. На Вакзальнай вуліцы рабавалі склады. Каля цыстэрнаў з патакай і смятанай стаялі людзі з вёдрамі і бітонамі. У цісканіне і сварках на вачах бабулі загінулі людзі.

Бабулі згадвалі, што ў першыя дні вайны проста ў суседніх дварах ставілі сталы, поўныя далікатэсаў, было мора шампанскага. Людзі аб'ядаліся нарабаваным у горадзе, у які яшчэ не прыйшлі немцы.

Хтосьці сярод пылу і руінаў запасіў ежу, а Мікалай Дучыц — кнігі. Цэлы стос кніг па гісторыі валяўся на вуліцы каля касцёла Святога Роха. Цяпер многія з іх — у фондах мінскіх музеяў.

### Папера захавалася

Бацька спадарыні Людмілы, Уладзімір Дучыц, падчас вайны быў падлеткам. Ягоныя маршруты часам выходзілі за межы родных Уборак. Аднаго разу ён нават прысутнічаў на Вайсковых могілках на развітанні з сынам Наталлі Арсенневай Яраславам, які 22 чэрвеня 1943 года загінуў ад выбуху ў тэатры.


**Абгорткі пасляваенных слодычаў** з архіва сям'і Дучыцаў.

У іншы дзень у кампаніі роднага дзядзькі Уладзіміра Беразоўскага ён хадзіў ля былога будынка НКВД. Перад вайной тут нельга было нават спыняцца: «Проходите!» — загадваў вайсковец са стрэльбай, што вартаваў гэты ўчастак дарогі.

## Даносчык, які ў 1938-м загубіў прадзеда Людмілы Дучыц, у 1944-м сышоў з Мінска з немцамі

Цяпер жа ніжнія вокны будынка былі павыбіваныя. Людзі з вуліцы з жахам бачылі ў глыбіні камер крэслы для катаванняў. На дварэ валяліся стосы папераў, пратаколы допытаў. Адну такую паперу ветрам прыбіла да нагі: фармуляр допыту Канстанціна Беразоўскага! З таго часу сям'я ведала імя чалавека, які напісаў данос.

Папера захоўвалася ўсю вайну ў доме ва Уборках. А той даносчык, дарэчы, сышоў з горада разам з немцамі.

### Яўрэі і да іх падобныя

Нават татары, што жылі кучна каля Кальварыі, часам асцерагаліся выходзіць у цэнтр горада, каб іх не палічылі за яўрэяў. Аднак ва Уборках усю вайну правяла сям'я доктара, жонка якога была яўрэйкай. І ніхто з суседзяў не выдаў жанчыну, прытым што ў прадмесці былі раскватараваныя маладыя датчане і галандцы, салдаты вермахта.

Ніна Беразоўская працавала на пошце, прымала салдацкія пасылкі. Яе калегамі былі тутэйшая жанчына і пажылы немец. Калі ў Мінск прыехала на гастролі Лейпцыгская опера, немец запрасіў каляжанак-паштарак на той канцэрт. А пасля забойства Вільгельма Кубэ ў верасні 1943-га, калі ў горадзе пачалі хапаць жанчын у закладніцы, немец папярэдзіў і прапанаваў ісці на працу разам, каб яны змаглі ўберагчыся.

### Каму патрэбны мастакі

У 1941-м усіх мужчын ад 16 да 60 гадоў немцы сабралі ў лагеры ў Драздах. Трапіў у лагер і Мікалай Дучыц. ▶


**Бабуля Яўгенія і дзед Мікалай.**

Цэлы месяц жанчыны горада — а хто і даўжэй — штодня рыхтавалі кашы з ежай і насілі пад сцены лагера. Але паступова немцы пачалі выпускаць спецыялістаў, каб аднаўляць разбурэнні, а пасля — і дзеячаў культуры.

Давесці, што Мікалай Дучыц і яго калегі былі мастакамі, не было праблемай: у 1940-м у Маскве прайшла Дэкада беларускага мастацтва, яе шырока асвятлялі замежныя карэспандэнты. Аднак нямецкія мастацтвазнаўцы правялі сваю атэстацыю і ўсіх паставілі на ўлік з умовай штотыдзень адзначацца ў гарадской управе. За невыкананне загаду — расстрэл.

У Мінску заставалася каля трыццаці мастакоў. Тыя, што сябравалі з Дучыцам, у яго двары на Вакзальнай і збіраліся, абмяркоўвалі свае справы. Прыкладам, кожны мусіў прынесці па тры свае працы для выставаў, якія адбываліся ў фае Опернага тэатра ды ў зале Беларускага народнага дома на Кірхенштрасэ (цяпер Рэвалюцыйная). З гэтага можна было неяк жыць: на выставах немцы куплялі ў мастакоў карціны за прадукты.

## Кветкі для горада

Дом на Талстога згарэў падчас налёту савецкай авіяцыі



**Мінск.** Карціна Мікалая Дучыца. 1942 год.



**Яўгенія Дучыц**, 1955 год. Цацачных мядзведзяў рабілі самі, і Мікалай Дучыц іх таксама маляваў.



ў 1944 годзе, забраўшы разам з сабой і гаспадыню Ганну Беразоўскую (Лонскую), маці Яўгеніі і Ніны. У той дом, дзе непадалёк некалі жыў Галубок, у тым жа 1944-м трапіла бомба, яна прайшла навылёт у пограб. Цяпер на гэтым месцы — спартыўна-забаўляльны цэнтр Універсітэта культуры, а глыбока ў зямлі — жахлівыя рэшткі вайны...

Але ні Вакзальную, ні Рабкораўскую жахлівае бамбаванне не закранула. Перажыў вайну і Уладзімір Мікалаевіч Дучыц. Пасля ён скончыў біялагічны факультэт, дзе да вайны і пасля выкладаў біялогію Захар Мікалаевіч Дзянісаў, дзед гісторыка Уладзіміра Дзянісава.

Працаваць у Мінску Уладзіміру Дучыцу, як жыхару акупаваных тэрыторый, было забаронена, таму ён выкладаў у раённых школах, і заўсёды па-беларуску.

А яго дачка Людміла Дучыц пад вокнамі сваёй мінскай кватэры пасадзіла прывезеныя з лесу ландышы і лубін. Дакладна тое самае рабіў калісьці ва Уборках яе славуты дзед, захоплены беларускай прыродай і старым Мінскам. ◆

# Як генетыка і маштабнае камп'ютарнае мадэляванне раскрываюць загадкі мінулага

**У навуковым часопісе *«Communications Biology»* нядаўна апублікаваныя вынікі маштабнага камп'ютарнага мадэлявання працэсаў, якія адбываліся ў Еўропе бронзавага веку. Кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч, які яшчэ 30 гадоў таму абараніў дысертацыю на аснове даследаванняў камп'ютарнага мадэлявання, патлумачыў для нас, што новага і важнага высветлілі дзякуючы праграмным мадэлям сучасныя даследчыкі.**

Камп'ютарным мадэляваннем я ўпершыню займаўся на базе Вылічальнага цэнтра Інстытута матэматыкі Акадэміі навук БССР у канцы 1980-х гадоў. Асноўны аўтар публікацыі ў *«Communications Biology»*, Джэрэмі Рыа з факультэта антрапалогіі Жэнеўскага ўніверсітэта, правёў сваё даследаванне ў прыкладна такім жа ўзросце, як і я калісьці

**Камп'ютарнае (імітацыйнае) мадэляванне**
метадычны падыход, пры якім параметры пэўнага працэсу перадаюцца як сукупнасці пераменных у памяці камп'ютара і сувязяў паміж імі, а дынаміка працэсу неаднаразова прайграецца са змяненнем тых параметраў, роля якіх дакладна не вядомая і з'яўляецца аб'ектам вывучэння.




**Збан з культуры шнуравой керамікі, каменная сякера і два бурштынавыя дыскі.** З калекцыі Дацкага нацыянальнага музея.

(а мне на момант завяршэння было 34 гады). Але паміж намі — цэлая эпоха, таму яго праца адрозніваецца ад маіх тагачасных спроб прыкладна так, як сучасны авіялайнер ад «этажэркі» братоў Райт. Параўнанне гэтых даследаванняў дазваляе ўбачыць, што змянілася з таго часу ў мадэляванні гістарычных працэсаў, а што засталося нязменным.

### На тры парадкі эфектыўней

Перш за ўсё непараўнальна выраслі тэхнічныя магчымасці. У мае маладыя гады гатовых праграм, якія дазваляюць будаваць такія мадэлі, не было і быць не магло ў прынцыпе. Адзіным выйсцем было самастойна засвоіць нейкую мову праграмавання (я абраў «Фартран-4») і напісаць, а потым наладзіць усю праграму з нуля. На гэта і пайшла львіная доля часу, які заняло маё даследаванне. Уласна ж на выпрабаванні яго засталося вобмаль.

Кожны прагон (пры тагачаснай прадукцыйнасці мэйнфрэйма ЕС-1066 ды пры жудаснай неэфектыўнасці майго дылетанцкага праграмнага коду) займаў шмат гадзін машыннага часу. А паколькі працаваць прыходзілася ў рэжыме падзелу часу разам з дзясяткам іншых карыстальнікаў, то за адзін прыём не атрымлівалася завяршыць хаця б адно выпрабаванне. Я запускаў праграму на нейкі час, назаўтра вяртаўся, каб атрымаць вынікі і працягнуць прагон з таго месца, на якім спыніўся. І так дзень за днём. Таму працоўных прагонаў з кожнай камбінацыяй зыходных параметраў атрымалася набраць менш за дзясятак, а часам даводзілася абмяжоўвацца ўсяго адным.

Джэрэмі Рыа скарыстаўся гатовай, ужо адладжанай праграмай SPLATCHE3 (версія 2019 года). Ну і даступныя вылічальныя магутнасці адпаведныя: кожны з альтэрнатыўных сцэнарыяў праганяўся з рознымі зыходнымі параметрамі 30 тысяч разоў.

У чым абедзве праграмы падобныя: мадэлююцца размнажэнне і міграцыі ▶

**ЭВМ ЕС-1066**
была спраектавана ў СССР у 1984 годзе. Усяго было выпушчана 405 машын у Мінску і 17 у Пензе. Аднапрацэсарная версія мела вытворчую здольнасць 5,5 млн аперацый за секунду. Для параўнання: сучасныя побытавыя камп'ютары і смартфоны выконваюць мільярды аперацый за секунду.

▶ адной або некалькіх умоўных папуляцый у прасторы, разбітай на квадратныя ячэйкі (цяпер такія мадэлі прынята зваць прасторава-эксpліцытнымі). У маім даследаванні ў межах Старога Свету рассяляліся першабытныя паляўнічыя, у Рыа — судакраналіся ў межах Еўропы неалітычныя земляробы і жывёлагадоўцы з прычарнаморскіх стэпаў.

### «Мітахандрыяльная Ева» ў якасці музы

Абодва даследаванні ўзніклі пасля публікацыі прарыўных прац, якія выклікалі жаданне паэксперыментаваць з апісанымі ў іх працэсамі. Мяне калісьці натхнілі легендарная цяпер мадэль рассялення з Блізкага Усходу ранніх земляробаў падчас «неалітычнай рэвалюцыі», упершыню апублікаваная ў 1971 годзе археолагам Альбертам Амерманам (які на той момант толькі рыхтаваў сваю PhD-дысертацыю ў Інстытуце археалогіі Лонданскага ўніверсітэта) сумесна з генетыкам Луіджы Кавалі-Сфорца, а таксама артыкул пра «мітахандрыяльную Еву» Рэбекі Кан (таксама тады толькі 35-гадовай) з суаўтарамі ў часопісе «*Nature*» за студзень 1987-га. У прыватнасці, мне захацелася праверыць, як шырока і ў якія тэрміны могуць рассяліцца нашчадкі аднаго індывіда — і мая мадэль паказала не толькі магчымасць, але і непазбежнасць такой экспансіі.

У рабоце Джэрэмі Рыа зыходнымі пунктамі паслужылі не менш знакаміты артыкул палеагенетыка Вольфганга Хаака з суаўтарамі аб радыкальнай змене генафонду ў Еўропе бронзавага веку, апублікаваны ў 2015 годзе, а таксама публікацыі аб выяўленні ў тым жа бронзавым веку слядоў бактэрыі чумы менавіта ў папуляцыях, што мелі стэпавы генетычны кампанент. Рыа вырашыў праверыць гіпотэзу аб тым, што жывёлагадоўцы са стэпаў замянілі еўрапейскіх земляробаў, выкашаных эпідэміямі чумы, да якой апошнія, у адрозненне ад стэпнякоў, не мелі імунітэту. Але ў выніку ў яго выйшла нешта зусім іншае.

Важна падкрэсліць, што самі па сабе камп'ютарныя мадэлі доказам чагосьці служыць не могуць. Іх сіла праяўляецца толькі ў сітуацыях, калі прадэманстраваныя імі эфекты можна супаставіць з фактамі, даведзенымі сродкамі іншых навук. Пажадана, каб гэтыя эфекты мелі колькаснае вымярэнне, вызначаліся пэўнымі лічбамі. Калі супадзенне з рэчаіснасцю дасягаецца толькі пры некаторых з магчымых сцэнарыяў праходжання працэсу, гэта можа служыць важкім указаннем на тое, што менавіта адзін з такіх сцэнарыяў меў месца.

**«Мітахандрыяльная Ева»**
умоўнае імя жанчыны, якая жыла каля 200 000 гадоў таму. Усё сучаснае чалавецтва ўнаследавала ад яе мітахандрыяльную частку ДНК, а нашчадкі іншых жанчын з яе пакалення па жаночай лініі не дажылі да нашых дзён. У пары з гэтым паняццем існуе **«Y-храмасомны Адам»**: гэтым імем навукоўцы называюць найбольш блізкага агульнага продка ўсіх людзей па мужчынскай лініі.

У маіх мадэлях такімі кантрольнымі параметрамі былі хуткасць прасоўвання хвалі мігрантаў і размеркаванне генеалагічных ліній іх нашчадкаў, што выжылі. Першы з гэтых параметраў пры любых разумных здагадках атрымліваўся малым (парадку тысяч гадоў) у параўнанні з агульнай працягласцю палеалітычных эпох і дазваляў сцвярджаць, што рассяленне ахоплівала ўсе даступныя незаселеныя тэрыторыі ў археалагічным сэнсе практычна імгненна. Гэтая выснова адпавядала вядомым датам першага з'яўлення чалавека ў розных рэгіёнах за межамі афрыканскай прарадзімы. Час распаўсюджвання па ўжо заселенай айкумене генеалагічнай лініі, якая мае канкурэнтныя перавагі, у маёй мадэлі дакладна вызначыць не ўдалося па вышэйзгаданых тэхнічных прычынах: працэс высвятлення канкурэнтаў заставаўся незавершаны. Але экстрапаляцыя атрыманых вынікаў паказвала на агульную лічбу каля 200 тысяч гадоў, што супала з ацэнкамі ўзросту «мітахандрыяльнай Евы» (і, дадам, з ацэнкамі ўзросту «Y-храмасомнага Адама», якія з'явіліся пазней).

Што тычыцца размеркавання тых генеалагічных ліній, якія выжылі, па колькасці, то яно нядрэнна адпавядала, у прыватнасці, вядомаму на той момант размеркаванню моўных груп па колькасці моваў у іх (у працы асноўным прыкладам служыла лінгвістычная сітуацыя ў Новай Гвінеі, найменш закранутая

наступствамі еўрапейскай каланізацыі). Прыкладна на дзесяць гадоў пазней з'явіліся багатыя даныя аб памерах гаплагруп Y-храмасомы, што яшчэ дакладней адпавядалі выкарыстанаму мной канцэпту аднаспадчынных генеалагічных ліній. Характар іх размеркавання супаў з вынікамі мадэлявання, пацвердзіўшы адэкватнасць закладзеных у мадэль здагадак.

**Не розная ўстойлівасць да чумы, не жорсткая канкурэнцыя, а працяглае суіснаванне пры параўнальна нізкіх генетычных кантактах маглі забяспечыць павышэнне стэпавага кампаненту да ўзроўняў, якія на першы погляд выглядаюць як радыкальная і рэзкая змена насельніцтва**

### Выцясненне? Зусім не!

Ужытая ў мадэлі Рыа праграма SPLATCHE3 дазваляе мадэляваць дзве папуляцыі, кожная са сваімі дэмаграфічнымі параметрамі, якія ўзаемадзейнічаюць і абменьваюцца генамі. Пры гэтым генафонд у кожным пакаленні і ў любой ячэйцы ўмоўнай мадэляванай прасторы можна разлічыць і супаставіць з рэальнымі дадзенымі аб суадносінах продкавых кампанентаў, якія вызначаюцца па маркерах палеа-ДНК. У рабоце Хаака з суаўтарамі прыводзіліся такія звесткі па дзесяці магільніках бронзавага веку, і вынікі мадэлявання браліся з тых жа месцаў мадэляванай «Еўропы» на тую ж умоўную дату (вызначаную як колькасць пакаленняў ад пачатку ўзаемадзеяння дзвюх папуляцый). Мэтай было праверыць, пры якіх магчымых сцэнарыях доля «стэпавай спадчыны» ў генафондзе мадэляваных папуляцый будзе лепш за ўсё адпавядаць рэальным дадзеным.

Адлюстраванне генафонду ў знаходках палеа-ДНК аўтары мадэлявалі такім чынам: у кожным з дзесяці кантрольных пунктаў генетычныя маркеры здабываліся альбо з «жывёлагадоўчага», альбо з «землеробчага» пласта ў залежнасці ад таго, які з варыянтаў, усярэднены па 30 тысячах выпрабаванняў, атрымліваўся бліжэйшым да рэальных дадзеных. Выкарыстоўваючы гэты спосаб, аўтары змаглі нават выказаць здагадкі, з якой з дзвюх папуляцый варта суадносіць матэрыялы чатырох могільнікаў, археалагічны кантэкст якіх неадназначны.

У мадэлі разглядаліся самыя розныя сцэнарыі, па якіх адбывалася ўзаемадзеянне землеробаў, якія рассяліліся з Блізкага Усходу, з жывёлагадоўцамі, якія рассяляюцца з Прычарнамор'я: ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі і пры яе адсутнасці, пры сталай заселенасці тэрыторыі і пры яе значным змяншэнні (дзякуючы эпідэміям ці іншым неспрыяльным фактарам). Пры гэтым на кожную з дзвюх папуляцый гэтыя фактары маглі ўздзейнічаць па-рознаму: дэмаграфічны спад магла перажываць папуляцыя землеробаў, жывёлагадоўцаў, абедзве адначасова або ні адна з іх.

Рыа чакаў, што самым рэалістычным акажацца сцэнарый, пры якім чума паражае землеробаў, а жывёлагадоўцы застаюцца неўспрымальнымі да яе — за кошт імунітэту, набытага да пачатку міграцыі. Але аказалася, што найбольш блізкія да рэальнасці вынікі ў дзесяці кантрольных пунктах атрымліваюцца, калі праз значнае (каля 66%) скарачэнне колькасці праходзяць абедзве папуляцыі. Зразумела, такі спад колькасці мог быць выкліканы не толькі чумой, але і кліматычным пахаладаннем або войнамі паміж мігрантамі і аўтахтонамі, але гібель і тых, і другіх мусіла быць сіметрычнай. Цікава, што найменш рэалістычнымі аказаліся не толькі сцэнарыі, пры якіх спад ахопліваў толькі адну з дзвюх папуляцый, але і кантрольны варыянт, пры якім спаду не было зусім.

Іншыя параметры, пры якіх мадэль лепш за ўсё адпавядала кантрольным дадзеным, таксама ўяўляюць немалую цікавасць. Нерэалістычным аказаўся варыянт з жорсткай канкурэнцыяй, калі колькасць адной папуляцыі ў кожным квадраце ўплывала на колькасць іншай. Больш праўдападобна выглядае сцэнарый, пры якім яны суіснавалі ў розных нішах, размнажаючыся і мігруючы незалежна адна ад адной. Пры гэтым у папуляцыі жывёлагадоўцаў абавязкова павінен быў дзейнічаць фактар далёкіх міграцый, ▶

▸ калі ў сярэднім 2,3% жыхароў кожнага квадрата (з бакамі ў 100 км) маглі мігараваць не толькі ў суседнія квадраты, але і ў больш аддаленыя (у сярэднім на 800 км). Пры іншых параметрах жывёлагадоўцы проста не паспявалі дасягнуць кантрольных пунктаў на карце да патрэбнага часу.

Пры гэтым колькасць земляробаў і жывёлагадоўцаў у кожным мадэляваным квадраце плошчай 10 тыс. км$^2$ закладалася супастаўнай: у першых яна складала ў сярэднім 6448, у другіх — 5095 чалавек. Змена гэтага параметра, таксама як і долі насельніцтва, якое ўдзельнічае ў міграцыях, уплывалі на паводзіны мадэлі неістотна.

А вось інтэнсіўнасць абмену генамі паміж жывёлагадоўцамі і земляробамі аказалася вельмі адчувальным параметрам. Пры высокіх тэмпах абмену жывёлагадоўцы проста генетычна раствараліся сярод земляробаў ужо ў пачатку сваёй экспансіі. Рэалістычным аказаўся варыянт, калі змяшаныя нашчадкі заставаліся ў прыкладна 1% жыхароў у кожным пакаленні. Пры гэтым 60-ці пакаленняў (1500 гадоў) аказвалася дастаткова, каб ва ўсіх кантрольных пунктах доля стэпавага кампанента адпавядала той, што рэальна зафіксавана.

Такім чынам, не розная ўстойлівасць да чумы, не жорсткая канкурэнцыя, а працяглае суіснаванне пры параўнальна нізкіх генетычных кантактах (культурныя кантакты пры гэтым маглі быць любой інтэнсіўнасці) — менавіта такі сцэнарый узаемадзеяння мог забяспечыць павышэнне стэпавага кампаненту да ўзроўняў, якія на першы погляд выглядаюць як радыкальная і рэзкая змена насельніцтва.

## Усё ж мігравала не культура

Рыа з суаўтарамі падкрэсліваюць, што яны імкнуліся «ўзгадніць палеагеноміку і археалагічныя назіранні». Высновы папярэдняй публікацыі Хаака з суаўтарамі хоць і выклікалі гучны рэзананс, але былі ўспрынятыя неадназначна. З аднаго боку, яны разбурылі парадыгму аўтахтанізму, якая панавала да таго ў заходнееўрапейскай археалогіі, паводле якой

**Археалагічная культура** гістарычная агульнасць археалагічных помнікаў, што існавалі на акрэсленай тэрыторыі прыкладна ў адзін час і аднастайныя па сваёй матэрыяльнай культуры, але істотна адрозніваюцца ад аднечасовых помнікаў суседніх абласцей. Помнікі і комплексы, якія аб'ядноўваюцца ў адну археалагічную культуру, могуць адрознівацца спецыфічнымі формамі, арнаментацыяй і асобнымі ўпрыгожаннямі посуду, асаблівасцямі пахавальнага рытуалу, культавых абрадаў, домабудаўніцтва, тыпаў паселішчаў і жытла, а таксама вытворчасцю, тыпамі прылад працы, гаспадарчай дзейнасцю, этнакультурнымі сувязямі і інш.

**Культура лейкападобных кубкаў (КЗК)** — археалагічная культура неалітычных і энеалітычных плямён, якія ў 4000–2800 гадах да н. э. жылі на тэрыторыі Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы, сучаснай Польшчы, паўночна-заходняй часткі Украіны і (на познім этапе) паўднёва-заходняй часткі Беларусі. Назва ўзнікла па наяўнасці ў кераміцы кубкаў з лейкападобнай (канічнай) шыйкай.

**Культура шарападобных амфар** – археалагічная культура позненеалітычных плямён, якія ў 3200–2800 гадах да н. э. жылі ў цэнтральнай і ўсходняй Германіі, Польшчы, Чэхіі, на паўночным усходзе Румыніі, у лесастэпавай частцы Правабярэжнай Украіны, на захадзе Беларусі. Назва звязаная з характэрнай для гэтай культуры керамікай — шарападобнымі сасудамі з 2–4 ручкамі.

**Культура шнуравой керамікі (КШК)** — археалагічная культура позняга энеаліту, пашыраная ў лясной і лесастэпавай зонах Паўночнай, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў 3200—2300 гадах да н. э. Адзнака шнуравой культуры — кераміка, упрыгожаная адбіткамі шнура, якія выціскалі на мяккіх сценках глінянага посуду падчас яго вырабу.

**Культура звонападобных кубкаў** — археалагічная культура позняга неаліту — ранняга бронзавага веку Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (2800—1900 гады да н. э.). Назва апелюе да характэрнай формы керамікі.

**Ямная культура** — археалагічная культура бронзавага веку ва Усходняй Еўропе. Ахоплівала значныя тэрыторыі ад Днястра на захадзе да паўднёвага Урала на ўсходзе. Перыяд існавання — каля 3200–2300 гадоў да н. э. Характэрнай рысай ямнай культуры з'яўляецца пахаванне памерлых у прамавугольных ці авальных ямах пад курганамі — адгэтуль і назва.

**Трыпольская культура** — археалагічная культура часоў энеаліту, назва якой паходзіць ад назвы вёскі Трыполле на Кіеўшчыне. Культура дасягнула росквіту паміж 5500 і 2750 гадамі да н. э., размяшчалася паміж Карпатамі і Дняпром на тэрыторыях сучасных Украіны, Малдовы і Румыніі агульнай плошчай больш за 350 тыс. км$^2$.

змена археалагічных культур адбываецца ў асноўным дзякуючы ўзнікненню або запазычанню новых мадэляў паводзін, без значнай змены насельніцтва. Менавіта так трактавалася, у прыватнасці, змена позненеалітычных культур (лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар) культурай шнуравой керамікі (КШК), а пасля распаўсюджанне на частцы той жа тэрыторыі культуры звонападобных кубкаў (КЗК). Наяўнасць у генафондзе носьбітаў КШК і КЗК значнай долі «стэпавай спадчыны», адсутнай у папярэдніх культурах, пераканаўча паказала, што пранікненне новых мадэляў паводзін суправаджалася прыходам новага насельніцтва.

Але ў працы Хаака з суаўтарамі гэтыя вынікі былі пададзеныя як пацверджанне старой ідэі літоўскага археолага, якая працавала ў ЗША, Марыі Гімбутас аб аднаразовай масавай міграцыі ў Заходнюю Еўропу стэпавых жывёлагадоўцаў з арэалу ямнай культуры, якая прывяла не толькі да змены насельніцтва, але і да распаўсюджвання індаеўрапейскіх моў. Тым часам ідэі Гімбутас успрымаліся большасцю археолагаў скептычна не выпадкова: археалагічнымі матэрыяламі такую міграцыю з арэалу ямнай культуры ў арэал КШК пацвердзіць праблематычна.

Рыа з суаўтарамі ўдалося сканструяваць і эксперыментальна пацвердзіць сцэнарый, які можа задаволіць усіх. У яго добра ўпісваюцца ўсе назіраныя археолагамі з'явы: наяўнасць артэфактаў і рысаў паводзін, супольных для КШК і стэпавых культур (пахаванні пад курганамі, баявыя сякеры, шнуравая арнаментацыя посуду) — і ў той жа час пераемнасць іншых характэрных для КШК і КЗК рысаў (позы пахаваных, формы сасудаў і інш.) з папярэднімі земляробчымі культурамі.

Цяпер з'явілася магчымасць разглядаць гэтыя факты, зыходзячы з доўгага, на працягу ўсяго перыяду КШК, КЗК і непасрэдна наступных за імі культур, суіснавання на супольнай тэрыторыі дзвюх супастаўных па колькасці папуляцый, якія займаюць розныя гаспадарчыя і экалагічныя нішы: не замінаюць адна адной, а хутчэй супрацоўнічаюць (аж да канчатковай інтэграцыі ў адзіную археалагічную культуру), але пры ўстойлівым захаванні шлюбнай адасобленасці. Менавіта ў гэтых выніках аўтары бачаць навізну свайго даследавання.

З артыкула Рыа з суаўтарамі, праўда, незразумела, ці прадугледжвала іх мадэль магчымасць сустрэчнага распаўсюджвання «земляробчага пласта» ў стэпавыя раёны. У рэальнасці такое пранікненне, несумненна, мела месца ў кантактнай зоне паміж ямнай і трыпольскай культурамі, ва Украіне. У сувязі з гэтым каштоўны адзін з аспектаў паводзінаў мадэлі Рыа: пры ўзроўнях змяшаных шлюбаў, якія істотна перавышаюць 1%, прышлая папуляцыя хутка становіцца генетычна неадметнай з тубыльцамі, амаль не аказваючы зваротнага ўздзеяння на іх генафонд, бо на пачатковых этапах міграцыі колькасць прышлага насельніцтва параўнальна невялікая, і пры інтэнсіўным абмене генамі яно губляе продкавы кампанент хутчэй, чым перадае яго мясцовым папуляцыям. А паколькі ў наступных пакаленнях далей прасоўваецца ўжо метысаваная група, канцэнтрацыя аўтахтонных маркераў у яе генафондзе нарастае з паскарэннем.

Магчыма, менавіта гэтая акалічнасць здольная канчаткова прымірыць генетычныя і археалагічныя сведчанні, звязаўшы паходжанне КШК не з уласна ямнай культурнай супольнасцю, а з кантактнай зонай, у якой апошняя ўзаемадзейнічала з прадстаўнікамі познетрыпольскіх культурных груп і культурай шарападобных амфар. Можна меркаваць, што земляробчае насельніцтва пры міграцыі ў стэп больш інтэнсіўна змешвалася з мясцовымі жывёлагадоўцамі, паколькі вымушана было ў сілу прыродных умоў перамяшчацца ў іх гаспадарчую нішу. Менавіта нашчадкі гэтага змяшанага насельніцтва, а не першапачатковыя носьбіты ямнай культуры маглі пасля прынесці стэпавы кампанент у генафонд КШК, вяртаючыся на захад ужо па «жывёлагадоўчым пласце» і тым самым ізалюючыся. Гэтую версію прывабна было б праверыць на прасторава-экспліцытнай мадэлі.

Кожная паспяховая спроба мадэлявання пакрысе ўмацоўвае давер да гэтага метаду вывучэння мінуўшчыны. Магчыма, прыйдзе і час, калі кожную здагадку аб гістарычных працэсах, якая не выцякае непасрэдна з эмпірычнага матэрыялу, трэба будзе падмацоўваць мадэлямі, каб прадэманстраваць прынцыповую ўзнаўляльнасць такога сцэнарыя і звярнуць увагу на невідавочныя пабочныя эфекты, якія б маглі пацвердзіць або абвергнуць яго. ◆




# На поўначы Італіі турыст — назіральн на поўдні — частка

Неапалітанскі авантурызм і здзіўляе, і дорыць шчасце




ік,
гульні

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Заплюшчы вочы, хадзем. Дарогі не трэба баяцца. Скрозь чысціню роднага гета мы скрочым на звілістыя сцежкі італьянскага лета. Хутчэй. Я пакажу табе мора. Там нехта раскінуў чырвонага ветразя крылы. Ты ж у гарах, на серпанціне, дзе кожны крок лічы за пяць на раўніне. Адчуй. Прыемная стома, і вочы бачаць, як месяц купаецца ў хвалях бяскрайняе ночы. Музыка ветру, гучаць словы пяшчоты. А мы між Сарэнта — Амальфі над прорвай зрываем лімоны. Гэта Кампанія. Піша Андрэй Дзмітранок.**

### Страх на першае, любоў на другое

У Неапаль улюбляешся на другі дзень. У першы ён бянтэжыць неахайнасцю, брудам. Смеццевыя страйкі сталі ўжо гісторыяй, але назваць горад чыстым не выпадае і сёння. Ён такі занядбаны, нібы шыкоўны дубовы сервант, што пыліцца ў дзедавым доме. Абтрусіць — і па яго стануць у чаргу антыквары.

## Неапаль — нібы шыкоўны дубовы сервант, што пыліцца ў дзедавым доме

Гістарычны цэнтр Неапаля плошчай 14 км$^2$ унесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Але горад так і не стаў турыстычным ды модным. Асноўная частка падарожнікаў выкарыстоўвае Неапаль як транзітны пункт на шляху да курортаў Амальфійскага ▸



Паскакаць у ваду ўвогуле клёва. **А калі гэта проста пад старадаўнім замкам — удвая.**

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

проста мозг пераключыцца сам сабою, і Новы Горад, а менавіта гэтак перакладаецца Неапаль з грэцкай мовы, запалоніць смакам, гісторыяй і архітэктурай.

### Хаос пад наглядам Везувія

Што Неапаль незвычайнае месца — разумееш адразу. Самалёт прылятае ў аэрапорт, што знаходзіцца акурат пасярэдзіне горада. Амаль усе буйныя гарады свету ад такой практыкі даўно ўжо адмовіліся, але не Неапаль.

▸ ўзбярэжжа. Прыляцелі, селі ў таксі ці аўтобусы — і да мора. Прычына — рэпутацыя не толькі занядбанага, але яшчэ і крымінальнага горада.

За апошнія 10 гадоў турыстычная плынь у горад скарацілася амаль удвая. Тым, хто не хоча расчароўвацца, рызыкну даць параду. Не прыязджайце ў Неапаль на дзень, у такім выпадку лепш сапраўды адразу ехаць на востраў Капры. За дзень тут можна толькі спужацца. Дайце сабе час, побач з Везувіем усё летуценна і скончыцца можа імгненна. Паглядзіце інакш. Неапаль, магчыма, найлепшае месца для тых, хто прагне прыгодаў у буржуазнай ціхай Еўропе. На другі дзень пагрозы нікуды не дзенуцца,

**За адзін дзень тут можна толькі спужацца**

Трэці горад Італіі па колькасці насельніцтва Неапаль — афіцыйная сталіца рэгіёна Кампанія, па сутнасці — цэнтр

### Смеццевы крызіс

разгарнуўся ў паўднёвай Італіі ў 2007–2012 гадах. Прычынай яго стала тое, што мясцовая мафія (пра гэтую з'яву гл. артыкул Андрэя Дзмітранка ў № 6/2021 «Нашай гісторыі») трымае пад сваім неафіцыйным кантролем многія сферы эканомікі, у тым ліку і вываз смецця. У выніку ўнутраных супярэчнасцяў у мафіёзных колах у пэўны момант аказалася, што смецце проста не стала каму вывозіць. Таму многія паўднёваітальянскія гарады, а перадусім Неапаль, патанулі ў смецці, якое звальвалася проста на вуліцах. Сітуацыя выклікала востры палітычны крызіс не толькі ў рэгіёне, але і ва ўсёй Італіі. І хоць часова яго вырашыць удалося, але самі карані праблемы не ліквідаваныя да гэтай пары, таму захоўваецца рэальная пагроза рэцыдыву ў будучыні.



**Від на Везувій** з *Castel dell'Ovo* (Замка Яйка).

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА



Так выглядае **тыповы дарожны рух у Неапалі.**

усяго італьянскага поўдня. Першае ўражанне — хаос пад наглядам Везувія.

Правілы дарожнага руху не выконваюць ні кіроўцы, ні пешаходы. Калі будзеш пераходзіць дарогу па пешаходным пераходзе, цябе ніхто не прапусціць, толькі калі кінешся пад колы, то, можа, нехта спыніцца. За 5 кіламетраў у таксі мы некалькі разоў праскочылі на чырвонае святло. Фінальным акордам стаў выезд на сустрэчную паласу. Таксіст проста хацеў зрабіць нам прыемнае, спыніўшы рух насустрач.





Опера Неапаля — **тэатр Сан-Карла.**

### Музыка і мова

А яшчэ ён усю дарогу спяваў. Па легендзе, Неапаль з'явіўся ў выніку няшчаснага кахання сірэны да Адысея. Партэнопе — так звалі сірэну — не ўдалося зачараваць мараплаўца сваім спевам, і яна з гора кінулася ў мора з крутой скалы. Тут і паўстаў Неапаль. То-бок традыцыям спяваць і разбівацца столькі ж стагоддзяў, колькі самому Неапалю, а ён вядомы з VIII стагоддзя да н.э.



**Неапаль — найлепшае месца для тых, хто прагне прыгодаў у буржуазнай ціхай Еўропе**

Кажуць, Неапаль і ёсць музыка. Прыслухоўваюся. Партовыя гукі. Жанчына ўзмахам веера рассякае паветра. Хлопчык б'е аб сцяну мячом. У кавярні — цоканне фарфоравых кубачкаў. У піцэрыі гоман — не чуваць суразмоўца.

Пастфактум мяне не здзіўляе, што 80% артыстычнага свету Італіі паходзіць з Неапаля. Мясцовы оперны тэатр найстарэйшы з дзейных у свеце. Ды і як тут не заспяваць? Старажытнасць, мора, спёка, у кішэні пуста, бо ў Неапалі самае вялікае беспрацоўе. З легальнага — ісці ў футбалісты ці артысты ды спяваць пра каханне і цяжкую долю. Натуральна, што знакамітая кампазіцыя *«'O sole mio»* выконваецца на мясцовай неапалітанскай мове (напалітана) — гэта гімн прыгажосці і любові да роднай зямлі.

Мова мілагучная, але, як і неапалітанец, гаротная. Неапалітанскай карыстаюцца амаль 8 мільёнаў жыхароў Кампаніі, Апуліі, Калабрыі і Паўднёвага Лацыа. У ёй ▶



**Неапалітанская песня *«'O sole mio»*** («О, сонца маё») у выкананні трох славутых тэнараў: італьянца Лучана Павароці, іспанца Пласіда Дамінга і каталонца Хасэ Карэраса. 1994 год.

## Тры разы на год кроў святога Януарыя становіцца вадкай



**Дуома паядноўвае — і гэта сімвалічна — розныя архітэктурныя стылі**: готыку, рэнесанс, барока, неаготыку.





▸ адчуваецца моцны ўплыў старажытнагрэцкай, але мясцовым дагэтуль даводзіцца доказваць, што гэта асобная мова, а не дыялект італьянскай. Неакрэслены статус перашкаджае яе развіццю. Напалітану не ўбачыш на шыльдах і ў назвах станцый метро — там усё па-італьянску, затое на ёй размаўляе неапалітанская вуліца.

*— Гэй, Марый, перадай Джузэпэ, што тут недарэка ідзе, не зняўшы Карцье.*

Дыялект, кажаце? Але паўночныя італьянцы напалітану зусім не разумеюць. Яе не выкладаюць у школах і на ёй не выходзяць газеты? Так, але на ёй выконваюць оперу на галоўных сцэнах планеты. А таксама на ёй існуе раздзел Вікіпедыі, колькасць артыкулаў у якім набліжаецца да 15 000.



## Кніжная шафа паміж гарамі і морам

«Я ніколі не забуду ні вія Таледа, ні ўсе іншыя раёны Неапаля. На мой погляд, гэта самы прыгожы горад у свеце, ні з чым не параўнальны», — дзяліўся ўражаннямі ў XIX стагоддзі французскі пісьменнік Стэндаль.

Мы ідзём па вуліцах, як калісьці старажытныя грэкі. Артаганальная планіроўка горада не змянілася з часоў Антычнасці. На месцы былой плошчы-форума Агора ў Сярэднявеччы пабудаваны гатычны храм Сан-Паола-Маджорэ. Дзве калоны, што на фасадзе, — рэшткі антычнага храма Дыяскураў.

Ад старажытных грэкаў да рымлян — стагоддзі, а нам дастаткова пяці хвілін, каб выйсці на старажытнарымскую вія Дуома, дзе на месцы храма Апалона паўстаў кафедральны сабор Неапаля — Дуома.

Неапалітанцы — народ рэлігійны, ён быў такім і застаецца. Неапаль яшчэ называюць горадам 500 купалаў. А яшчэ неапалітанцы прымхлівыя. У Дуома захоўваюцца рэшткі крыві святога Януарыя, заступніка горада. Кроў знаходзіцца ў сасудзе ў засохлым стане, але тры разы на год здараецца цуд — і кроў становіцца вадкай. Быць бядзе, калі кроў застаецца засохлай. У выпадку з Неапалем — прачнецца Везувій.

Дуома паядноўвае — і гэта сімвалічна — розныя архітэктурныя стылі: готыку, рэнесанс, барока, неаготыку. Так і Неапаль за 2800 гадоў паспрабаваў рознае, але яго візітоўкай стала барока. ▶


DEPOSITPHOTOS.COM_BY ISOGOOD

**Нястрыманае ў колерах неапалітанскае барока** не саромелася быць багатым. Царква Джэзу Нуова.


DEPOSITPHOTOS.COM_BY EVRENKALINBACAK

Гэта неапалітанскі манастыр, калі што. **Клуатр кляштара Санта-К’яра.**


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

У Беларусі маленькія самаробныя каплічкі сустрэнеш у вёсках. У гарадах іх татальна вынішчылі ў савецкі перыяд, і пакуль яны не адрадзіліся. **Капліца ў Неапалі.**


DEPOSITPHOTOS.COM, BY MASSIMOSANTI

**Катакомбы Неапаля** — гэта горад пад горадам.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY AWP

**Санта-Марыя-дэля-Саніта** — уваход у катакомбы.

▶ Нястрыманае ў колерах неапалітанскае барока не саромелася быць багатым і перабольшыць у пафасе. Манастырскі дворык царквы Санта-К'яра, музей Кападзімонтэ, храм Сан-Грэгорыя-Армена і капэла Сан-Севера са скульптурай «Хрыстос пад плашчаніцай» — унікальныя і непаўторныя ў прыгажосці і артыстызме адзінкі барока.

Але ж галоўны архітэктурны цымус Неапаля — у яго шматузроўневасці. Уявіце гэткую кніжную шафу, якую заціснулі паміж гарамі і морам. На першай паліцы знойдзеце антычнасць і спірытызм. Гэта Неапаль падземны. Там адноўленыя антычныя вуліцы і катакомбы раннехрысціянскіх часоў. Першыя хрысціяне падвяргаліся ганенням, і толькі ў падзямеллі яны атрымалі магчымасць будаваць храмы, праводзіць царкоўныя абрады, хаваць сваіх адзінаверцаў.

Гэта горад пад горадам. Памеры толькі катакомбаў Святога Януарыя складаюць 5600 м², там каля 2000 пахавальных нішаў

У італьянскай мове ёсць слова *Napolitudine*, што азначае пачуццё меланхоліі, якое цябе накрывае, калі пакідаеш Неапаль.

і 500 аркасоліяў*. Асаблівай увагі варты склеп Біскупаў, што ў катакомбах Сан-Гаўдыёза, там захоўваюцца каштоўныя мазаікі V стагоддзя.

Не любіце скляпоў, шкілетаў, чарапоў і ўсякага падобнага містыцызму? Рушым да сонца. Падымаемся на палічку вышэй — гэта сучаснасць ва ўсёй разнастайнасці і супярэчлівасці. У Неапалі раскоша і беднасць — суседзі. Ідзеш па віа Таледа, бачыш каралеўскі палац, фешэнебельны гандлёвы пасаж («Галерэя Умбэрта»), самую прыгожую ў свеце станцыю метро (Таледа) — і тут жа трапляеш у Іспанскі квартал, куды паліцыя баіцца заходзіць.

* **Аркасолія** — аркападобная ніша для саркафагаў багатых нябожчыкаў.


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Тратарыя ў Іспанскім квартале.** Проста абед простых людзей.


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Станцыя метро Таледа** лічыцца адной з найхарашэйшых на свеце.

Гэты ўзровень на маёй прыдуманай шафе — асноўная частка Неапаля. Але ж ёсць яшчэ палічка вышэй. Раён Вамера знаходзіцца на вяршыні гары. Каб трапіць туды, трэба ехаць на фунікулёры (*funiculi funicula!*), а каб жыць — варта мець грошы.

## «Не мы такія — жыццё такое»

«Гэта вам не Афрыка, сіньёр Андрэа! Гэта Неапаль, Еўропа. Разумееце? Еўропа!» — пераходзіць на крык таксіст Сэрджа.

Даводзіць, што «Неапаль — не Афрыка», неапалітанцы вымушаныя ўвесь час. Калі футбольны клуб «Напалі» прыязджае на поўнач Італіі, турынцы з міланцамі вывешваюць банер «Вітаем вас у Італіі», і гэта зварот не да легіянераў неапалітанскага клуба, а здзек са сваіх суайчыннікаў з поўдня. У адказ неапалітанцы галосяць, што менавіта яны і ёсць сапраўдныя італьянцы, бо Італія — гэта найперш тэмперамент, а не рацыянальная стрыманасць поўначы, што не рызота, а піца — сімвал краіны. Толькі апраўдвацца ўсё адно прыходзіцца поўдню, ён, нібыта бядняк перад заможным сваяком, вымушаны ўвесь час выкручвацца і ісці на розныя хітрыкі.

Правілы і нормы, звычайныя для паўночнай Італіі, чым далей на поўдзень ад Рыма знікаюць, як у спёку марожанае. У Неапалі мы спынялі таксі непасрэдна на вуліцы, што немагчыма і нават караецца штрафам у тым жа Мілане. На поўначы Італіі турыст — назіральнік, ▶


WIKIMEDIA COMMONS, VELVET (CC BY-SA 3.0)

**Фешэнебельная «Галерэя Умберта» захавала дух канца XIX стагоддзя**, калі Італія «ўстала з кален». А названая яна была ў гонар караля, які паспрыяў разбудове ў Неапалі каналізацыі і водаправода. Патрэбу ў іх адчулі пасля жахлівай эпідэміі халеры 1884 года.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY EDELLA

**П’яца Плебішыта**, на якой стаіць каралеўскі палац.

▸ на поўдні — частка гульні, герой кінастужкі «Мільён у шлюбным кошыку», дзе сіньёр з вышэйшых колаў Леаніда Папагата ладзіць чарговую авантуру.

**Неапалітанцы лічаць сябе сапраўднымі італьянцамі, бо Італія — гэта найперш тэмперамент**

У рэстаранах табе будуць спрабаваць налічыць два разы чаявыя, а калі папросіш растлумачыць, распавядуць, што другі рахунак быў за абрус.



**Камедыя рэжысёра Усевалада Шылоўскага «Мільён у шлюбным кошыку»,** знятая ў 1985 годзе на Адэскай кінастудыі па матывах п'есы італьянскіх драматургаў Джуліа Скарнічы і Рэнца Тарабузі.

Таксіст мудрагеліста пачне дабаўляць да загадзя дамоўленай лічбы па адным еўра за кожную адзінку багажу. Яму будзе мала, і ён замахнецца накінуць яшчэ і за кожнага пасажыра ў салоне. Толькі ты ведаеш гульню і збіваеш цэны, таксіст закрычыць, што мы ў Неапалі, а гэта Еўропа, не Афрыка і тут так нельга. Дзядуля Фрэйд усміхнецца: навошта таксіст сам Афрыку ўзгадаў?

Толькі мяне пераконваць не трэба, я ведаю, што гэта Італія.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА




**Вуліца ў Іспанскім квартале.** Нехта з жыхароў развешаў плакаты з афарызмамі — па-італьянску і на неапалітанскім дыялекце. *«Chi ten a mamm' è ricche e nun 'o sap»* («У каго ёсць мама, той багаты і сам таго не ведае») — першы радок са шчымлівага верша Сальватарэ ды Джакама (*Salvatore Di Giacomo*) «Ліст маме, якой няма».



ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Модныя расфарбоўкі кляёнак** у тым сезоне.

Авантурная, гучная, палкая. Я, можа, менавіта па тое і прыехаў. Калісьці Максім Горкі адзначыў, што неапалітанскі авантурызм дае незразумелае пачуццё здзіўлення і шчасця. Яго падманваў фурман, а Горкаму — асалода.

«Не мы такія — жыццё такое». Поўдзень бедны. Сярэдні заробак у Неапалі — 1000 еўра супраць міланскіх 3000. Таму варушышся як можаш, з усмешкай на вуснах, жэстамі рук узмацняючы сэнс кожнай фразы. ◆

### Усміхацца

Неапаль, навучы мяне ўсміхацца проста так усім тым людзям, што ідуць мне насустрач. Без прычыны, нагоды, загаду — усім незнаёмым, прыгожым, добрым і злосным. Калі снег, калі дождж, калі вецер скавыча, як усміхнуцца, калі бачыш іншыя вочы? Я хачу навучыцца, мне не ўсё роўна, на тваіх вуліцах бедныя і багатыя рабілі тое аднолькава шчодра. Калі ж гэта вірус, як ім заразіцца? Навучы, я ім буду дзяліцца, эпідэмію сеяць, разбураць муры: «Так было спрадвеку, нашыя продкі хадзілі панурымі». Зранку, увечары, нанач гледзячы, усміхацца, славіцца ханжою, хітруном, тарцюфам, ваўком у авечай шкуры. Навучы, я не забуду. Твой я, заўжды сонны Везувій.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY ELVIRKIN

# Рэцэпт піцы «Маргарыта»

Наведаць Неапаль і не пакаштаваць піцу? Гэта як выйсці з мора сухім. Спецыяльна для чытачоў «Нашай гісторыі» мне раскрылі сакрэт, як прыгатаваць знакамітую піцу «Маргарыта».

Спачатку тэорыя. Першая піца «Маргарыта» была зроблена ў 1889 годзе падчас візіту каралевы Маргарыты Савойскай у Неапаль. Кухар траторыі *Brandi* Рафаэль Эспазіта разам з жонкай вырашылі каралеву здзівіць. Як сказалі б сёння, зрабілі геніяльны маркетынгавы ход. З печы выйшла піца колераў італьянскага сцяга: зялёны (базілік), белы (сыр мацарэла), чырвоны (тамат) сімвалізавалі адзінства краіны.

Піца каралеве спадабалася, а што падабаецца Яе Вялікасці — тое падабаецца ўсім. Сцвярджаюць, што каралева Маргарыта нават дазволіла выкарыстоўваць сваё імя ў назве, але, хутчэй за ўсё, гэта здарылася само сабой пасля шматлікіх: «Гэй, Рафаэль, прыгатуй мне піцу, як тады Маргарыце». Пры гэтым як звалі жонку Эспазіта, легенда не ведае, і тое самае крыўднае. Можа, у тым вынаходніцтве была менавіта яе вырашальная роля ці яна неяк натхніла мужа? Але ўся слава дасталася Рафаэлю, а яна — толькі безназоўная «жонка».

Пяройдзем да прыгатавання. Нам спатрэбяцца:

- 250 грамаў пшанічнай мукі
- 100 мілілітраў вады
- 20 грамаў дражджэй
- 2 таматы
- 200 грамаў мацарэлы
- базілік
- аліўкавы алей
- соль
- перац

1. Таматы і мацарэлу парэжце колцамі і пакладзіце на талерку адно праз адно: тамат, мацарэла, тамат і г. д.
2. Пасыпце лісцем базіліку.
3. Паліце аліўкавым алеем.
4. Дадайце соль, перац.
5. Адкрыйце бутэлечку сухога віна.
6. Пад хрумстанне свежага хлеба паспрабуйце салат, што ў вас атрымаўся.
7. Купіце квіток на самалёт у Італію, пажадана ў Неапаль.
8. Знайдзіце піцэрыю. Іх у Неапалі каля 40 000.
9. Мука і дрожджы, што засталіся, калі-небудзь спатрэбяцца.

Іншага рэцэпта няма. Сапраўдную піцу робяць у печы на дровах, дзе тэмпература дасягае 450 градусаў. Такое прыгатаванне ежы не адпавядае сучасным санітарным нормам і шмат дзе забаронена. Але толькі не ў Італіі! Прасцей забараніць Везувій, чым пазбавіць італьянцаў піцы. Ды і навошта злаваць усе гэтыя мафіі і каморы?! Ніякая іншая печ не дае такога смаку. Гэта як гатаваць шашлык у духоўцы.

Толькі і таго мала. Вырашаюць вада і самі прадукты. Прыгадайце, што азначае слова «памідор»? Гэта залаты яблык. У Кампаніі, на гэтай прасякнутай попелам вулкана глебе, растуць менавіта залатыя яблыкі ў форме таматаў. Сонца тут столькі і яно цэлы год, таму нічога смачнейшага вы не елі. А мацарэла? Яе тут робяць з малака буйваліц, і яна пяшчотнейшая за пацалунак дзіцяці.

Таму, пры ўсёй павазе, адной печы недастаткова, як і любы базілік будзе не такім, як у Кампаніі. Так, там жывуць бедна, але кухня — гэта асалода нябёсаў. І піца — толькі адна з шэрагу найсмачнейшых страў. Піца, якую робіць ваша жонка, таксама смачная? Тады зрабіце ўсё, каб імя гэтай святой жанчыны засталося ў гісторыі. *Buon appetito!*



ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

Мемарыяльная шыльда: «**Тут 100 гадоў таму нарадзілася піца “Маргарыта”».**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY SIMPLY

**«А глог цвіў над зямлёю, і гэта было сапраўды як эдэм,** у якім гучаў ціхі і пяшчотны смех, ці то зайцаў, ці, можа, самога жыцця» (Уладзімір Караткевіч «Ладдзя роспачы»).

# Глог
## *Ведзьміна кветка*

**Што супольнага ў настойкі чырвоных ягад, што прапісваюць сардэчнікам, і ў Вальпургіевай ночы, разбіраецца доктар гісторыі Алесь Белы.**

*На калючкі не крыўдуй,*
*Лепш плады іх пакаштуй.*
Алена Церашкова

Зрэшты, плады ў глогу — зусім не ягады, а маленькія яблычкі: чырвоныя, аранжавыя або жоўтыя. Яны цалкам прыдатныя для ўжывання ў ежу, але найбольш смачныя пасля прымаразкаў, якія робяць іх салодкімі.

Экстракт з пладоў або настой з кветак выкарыстоўваюць пры сасудзістых захворваннях, бо яны добра дапамагаюць стабілізацыі крывянога ціску. Але ў краінах былога СССР «настойка боярышника» выкарыстоўваецца і «нестатутным» чынам. Сурагат не самы небяспечны, бываюць і больш забойчыя. Але шкодны ён усё адно. Бо глог моцна запавольвае працу сэрца. А тым больш калі гаворка ідзе пра тавары, прызначаныя для немедыцынскіх мэтаў. Не так даўно ў расійскім Іркуцку быў выпадак масавага атручвання канцэнтратам для прыняцця ваннаў пад назвай «Боярышник», у выніку якога 76 чалавек развіталіся з жыццём.

Аднак з глогу выраблююцца не толькі сурагаты — з яго атрымліваецца і смачнае пладовае віно. Ужываюць плады і ў свежым выглядзе, але больш гатуюць кісялі, сокі — часцей у спалучэнні з сокамі кіслых ягад (чорных парэчак, журавін, барбарысу) і яблыкаў, — джэмы, варэнне, павідла, жэле, мармелады, кампоты, начынку для пірагоў. Высушаныя плады ўжываюць як сурагат кавы, а часам нават для выпечкі своеасаблівага хлеба.




**Глог** (*Crataegus*)
род кветкавых раслін сямейства ружавых. Пашыраны ў халодных абласцях паўночнага паўшар'я. Гэта невялікае дрэва або хмызняк з вельмі густой лістотай, якая расце на калючых галінах — спалучэнне, выгаднае для многіх відаў птушак, якія любяць віць на ім свае гнёзды. Глог слынны сваёй даўгавечнасцю: дрэвы жывуць па 400 гадоў. Магчыма, гэта і зрабіла вобраз расліны містычным. Увогуле ў свеце глогу існуе ажно каля 1000 відаў, але ў Беларусі дзікарослых ёсць толькі 2: глог адагнутачашалісцікавы (*Crataegus curvisepala*) і глог аднапесцікавы (*Crataegus monogyna*). Расце ў далінах рэк і катлавінах азёр, у хмызняках, мяшаных лясах і на ўзлесках. Большасць відаў — выдатныя меданосы.

У заходнееўрапейскай кулінарыі даўней жэле з глогу служыла гарнірам да мясных страў, а ў шляхецкай кулінарыі Літвы і Беларусі XIX–XX стагоддзяў былі папулярныя салодкія супы з глогу. З маладых пупышак глогу гатавалі салаты, а дзеці проста трушчылі іх увесну як першы вітамінны ласунак.

## Яблык гудаў

Лацінская назва глогу, *crataegus*, паходзіць ад грэчаскага слова *cratas* — моцны, трывалы. Маецца на ўвазе як даўгавечнасць расліны, так і надзвычайная трываласць ды шчыльнасць яе драўніны: з яе выраблялі дзяржальны да ўдарных інструментаў і розныя прадметы хатняга ўжытку.

Сёння ў Беларусі больш ужываецца руская назва расліны, «баярышнік», хоць слова «глог» — агульнаславянскае і нават праславянскае, узыходзіць да індаеўрапейскага *glogh* — востры, калоць. Гэтак, хоць і ў розных варыяцыях, называюць расліну балгары, сербы і македонцы (*глог*), харваты і славенцы (*glog*), чэхі і славакі (*hloh*), палякі (*głóg*), лужычане (*hłohonc*), украінцы (*глід*). Карацей, усе славяне, апрача рускіх. Даўней слова «глог» азначала калючку, калючае дрэва ўвогуле — дарэчы, і па-руску расліну ў простанароднай гаворцы часцей за ўсё называюць проста «калючка». Таму адным і тым жа словам маглі называць глог, шыпшыну, свідзіну і іншыя падобныя калючыя дрэвы, не надта адрозніваючы іх адно ад аднаго.

Невыпадкова Пятро Бітэль, перакладаючы міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша», не пабачыў граху, каб замяніць у перакладзе арыгінальны глог на шыпшыну:

A niżej dziatwa leśna: głóg w objęciu kalin,
Ożyna czarne usta tuląca do malin.

А нізам песціцца з шыпшыннікам каліна,
І туліць да малін свой чорны твар ажына.

У гаворках рускай мовы слова «глог», дарэчы, таксама ёсць, але ў літаратурнай значна больш распаўсюджанай стала назва «баярышнік». Бадай, ніхто цяпер уцямна і не патлумачыць, адкуль тая назва ўзялася, у тым ліку і салідныя энцыклапедычныя ды этымалагічныя слоўнікі.

Слова «глог» — праславянскае, узыходзіць да індаеўрапейскага *glogh* — востры, калоць. А вось па-літоўску глог называецца *Gudobelė*, што даслоўна азначае... «яблык гудаў», або «яблык беларусаў».

У інтэрнэце можна знайсці легенды пра паходжанне назвы, але яны відавочна познія і не вельмі пераканаўчыя. Напрыклад, прыгожыя чырвоныя ягады ўвосень нібыта нагадвалі святочнае «баярскае адзенне». Або нібыта адна гордая руская дзяўчына, *боярышня*, не паддалася некалі самому хану Батыю і закалола сябе перад кустом глогу, а чырвоныя ягады — напамін пра яе ахвярную кроў... Але сам я перакананы, што адгадку сакрэту рускай назвы глогу можна адшукаць праз яго пах, і пра гэта раскажу ніжэй.

А вось па-літоўску глог называецца *Gudobelė*, што даслоўна азначае... «яблык гудаў», або «яблык беларусаў». Праўда, некаторыя філолагі аспрэчваюць такую літаральную этымалогію ►

## Суп з глогу (з «Літоўскай кухаркі» Вінцэнты Завадскай)

Кварту* сушанага або паўтары кварты свежага спелага глогу заліць вадой і закіпяціць з мякішам дзвюх-трох булак, а пасля растаўчы і працерці праз сіта. Узяць кварту віна, разбаўленага напалову вадой, засыпаць чвэрць фунту** цукру, крыху карыцы, закіпяціць і заліць гэтым кашу з глогу.

Сушыць глог належыць так: ачысціўшы ад хвосцікаў, разрэзаць напалам, вымыць і высушыць на сетцы ў вельмі цёплай духоўцы, часта пераварочваючы. Захоўваць у слоіках у сухім месцы.

* Кварта — каля 0,35 л.
** Фунт — каля 400 г.

слова, тлумачачы, што насамрэч яно азначае «не зусім яблык».

Канчаткова атаясаміў слова «глог» з адным канкрэтным відам дрэў сілезскі прыродазнаўца і лекар эпохі Рэнесансу Ян Станка (1430–1493), які працаваў у Кракаве (тагачасныя сілезцы былі асобным народам, не тоесным палякам). Прапанаванае ім атаясамленне з цягам часу распаўсюдзілася на большасць іншых славянскіх моваў.

### Агароджы з глогу

У Кіраўску, райцэнтры Магілёўскай вобласці, які да 1934 года называўся Качэрычы, часткова захаваўся вялікі парк, закладзены ў канцы XIX стагоддзя буйным землеўладальнікам нямецкага паходжання фон Гоерам. Некалі парк па перыметры быў абсаджаны глогам. Гэта вельмі даўняя традыцыя: менавіта калючы непраходны глог быў галоўнай раслінай для фармавання жывых агароджаў паміж прыватнымі дзялянкамі зямлі, і гэта выдатна бачна ў сярэднявечнай нямецкай і англійскай гісторыі. І англійская, і нямецкая назвы (*Hawthorn* і *Hagedorn*) азначаюць «калючае дрэва для агароджаў».

Дзякуючы калючым шыпам глогу са старажытных часоў існавала павер'е, што ён здольны абараніць чалавека ад злых духаў, якія насылаюць хваробы. Таму старажытныя грэкі падвешвалі да дзвярэй галіны глогу, каб абараніць уваход усярэдзіну хаты ад усялякай пошасці. У старажытных кельтаў глог — дрэва зімы і цемры, а ў Малдове яго лічаць увасабленнем зла. Глогам часта абсаджвалі агароджы могілак, каб ускладніць мерцвякам trапляннe ў свет жывых. А таму, каго палічылі за вампіра, церне глогу ўбівалі пад язык.




**Глог у цвеце.**

### Сімвал Маці Божай

Хрысціянства ў многіх краінах, аднак, не пагадзілася з «чорным» вобразам глогу і пастаралася яго ашляхетніць. Паводле польскай народнай легенды, Маці Божая аднойчы сушыла пялюшкі немаўлятка Езуса на дрэве, якое, нягледзячы на свае вострыя калючкі, не раніла яе. У знак удзячнасці Святая Панна надзяліла дрэва прыгожымі беласнежнымі кветкамі.

Старажытная англійская легенда звязвае глог з гісторыяй з'яўлення хрысціянства ў Англіі, якое, як лічыцца, пачало распаўсюджвацца з невялікага прыморскага мястэчка Гластанберы (*Glastonbury*). Быццам бы Іосіф Арымафейскі, дзядзька Панны Марыі, высадзіўся на бераг недалёка ад мястэчка з некалькімі вучнямі і сасудамі, у якіх захоўвалася кроў Ісуса і пот, пралітыя Ім на крыжы. На высокім узгорку Тор, дзе Іосіф ударыў сваім посахам у зямлю, вырасла цудадзейнае дрэва глогу. Якое праз сваіх нашчадкаў дажыло амаль да нашых часоў




**Глог у відэаблогу Алеся Спіцына «Тутэйшы зялейнік»**



(да 1991 года) і адрознівалася ад усіх сваякоў тым, што цвіло двойчы на год: як і ўсе, у маі і дадаткова — перад Божым Нараджэннем (і гэта, дарэчы, не легенда). Галінку з кветкамі гэтага глогу раней дасылалі англійскім каралям для аздаблення вігілійнага стала.

У канцы 1932 — пачатку 1933 года Маці Божая шмат разоў з'яўлялася дзецям бельгійскага мястэчка Бораэнг каля глогу. Магчыма, сувязь глогу з Паннай Марыяй вынікае з жадання Каталіцкай царквы выцесніць з народнай свядомасці аргіястычныя асацыяцыі глогу, якія тлумачацца... біяхіміяй.

### Што патлумачыла біяхімія

Беларуская культура, здаецца, на пах глогу не звяртае асаблівай увагі, як і ўвогуле на яго квітненне. І таму нават крыху дзіўна, чаму на гэта звярнуў увагу Уладзімір Караткевіч у «Ладдзі роспачы». Магчыма, ён недзе чытаў, як шмат значэння надаецца гэтаму квітненню ў некаторых іншых культурах. У прыватнасці, у англійскім фальклоры менавіта глог мае трывалыя асацыяцыі з першамайскімі ўрачыстасцямі. Не, не з днём міжнароднай салідарнасці працоўных, але з тым зыходным значэннем свята, якое моцна асуджалася Царквой, бо ўзыходзіла да таемнага збору ведзьмаў на «лысых горах», які некалі адбываўся па ўсёй паганскай Еўропе (Вальпургіева ноч). Хоць злыя языкі кажуць, што і дату для пралетарскага

свята выбралі, маўляў, не выпадкова, а менавіта каб дапячы хрысціянству і атрымаць дадатковую моц ад доўгавалосых працаўніц на мётлах. Цяпер глог цвіце прыкладна ў сярэдзіне мая, але да ўвядзення грыгарыянскага календара (у Англіі гэта здарылася толькі ў 1752 годзе) гэта адбывалася акурат на пачатку месяца.

Дык вось, вянкі і гірлянды з прыгожых кветак глогу адыгрывалі важнае месца ў тых паганскіх урачыстасцях — часам, як кажуць, і аргіястычных, прысвечаных старажытнаму кельцкаму боству Бельтан. А само дрэва лічылася свяшчэнным. Яго катэгарычна забаранялася не толькі секчы, але нават і паліць у печы ўжо апалыя галінкі. Ды і ўносіць усе тыя вянкі і гірлянды ў дом вельмі не рэкамендавалася. Лічылася, што хтосьці ў сям'і тады абавязкова памрэ...

У XVII стагоддзі ў Англіі казалі, што глог пахне як... Вялікая Лонданская чума! Маючы на ўвазе апошнюю ўспышку сярэднявечнай пандэміі бубоннай чумы, якая ў 1665–1666 гады забрала жыцці ў не менш як 100 000 чалавек. Трупаў у Лондане тады было так шмат, што іх не паспявалі хаваць, і ў самім горадзе ды паблізу яго стаяў саладкавата-гніласны задушлівы пах, ноткі якога людзі пазнавалі ў паху глогу. І яны не памыляліся. Сапраўды, у паху кветак глогу дамінуе нота хімічнага рэчыва, якое называецца трыметыламін — $N(CH_3)_3$. Яно выдзяляецца, у прыватнасці, пры гніенні трупаў або мяса ўвогуле. Магчыма, яно ж адчуваецца ў спецыфічным паху некаторых мясных далікатэсаў або сартоў сыру, якія прынята называць «пікантнымі».

Пры нізкай канцэнтрацыі трыметыламін мае «селядцовы», пры высокай — аміячны пах. Глог эвалюцыйна «навучыўся» выдзяляць гэта рэчыва пры цвіценні, каб прываблiваць для апылення не толькі пчолаў, але і насякомых, якія спажываюць гнілое мяса. Вось чаму і лічылася, што ўнесеныя ў дом кветкі глогу варожаць нечую смерць: даўней целы нябожчыкаў заставаліся ў доме некалькі дзён, і спецыфічны пах за гэты час рабіўся вельмі адчувальным. Так пах глогу стаў атаясамлівацца са смерцю. Але не толькі.

Адна з англійскіх народных назваў глогу — *Lady's Meat*, літаральна — «жаночае мяса». Туркі і французы таксама лічаць, што пах квітнеючага глогу нагадвае пах... з інтымных месцаў жанчыны. Таму кветкі глогу ў гэтых культурах маюць выразна эратычныя асацыяцыі. Можа быць, менавіта гэты пах так тонка адчуваў сляпы герой Аль Пачына ў вядомым галівудскім фільме «Пах жанчыны»?

Біяхімікі пацвярджаюць інтуітыўную здагадку англійскага, турэцкага і французскага фальклору: інтымны жаночы сакрэт сапраўды ўтрымлівае


MOZAWEB.COM

**Трыметыламін** выдзяляецца пры гніенні трупаў або мяса ўвогуле.




## Пах з нотамі глогу

Парфумеры навучыліся ашляхетніваць «цынічны» пах глогу іншымі складнікамі. У кампазіцыях ён іграе мядова-даўкімі нюансамі, напаўняючы водары незвычайнай глыбінёй. Самыя вядомыя водары з нотамі глогу: *Dior «Fahrenheit», Kenzo «Flower by Kenzo», Lolita Lempicka «Si Lolita Eau de Toilette», Sonia Rykiel «Rykiel Rose», DSQUARED² «She Wood Crystal Creek Wood».*

Рускамоўны трэйлер **фільма «Пах жанчыны»**



трыметыламін, які і вызначае яго спецыфічны пах. Магчыма, менавіта біяхіміяй тлумачацца некаторыя эпізоды з культурнай гісторыі глогу: напрыклад, у Старажытнай Грэцыі галінкамі гэтай расліны аздаблялі галовы маладых на вяселлі, і глог жа, паводле легенды, вырас на магіле славутых каханкаў Трыстана і Ізольды (Трышчана і Іжоты ў старабеларускім перакладзе).

І тады, хутчэй за ўсё, руская назва расліны — баярышнік — таксама народжана пахам: кветка, якая прывабна пахне дзяўчынай або маладой жанчынай. І ўжо вырашайце самі, ці такое тлумачэнне больш прыземленае, ці, наадварот, больш рамантычнае, чым відавочна прыдуманая гісторыя з Батыем. А калі вам спатрэбіцца ёмістая метафара, сімвал дыялектычнай еднасці смерці і кахання, дзвюх сутнасцяў, двух бакоў старажытнага жаночага боства, дык, бадай, не знойдзеце нічога больш яскравага за глог. Або, калі вы мысліце зусім навукова-рацыянальна, за трыметыламін. ◆

**Гандлёвы цэнтр «Трыніці»** адкрыўся ў Гродне ў сакавіку 2021 года. Ён модны сваім фудкортам, коўзанкай і кінатэатрам. Фота Аляксандра Саенкі.

# Прыдуманы горад

## Несентыментальная гісторыя Гродна ў XX стагоддзі

**Пра незвычайнае даследаванне беларускага горада нямецкім гісторыкам піша Алесь Кіркевіч.**

*«Беларускую меншасць можа асіміляваць толькі магутная плынь польскай культуры. Але ў гэтым кірунку дагэтуль мала што ці ўвогуле нічога не зроблена. Рана ці позна беларуская меншасць будзе асіміляваная... Для таго, каб паскорыць гэты працэс і пазбегчы пры гэтым неспадзяванак, мы павінны заваяваць беларускую вёску ў культурным плане...»*

Гэтыя радкі належаць апошняму беластоцкаму ваяводу ў часы міжваеннай Польшчы Генрыку Асташэўскаму. Чыноўнік пісаў таемны рапарт у палітычны дэпартамент польскага Міністэрства ўнутраных спраў пад пафаснай назвай «Узмацненне польскіх пазіцыяў». На ста дзесяці старонках Асташэўскі аналізаваў насельніцтва ваяводства, куды ўваходзіў і горад Гродна, у плане перспектыў яго паланізацыі.

Фактычна дакумент быў праграмай «канчатковага вырашэння беларускага пытання». Не ў сэнсе фізічнага знішчэння, а ў плане асіміляцыі. Яго аўтар піша, што беларускае насельніцтва складае ў некаторых усходніх паветах ваяводства 40%, што «стварае спецыфічныя ўмовы і перашкоды для экспансіі польскага элемента».

Дакумент уражвае не столькі прамалінейнасцю і радыкалізмам, колькі датай напісання. Асташэўскі падаў свой рапарт... у студзені 1939 года. Як бачым, чыноўнік быў абсалютна ўпэўнены ў магутнасці і ўстойлівасці дзяржавы, якая крыху больш чым праз паўгода перастане існаваць. А пройдзе яшчэ некалькі гадоў, і некаторыя этнічныя групы гэтага краю — як, напрыклад, яўрэі, якія нярэдка складалі да 60% насельніцтва гарадоў і мястэчак ваяводства, — будуць увогуле фізічна знішчаныя. Ранейшы свет назаўсёды перастане існаваць.

Кейс з рапартам польскага чыноўніка прыводзіць на пачатку сваёй кнігі «Гісторыя Гародні 1919–1991» нямецкі гісторык Фелікс Акерман. Даследчык бачыць тут пэўны сімвалізм: кожная чарговая ўлада, якая прыходзіла ў Гродна, бачыла сябе вечнай і непахіснай. Кожны раз чыноўнікі накшталт Асташэўскага перапісвалі гісторыю горада, спрабавалі стварыць новыя сэнсы, змяніць этнічны і культурны парадак. Часам гэта атрымлівалася, часам не. Для самога ж горада і яго жыхароў падобныя эксперыменты, як правіла, былі трагічнымі.

### Панарамны фотаздымак эпохі

Дзіўна, што за грунтоўнае напісанне гісторыі горада на Нёмане ў ХХ стагоддзі ўзяўся не беларускі, польскі ці расійскі аўтар, а немец. І тут таксама ёсць сімвалізм: немцы ў мінулым стагоддзі двойчы прыходзілі ў Гродна. Але калі падчас Першай сусветнай вайны яны падаваліся мясцоваму люду носьбітамі культуры і еўрапейскасці, то ў другі раз прынеслі з сабой жах, разбурэнні і смерць... Разам з тым пра аблічча горада на пачатку ХХ стагоддзя мы можам меркаваць па вялізным масіве фотаздымкаў менавіта нямецкіх жаўнераў, акупанты выдатна задакументавалі горад той эпохі.




## Кожная ўлада лічыла сябе вечнай

Акерман у сваёй працы таксама дакументуе: безэмацыйна і несентыментальна апісвае рэаліі жыцця места, спасылаючыся на дакументы, статыстыку, успаміны сучаснікаў. Магчыма, каб аўтар быў палякам, то мы б убачылі «прызнанне ў любові» да горада 1930-х. Каб беларус — то ўсё круцілася б вакол жыцця нацыянальных арганізацый, пісьменнікаў, дзеячаў. Тут жа мы бачым сапраўдны погляд збоку. Панарамны фотаздымак эпохі на амаль 500 старонках.

### «Чырвоная дарога» з храмавай цэглы

На вокладцы кнігі змешчана фота гродзенскай Савецкай плошчы 1950-х гадоў. Велічны неараманскі будынак гарнізоннага касцёла, які на той момант быў зачынены для вернікаў і чакаў зносу. Перад ім — ▸




WIKIMEDIA COMMONS

**Від Гродна ў 1930-я.** Злева — Фара Вітаўта, яе ўзарвуць у 1961-м.

жанчына з дзіцячым вазочкам. Фота невыпадковае: прырэчаны на гібель гмах касцёла сімвалізуе стары свет, якому гісторыя не пакінула шанцаў. Вазочак з дзіцём — сімвал новага горада, які па вайне фарміраваўся з учарашніх вяскоўцаў. Яны акурат і стваралі яго аблічча.

З касцёлам, больш вядомым як Фара Вітаўта, цікавая гісторыя. Ніводзін гістарычны будынак у Гродне так часта не змяняў свайго выгляду і сэнсавага напаўнення. Яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага яго перабудоўвалі некалькі разоў. У XIX стагоддзі расійскія ўлады забралі храм у каталікоў, каб зрабіць праваслаўным саборам: дадалі вежы-цыбуліны, падагналі аздобу пад псеўдарускі стыль. У 1920-х палякі зноў перарабілі храм на касцёл: перабудавалі згодна са сваім уяўленнем пра сярэднявечную архітэктуру, досыць далёкім ад гістарычнай праўды. Урэшце, у савецкія часы храм зачынілі і ўзарвалі ў 1961 годзе. Падрабязней пра яго гісторыю гл. у артыкуле Яўгена Аснарэўскага ў № 4/2019 «Нашай гісторыі».

У дадзеным выпадку гісторыя Фары — лакмусавая паперка. Радыкальна памяняўшы некалькі абліччаў-масак, храм урэшце проста перастаў існаваць. Цяпер на ягоным месцы сквер і памятны знак з двума крыжамі — каталіцкім і праваслаўным. А ў адной з навакольных вёсак дагэтуль ёсць «чырвоная дарога»: пасля зносу Фары туды звозілі дробна патрушчаную цэглу з касцельных муроў, каб грузавікам з буракамі зручней ездзілася.

Гісторыя са знішчаным храмам падаецца сумнай, але гэта ўсяго толькі метафара да лёсаў людзей, якія жылі ў горадзе. Акерман не фіксуецца на архітэктуры, яго кніга — пра жыхароў. Будынкі не займаюць у манаграфіі цэнтральнага месца. Гэта хутчэй экстэр'еры. Сцэна, на якой адбываецца трагедыя. Горад з палацамі і храмамі — нібы шклянка. Людзі — вада. Можна выліць або даліць, выпіць ці выліць вонкі.

## Горад — пустая шклянка

*«У Гародні разыходжанне ў меркаваннях было часткай жыцця, так што паветра здавалася электрычна зараджаным. Былі артадоксы і свецкія, сіяністы і інтэрнацыяналісты, ідышысты і гебраісты, камуністы і кансерватары — тузін відаў левых і яшчэ тузін адценняў сіяністаў. У габрэйскай Гародні адбываўся працэс інтэлектуальнага браджэння. Горад быў мітуслівы і раздроблены, як зваднівая сям'я — поўная канфліктаў, але ўсё ж такі сям'я».*

Такім горад застаўся ва ўспамінах Фелікса Зандмана, напісаных праз пяцьдзясят гадоў пасля знішчэння мясцовай яўрэйскай супольнасці нацыстамі. Сам Зандман выжыў цудам. Ягоныя ўспаміны, урыўкі з якіх падаюцца ў кнізе, таксама цуд. Пра Халакост увогуле напісана багата, але тут найбольш цікавымі падаюцца нібыта дробязныя нюансы.




GRODNO.IN

**Памятная шыльда ў раёне гродзенскага гета**, дзе загінула каля 30 тысяч чалавек.

Напрыклад, як у 1944-м яўрэі, якія выжылі, не мелі дзе жыць, бо іхнія колішнія кватэры занялі палякі або беларусы, упэўненыя, што папярэдніх гаспадароў ужо няма сярод жывых. Як са скандаламі новыя жыхары адмаўляліся аддаваць нават прадметы мэблі ці сямейныя рэліквіі. Як тыя, хто выжыў, імкнуліся любой цаной з'ехаць з горада, які перастаў быць родным. Больш за тое, горад пачаў асацыявацца не толькі з крывёю і смерцю, але і са здрадай колішніх сяброў, калегаў, суседзяў.




**Нямецкія вайскоўцы на Рынкавай плошчы.**

## Грамадства ва ўмовах штодзённага гвалту не салідарызуецца, а атамізуецца

Апісваючы часы вайны, Акерман робіць даволі нечаканыя высновы. Напрыклад, пра тое, што грамадства ва ўмовах штодзённага гвалту не салідарызуецца, але наадварот — атамізуецца. Людзі фіксуюцца на ўласным лёсе ці лёсе сям'і. Сяброўскія ці прыяцельскія сувязі губляюць сэнс, калі за імі не стаіць нейкая выгада: магчымасць купіць, прадаць, перахаваць нешта. У здаровай сітуацыі выгадна кантактаваць з вялікай колькасцю людзей — гэта чалавечы капітал. У вайну ж лепш абмежаваць кантакты да мінімуму: кожнае знаёмства можа мець фатальныя наступствы...

Яшчэ адзін важны ўрок — гэта нетрываласць і крохкасць гарадской супольнасці. Горад 30-х гадоў падаецца той самай «звадлівай сям'ёй», дзе каталікі сварацца з праваслаўнымі, праваслаўныя з каталікамі, тыя і другія не давяраюць яўрэям, а яны плацяць ім той жа манетай... А пасля надыходзіць верасень 1939-га — і ўвесь сусвет перакульваецца дагары нагамі. Надыходзіць чэрвень 1941-га — свет перакульваецца яшчэ раз. Пасля лета 1944-га...

Польскія чыноўнікі хацелі вырашыць беларускае пытанне, але савецкая ўлада вырашыла польскае. Немцы вырашылі яўрэйскае. Тысячы палякаў з'ехалі ў ваколіцы Гданьска ды Уроцлава ў першыя пасляваенныя гады. У выніку ад таго перадваеннага горада не засталося нічога, апроч архітэктуры — пустая шклянка. Разам з новым насельніцтвам яна паступова напаўнялася ўжо зусім іншымі сэнсамі.

Цікава, што напярэдадні ці падчас кожнай чарговай катастрофы большасць гродзенцаў шчыра верыла, што гэта нешта часовае, некрытычнае. Яўрэі не верылі, што гета — гэта толькі першы этап да вынішчэння. Шмат хто з мясцовых палякаў спадзяваўся да канца 1940-х, што ўключэнне горада ў СССР — гэта не назаўсёды, Польшча вернецца, бо як можа быць інакш? Аказалася, што можа. Нават выязджаючы, людзі мелі спадзеў на хуткае вяртанне і гадамі «сядзелі на чамаданах». Пра гэта сведчаць і хованкі з грашыма ці ўпрыгожаннямі, якія дагэтуль знаходзяць у старых дамах: кожны такі скарб — гэта паламаны лёс уласніка, які з нейкай прычыны не змог вярнуцца па нешта сваё.

### Хохмайстарштрасэ — вуліца вялікага магістра

Акерман піша пра Гродна як прыдуманы горад, які існуе ў свядомасці яго жыхароў. Польскі, яўрэйскі, нямецкі, савецкі, беларускі — у кожнай групы на працягу XX стагоддзя ▸

▶ была візія свайго горада, якая адмаўляла ўсе астатнія. Каб пераканаць сябе і іншых у правільнасці канкрэтнай візіі, кожная чарговая ўлада шукала пункты апоры, доказы сваёй легітымнасці.

Напрыклад, візія «польскага Гродна» трымалася на культе Стэфана Баторыя і Элізы Ажэшкі. У сувязі з апошняй цікава прывесці ўрывак з дзённіка за 15 верасня 1923 года пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай: «(Гродна)...вельмі прыгожа размешчаны, але жудасна забудаваны, брудны, смярдзючы, напаўразбураны, перапоўнены людзьмі. Калі я праязджаю ля драўлянага дома Ажэшкі і старых дрэваў, якія яго атачаюць, мяне перапаўняюць эмоцыі. Мяне здзіўляе, што яна хацела застацца тут да канца, што гэта яе родны горад».



**А хто там ідзе?** Гродна, вуліца Пралетарская. Фота Аляксандра Саенкі.

З «нямецкім Гроднам» усё яшчэ цікавей. У вайну горад быў уключаны ў бецырк Беласток, які адносіўся да Усходняй Прусіі. Юрыдычна гэта была частка нямецкага Райху, у адрозненне ад Мінска (цэнтра моцна абрэзанага райхскамісарыяту Беларусь), Брэста (які аднеслі да райхскамісарыяту Украіна, там хадзілі ўкраінскія карбованцы) ці Віцебска (франтавая зона). Горад было вырашана татальна германізаваць, але каб дадаць справе легітымнасці, нацысты ўзгадалі часы Тэўтонскага ордэна і... перайменавалі горад у Гартэн. Так горад называўся у крыжацкіх хроніках. У Гродне на кароткі час з'явілася нават Хохмайстэрштрасэ — вуліца Вялікага Магістра.





**Савецкае свята ў горадзе.**

Савецкай уладзе, у сваю чаргу, трэба было давесці, што Гродна не ёсць польскім горадам. Менавіта з гэтай прычыны ў другой палове 1940-х, калі палова краіны яшчэ ляжала ў руінах, сюды накіроўваюць археолага Мікалая Вароніна. Ягонай задачай было правесці раскопкі пры Каложскай царкве і на Замкавай гары, каб давесці, што горад мае старажытнарускую гісторыю. Задача была выкананая, а Каложа стала адным з сімвалаў горада, які тыражаваўся на паштоўках, вымпелах ды значках.

Як ні дзіўна, менавіта савецкі перыяд, супярэчлівы і фатальны, напрыклад, для перадваеннай

польскай супольнасці, паспрыяў стварэнню «беларускай Горадні». У часы Першай сусветнай ці ў 1930-я беларусы ў горадзе былі ў меншасці, не кажучы ўжо пра іх уплыў. Беларусы-сяляне прыязджалі ў выходныя дні нешта прадаць ці купіць. Лічаныя беларускія арганізацыі ці асобныя дзеячы былі кропляй у польска-яўрэйскім моры.

## Беларускае — вясковае, рускае — гарадское

Сітуацыя пустога горада пасля Другой сусветнай, у якім зніклі папярэднія этнічныя групы, але засталося шмат прыдатнага жылога фонду (горад не быў моцна разбураны, у адрозненне ад Мінска), адкрыла шлях беларусам з навакольных вёсак. Пазнейшая разбудова, з'яўленне буйных прадпрыемстваў накшталт «Азоту» і тыпавых кварталаў хрушчовак зрабіла працэс беларусізацыі Гродна незваротным.

І тут хаваецца парадокс, які моцна ўражвае Фелікса Акермана. Нягледзячы на тое, што беларусы ўпершыню ў гісторыі сталі «гаспадарамі горада», горад праз гэта не стаў беларускім. Улады пастанавілі, каб большасць школ, газет, кніг, тэатральных пастановак была па-руску. І мовай вулічнай камунікацыі таксама стала руская. Нарэшце апанаваўшы горад, учарашнія сяляне з-пад Бераставіцы ці Слоніма імкнуліся як мага хутчэй забыцца на сваё паходжанне і мову. Выціснуць з сябе ўсё беларускае. Бо беларускае — значыць, вясковае, рускае — гарадское.

Разам з тым аўтар падкрэслівае, што праявы этнічнасці — ад мовы да ўпрыгожанняў у выглядзе арнаменту — не зніклі канчаткова. Яны набылі новы сэнс — рытуальны. Напрыклад, па-беларуску выходзіла літаратурная старонка «Гродненской правды» (пэўны час у 1950-х яе вёў Васіль Быкаў), але не больш за тое.

Па версіі аўтара, беларуская мова была патрэбная ўладам з адной прычыны: яе наяўнасць надавала легітымнасці савецкай уладзе ў рэгіёне. Але пра развіццё мовы не магло быць гаворкі. Беларуская засталася недзе ў мінулым, у сусвеце вышыванкі, кроснаў і штодзённасці Коласавай «Новай зямлі». Што гаварыць, калі нават быкаўская літстаронка «Гродненской правды» друкавала па-беларуску толькі вершы. ▸



**Іншы бок горада, XXI стагоддзе.** Гродна, тралейбуснае дэпо. Фота Аляксандра Саенкі.



Як і многія шматкультурныя гарады планеты, Гродна напоўнены розным сэнсам для носьбітаў розных традыцый. **Мітынг на гродзенскім Кургане славы на 9 Мая 2017 года.** Фота Аляксандра Саенкі.

▶ Проза ішла па-руску. Свае першыя беларускамоўныя апавяданні Быкаў быў вымушаны перакладаць.

Разам з тым аўтар робіць выснову: **«Савецкі Саюз стварыў у выглядзе БССР протадзяржаву з тэрыторыяй, акрэсленай паводле пераважна этнічных прыкметаў, і са структурамі, у назве якіх была прапісаная нацыянальная прывязка. І гэтая протадзяржава пасля атрымання суверэнітэту ў 1991 годзе раптоўна зрабілася фармальна нацыянальнай дзяржавай»**.

Такім чынам, калі разважаць не сентыментальна, савецкі праект у выглядзе БССР з усіх магчымых у XX стагоддзі аказаўся адзіным, які наўпрост даваў шанец для з'яўлення беларускай Горадні. Ні царская, ні польская, ні нямецкая ўлады не дапускалі такой магчымасці. І хай паняцце «беларускі» не роўнае паняццю «беларускамоўны», але і не выключае падобнай перспектывы. Акно магчымасцяў для нацыянальнага росту, якое з'явілася на пачатку 1990-х, было даволі вузкім і хутка зачынілася, але гэта не значыць, што яно было апошнім.

Воляй лёсу беларусы вярнулі сабе горад з доўгай гісторыяй. І тут гаворка не пра тое, хто перамог, а хто не (і ці можна казаць пра нейкую перамогу ўвогуле?..). Засталося толькі напоўніць сэнсам беларускую Горадню. ◆

Кнігу Фелікса Акермана можна набыць у мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) і **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай, крама 41–42), этнакраме **«Рагна»** (вул. Сухая, 4), інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by**, **tn.by** і **knihi.by**, гродзенскай краме **«Цудоўня»** (вул. Кірава, 3). На сайце **arche.by** выданне даступнае як у папяровай, так і ў электроннай версіі.






**Баркун, Любоў. Гісторыя дзеткам** / Малюнкі В. Вікторчык. – Мінск: Тэхналогія, 2021. — 20 с.

Сшытак з заданнямі для малодшых школьнікаў. Уяві, што ты і твая сям'я жывяце ў першабытны перыяд. Як бы вы выглядалі? Расшыфруй рэбусы і даведайся імёны першых князёў. Дамалюй пояс Вітаўта і знайдзі зброю на полі Грунвальдскай бітвы. У сшытку ёсць гульня і самаробка, дзве карты, каб арыентавацца ў месцах, а таксама стужка часу з самымі значнымі гістарычнымі падзеямі. Выданне забаўляе, развівае густ, логіку, маторыку і дае базавыя веды па гісторыі і культуры Беларусі.



Набыць кнігу можна ў інтэрнэт-крамах **tn.by, knihi.by, kniger.by, kniganosha.by**, а таксама ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) .

## З чаго былі зроблены «земляныя» валы

Гісторык **Мікола Волкаў** падзяліўся фотаздымкам макета драўлянага вала XI–XII стагоддзяў з музея ў Познані. Менавіта гэтак былі сканструяваныя валы і вакол першых беларускіх гарадоў: Полацка, Менска ды іншых.

Гісторыкі кажуць, што на пабудову Менскага замчышча высеклі шмат гектараў лесу. З часам драўляныя перакрыцці згнілі, таму доўгі час лічылася, што славяне насыпалі вакол сваіх гарадоў валы з зямлі, а ўжо на іх ставілі драўляныя сцены.

У Познані музей паставілі проста над абарончым валам старога горада. Палякі навучыліся выдатна кансерваваць дрэва, таму некаторыя канструкцыі экспануюцца ў арыгінале. Тое ж, што захаваць нельга — як сцяну раскопу, прыкладам, — паказваецца з дапамогай сучасных мультымедыйных тэхналогій.

Мяркуючы па фотаздымках раскопак у Менску ці Віцебску, у нас драўляныя канструкцыі захаваліся нават лепей, аднак пакуль мы не маем такіх тэхналогій кансервацыі. Адкрытыя драўляныя элементы, як на замку ў Мсціславе, імкліва разбураюцца.





## Бортнік-ліцвін

Цікавую этнаграфічную выяву бортніка з нашага краю адшукаў пастаянны аўтар нашага часопіса **Аляксей Ластоўскі**. Яна паходзіць з фонду этнаграфічных карцінак Расійскай імперыі 1730–1740-х гадоў, што захоўваецца ў Шведскім нацыянальным музеі. У гэтым зборы прысутнічаюць выявы розных этнаграфічных тыпаў: буратаў, мары, вялікі блок прысвечаны ўкраінцам. Бортнік падпісаны як «*Lütwin*» (ліцвін).

## Мілыя «сакрэцікі» ад бабуль і дзядоў

Выкладчыца Лінгвістычнага ўніверсітэта **Аляксандра Дзмітранок**, адшукаўшы ў шафе калекцыю старых гузікаў, што засталася ад мужавага бацькі, які ў маладосці добра шыў і нават пэўны час гэтым падзарабляў, запыталася ў сябе ў Фэйсбуку:

«Ці захоўвалі вашы мамы і бабулі зрэзаныя са старой вопраткі гузікі?

Адзін з найдаражэйшых для мяне дарослых "сакрэцікаў", корпацца ў якім не забаранялася. Складвалі іх у круглую (чамусьці заўсёды круглую) пушачку.

Цяпер сама, дарослая мама, працягваю збіраць гузікі са старога адзення немаведама на які выпадак».

Пост атрымаў жывы водгук, бо аказалася, што гэтая традыцыя была ў многіх сем'ях і ў немалой колькасці фрэндаў звязаныя з ёй вельмі прыемныя ўспаміны з дзяцінства. Імгненна адрэагавала на допіс **Наталля Ламека**: «Так! І нават калі-нікалі з кавалачкам самой матэрыі... Ажно захацелася цяпер самой залезці ў гузікі і паперабіраць, пашукаць, што ёсць. Адразу такія ўспаміны з дзяцінства, напамін аб пэўнай вопратцы — шмат што ажно яшчэ з той эпохі». А **Вольга Мазурава**, адзначыўшы, што і старэйшыя сваякі гузікі збіралі, і яна сама гэта практыкуе, прыгадала яшчэ адзін цікавы нюанс гэтай справы: «Яшчэ бабуля зніТоўвала аднолькавыя гузікі, каб камплектам былі. Дык таксама гэтак раблю».

Прытым, як выявілася, традыцыя такога збіральніцтва вельмі даўняя. Пісьменніца і гісторык **Вольга Бабкова** адзначыла: «У мяне ёсць старая выцвілая металічная скрынка, поўная гузікаў, яшчэ ад прабабулі. Мой старэйшы брат у дзяцінстве гуляў у салдацікаў з гузікамі розных колераў. Я нават казку калісьці даўно напісала пра жыццё ў скрынцы, але комп зламаўся і яна знікла».

Пра гульні з гэтымі гузікамі ўвогуле згадваюць многія. **Вольга Гронская** з усмешкай успамінае: «Мне выдавалі гэтыя пушачкі з гузікамі, калі мяне трэба было заняць на нейкі час. Я высыпала іх на стол і гуляла, казкі нейкія прыдумляла: у мяне быў гузік-прынцэса, гузікі-салдаты, гузік-цмок і г. д. Адзін з любімых заняткаў у дзяцінстве». Ёй услед дзеліцца ўспамінамі і **Вальжына Шутава**: «Любімая гульня майго дзяцінства. Раскладала іх на ложку па памерах і колерах гадзінамі».

Прытым гульня гэта не толькі дзявочая, захапляла яна і хлопцаў. Брат Вольгі Бабковай зусім не выключэнне. Толькі тут гульні былі больш суровыя. Журналіст **Анатоль Шырвель**, які родам з заходнебеларускай вёскі, прыгадвае: «Мая любімая цацка ў хаце дзеда-краўца. Была вялізная ▶



▸ бляшаная банка з вечкам ад нейкага польскага печыва. Гузікаў была процьма. Я выстройваў іх на стале атрадамі і гуляў у бітву. Самы круты гузік быў з польскім арлом з дзедавай вайсковай формы».

Пра іншую форму гульні згадаў **Дзмітрый Рубін**: «Мы ў дзяцінстве ў бабулі гулялі. Найчасцей у дуэлькі, падобна да шашачнага чапаева, толькі замест шашак — гузікі, а замест дошкі — стол. І па чарзе пстрыкалі па гузіках, пакуль не застанецца адзін. Можна было ўсё адразу так выкладваць, а можна было турнірную сетку будаваць. А можна было і падобным чынам гонкі ладзіць: па краі стала, а калі зваліўся, то сышоў з трасы. Весела было. Толькі трэба было акуратна і пакуль нікога ў хаце няма».

Гісторык з Гродна **Святлана Куль** не прамінула пры нагодзе адзначыць, што такія зборы — не толькі забаўка, яны пры ўмелым выкарыстанні могуць аказаць дапамогу і даследчыкам, якія займаюцца вуснай гісторыяй: «Гэта жывая гісторыя. Мы з гэтымі кладамі працавалі. Прасілі паказаць гузікі і распытвалі, што ад чаго. Бабулі ўзгадвалі такое, што пры адсутнасці гэтай “вешкі” ніколі б не ўзгадалі. Паспрабуйце. Гэта вядомая методыка, яе ўжываюць пару дзясяткаў гадоў». Аляксандра Дзмітранок у адказ на тое прызнаецца: «І для мяне гэта такі альбом успамінаў: разбірала неяк сваю калекцыю гузікаў з дачкой — шмат чаго ўзгадалася пра некаторыя. Але не прыдумала скарыстацца такім інструментам свядома ў дачыненні да іншых».

## Ратуючы два жыцці, выратавала тысячы. Цаной свайго



Экскурсавод **Цімафей Акудовіч** піша ў сваім тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон»:

«19 жніўня было 100 гадоў з дня нараджэння амерыканкі Рут Уолер. Амерыканкі, якая загінула ў Мінску ў жніўні 1946 года.

Ужо адзін гэты радок з біяграфіі моцна павялічвае цікавасць да асобы місіс Уолер. Што магла рабіць амерыканская грамадзянка ў пасляваенным Мінску?

Прычына яе знаходжання ў нашым горадзе раскрывае адну прыхаваную старонку гісторыі БССР. Місіс Уолер была супрацоўніцай (і па сумяшчальніцтве жонкай кіраўніка місіі) міжнароднай арганізацыі UNRRA (Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення) ААН. Гэтая арганізацыя прывезла ў БССР прадуктаў, медыкаментаў, будаўнічай тэхнікі і шмат чаго яшчэ на суму каля 61 мільёна долараў. І хоць сума гэтая была адносна невялікая (асабліва параўноўваючы з тым, што атрымала, напрыклад, Украіна), але вопратка і ежа, “схаваныя” ў гэтых грашах, выратавалі шмат жыццяў у знявечанай рэспубліцы ў 1946–1947 гадах.

Рут з мужам, яшчэ 12 амерыканцамі і адным новазеландцам займаліся складаннем спісаў таго, што трэба завесці ў краіну, і кантралявалі лагістыку.

Штаб арганізацыі знаходзіўся ў Лошыцкай сядзібе ў Мінску. На самой сядзібе зараз вісіць шыльдачка з гэтай нагоды. Як будзеце гуляць, то звярніце ўвагу.

У канцы ліпеня 1946 года Рут Уолер пайшла гуляць уздоўж Свіслачы, убачыла, як у рацэ тонуць дзеці, у якіх пад нагамі развалiўся саморобны плыт. Амерыканка кінулася іх ратаваць, падаставала з вады, але сама па выніку перамерзла, захварэла і памерла праз некалькі дзён ад менінгіту.

Такая вось сумная недарэчнасць. Але гісторыя часам дзіўным чынам выкарыстоўвае такія трагічныя сітуацыі.

Смерць амерыканскай грамадзянкі стала моцным рычагом ціску на заходнія краіны з боку СССР і ААН.

На той момант найбуйнейшымі вытворцамі антыбіётыкаў у свеце былі Англія і ЗША. Аднак у СССР яны прадавалі гэты тавар па завышаных цэнах, неахвотна, ды і агулам вельмі не хацелі аддаваць свае медычныя напрацоўкі патэнцыйнаму суперніку.

Пасля смерці Рут Уолер, якая памерла, па сутнасці, ад таго, што ў Мінску не было антыбіётыкаў, сітуацыя рэзка памянялася. Ужо праз год, у 1947-м, у горадзе пачаў працаваць Мінскі пеніцылінавы завод, дзе працавалі беларускія фармацэўты, якія прайшлі стажыроўку ў Канадзе. У БССР з’явілася дастатковая колькасць антыбіётыкаў. Іх значэнне ў пасляваеннай рэспубліцы цяжка пераацаніць.

Вось так, кінуўшыся ратаваць дваіх дзяцей, Рут Уолер выратавала тысячы жыццяў. Што праўда, цаной свайго. Роля асобы ў гісторыі часам выглядае менавіта так.

Пахавалі смелую амерыканку на Вайсковых могілках. Магіла захавалася і па сённяшні дзень, злева па цэнтральнай алеі. А пеніцылінавы завод — гэта цяпер прадпрыемства “Белмедпрэпараты”».

## Спадчына ў нябыт, а асоба ўсё цікавейшая

Экскурсавод **Цімох Акудовіч** піша ў сваім тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон»:

«Быў такі мастацтвазнаўца ў сярэдзіне XX стагоддзя — Міхаіл Кацар. Кацар напісаў кнігу пра беларускі народны арнамент.

Кнігі гэтай вы амаль што дакладна ў вочы ніколі не бачылі, але вынікі яе ўплыву можаце назіраць ці не кожны дзень. Бо менавіта Кацар прыдумаў, што кожны асобны элемент арнаменту ў народнай вышыўцы нешта значыць. І да сённяшняга дня ў кнігах, на плакатах, паштоўках, календарах вы бачыце розныя "сімвалы ўраджаю", "багацця" і "сям'і".

Я ў сваім канале некалькі разоў ужо пісаў пра яго. Была і дэтэктыўная гісторыя пра арнамент на сцягу, і гнеўны пост пра арнаментальныя сімвалы.

**Вольга Лабачэўская** ў апошнім выпуску зборніка "Беларуская міфалогія" прайшлася па сімволіцы Кацара ў грунтоўным артыкуле "Патрыятычная міфалогія беларускага арнаменту прафесара М. С. Кацара". А Зміцер Скварчэўскі ў "Нашай гісторыі" (3/2021) паставіў пад сумнеў гісторыю пра тое, што арнамент на сцягу належыць сястры Кацара.



Дзіўна атрымліваецца: этнаграфічная спадчына Кацара пацiху заслужана сыходзіць у нябыт, затое наколькі цікавейшай становіцца сама асоба!»

## Неспадзяваны юбілей

Краязнаўца з Параф'янава Докшыцкага раёна **Кастусь Шыталь** піша ў сябе ў Фэйсбуку:

«Дзякуючы аднаму добраму чалавеку ўдалося знайсці дату першай згадкі пра сяло Порплішча [цяпер Докшыцкага раёна]. Гэта 8 ліпеня 1511 года, дата стаіць на дакуменце аб продажы зямлі з сялянамі ад Сямёна Чартарыйскага Юрыю Зяновічу.

Разам з Порплішчам у дакуменце згадваюцца сяло Старое (магчыма, тое, што на поўнач ад Сітцаў, але ёсць сумневы) і сяло Замшане. Апошняе дакладна можна звязваць з маёнткам Замошша, землі якога займалі ўсе ваколіцы цяперашняй Крулеўшчыны. Вёска Слабада ў XVII–XIX стагоддзях фігуравала ў дакументах як Замошская Слабада.

Вядома, што паселішча магло існаваць шмат гадоў да таго, як яго першы раз згадалі ў дакументах. Але прынята юбілеі гарадоў і вёсак адлічваць ад даты іх першай згадкі. Такім чынам, сёлета Порплішчу споўнілася 510 гадоў».

Раней сяло афіцыйна лічылася крыху маладзейшым: найранейшая выяўленая згадка пра яго датавалася 1529 годам. А цяпер паселішча «пастарэла» адразу на 18 гадоў.

## Усяго 60 гадоў таму ў Парыжы ў дэманстрантаў стралялі

17 кастрычніка прэзідэнт Францыі Эманюэль Макрон усклаў вянок на беразе Сены. На гэтым месцы ў 1961 годзе парыжская паліцыя расстраляла дэманстрацыю прыхільнікаў незалежнасці Алжыра, расказвае *Le Monde*. Тады загінула не менш за 120 чалавек. Сёння такое цяжка ўявіць у еўрапейскай краіне, а гэта было ўсяго два пакаленні назад.

Падзеі восені 1961 года цяпер успрымаюцца французамі як ганебныя, хоць сілавы разгон дэманстрацыі адбыўся не на роўным месцы. Баевікі Фронту нацыянальнага вызвалення Алжыра нападалі на французскіх паліцыянтаў нават на тэрыторыі метраполіі. Такім чынам яны спадзяваліся наблізіць свае мэты. Толькі за студзень – кастрычнік 1961 года на вуліцах французскіх гарадоў загінулі 22 паліцэйскія — можна ўявіць сабе, наколькі прагнулі помсты сілавікі — і дзясяткі алжырцаў.

Але вечаровая дэманстрацыя ў кастрычніку была запланаваная як мірная. Жорсткія дзеянні паліцыі былі справакаваныя запушчанымі чуткамі пра гібель паліцэйскіх. У выніку паліцыя затрымала 12 000 алжырцаў, дзясяткі загінулі.

Злавесную ролю ў падзеях адыграў прэфект паліцыі Марыс Папон — пазней яго асудзяць, але не за 1961 год, а за ролю ў дэпартацыі габрэяў падчас вайны.

У выніку Францыі не ўдалося спыніць ходу гісторыі. Пройдзе паўгода — і Алжыр здабудзе незалежнасць. ◆




FERNAND PARIZOT / AFP

**Паліцыя ахоўвае затрыманых дэманстрантаў.**





































**Два дні на месяц мы прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на сайтах і ў тэлеграм-канале @historynn**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях і крамах. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, ragna.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.